КАМУНІСТЫЧНАЯ ПАРТЫЯ ПОЛЬШЧЫ.
(Сэкцыя Камінтэрну).
КАМУНІСТЫЧНАЯ ПАРТЫЯ ЗАХ. БЕЛАРУСІ.

Пролетарыі ўсіх краёў, злучайцеся!
פראָלעטאריער פון אלע לענדער, פאראייניקט זיך!
Proletarjusze wszystkich krajów, łączcie się!
Пролетарии всех стран, соединяйтесь!
Visu šalių proletarai, vienykitės!

# БАЛЬШАВІК

ОРГАН ЦК КАМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ.



ЖНІВЕНЬ
1931 год.

№ 3 (44)

КАМУНІСТЫЧНАЯ ПАРТЫЯ ПОЛЬШЧЫ.
(Сэкцыя Камінтэрну.)

Пралетары ўсіх краёў злучайцеся!

# БАЛЬШАВІК

ОРГАН ЦК КАМУНІСТЫЧНАЕ ПАРТЫІ ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ.

№ 3 (44) Вільня, Жнівень 1931 г. № 3 (44)

## Насустрач буйнейшым баям у Польшчы.

Шэраг масавых баёў, якія адбыліся за апошнія месяцы ў Польшчы, азначае новую, вышэйшую ступень рэвалюцыйнага ўздыму, якая ставіць перад Кампартыяй Польшчы надзвычайна адказныя задачы.

Пленум ЦК кампартыі Польшчы, які нядаўна адбыўся, рашэньні якога аснованы на ўказаньнях XI пленуму ВККІ, даў грунтоўны аналіз насьпяваньня прадпасылак рэвалюцыйнага ўздыму ў Польшчы і вынікаючыя з гэтага аналізу дырэктывы на бліжэйшы пэрыяд.

За апошнія месяцы рэзка абвострыўся фінансавы крызыс, які перш за ўсе выражаецца ў вострым дэфіцыце дзяржаўнага бюджэту. Дэфіцыт за люты-чэрвень дасягнуў нябывалай сумы—126 млн. злотых, тады як за ўвесь папярэдні год ён складаў 53 млн. злотых. У Польшчы, ня маючай вялікіх капіталаў, пры слабым прыліве замежных капіталаў і ўзмацняючымся—таксама пад уплывам фінансавага крызысу ў Нямеччыне—адліве капіталаў, востры бюджэтны дэфіцыт можа ў бліжэйшы час выклікаць буйныя банкруцтвы падобна таму, як гэта мела мэсца ў Нямеччыне. Рэзэрвовы фонд Польскага банку ў першым толькі паўгодзьдзі скараціўся на 30 проц. Пагроза інфляцыі хутка набліжаецца.

Ратуючыся ад банкруцтва, урад Пілсудзкага скарачае на 16% выдаткі за лік дзяржаўных служачых і беспрацоўных. Аднак, гэтая палумера не змагла аднавіць «роўнавагу» бюджэту, а прыводзіць толькі да далейшага звужваньня ўнутранага рынку.

Вызначаны ў рэзалюцыі XI пленуму ВККІ працэс развалу гаспадарчага жыцьця Польшчы пацьвярджаецца такімі фактамі, як зачыненьне двух буйнейшых банкаў (Гандлевага банку ў Лодзі і банку Стадгагэна ў Прыморскай вобласьці), як банкруцтва шэрагу вялізарных прадпрыемстваў накшталт «Відзеўскай мануфактуры» і т. п.

Нямінуча новая рэзкае скарачэньне прамысловага вытворства і падзеньне цэн на сельскагаспадарчыя прадукты. Скараціўшаяся за апошнія тры месяцы быццам на 120 тыс. (з 380 да 260 тыс.) колькасьць зарэгістраваных беспрацоўных пачне зноў скачкамі ўзрастаць. Вёска будзе ўсё больш галець. «Набліжаючыяся восень і зіма будуць цяжкім іспытам для польскай грамадзкасьці»,—піша «Кур'ер Пазнанскі».

Мы павінны перачакаць, — паўтарае адзін з ворганаў пілсудчыны — «Слово польске».—Толькі нейкі аграмадны высілак усяе грамады, асабліва заможных клясаў, якія павінны зразумець, што **грунт гарыць у іх пад нагамі,** мог-бы вывесьці з сучаснага становішча».

Але працоўныя масы ня могуць і ня хочуць цярпліва чакаць. Шалёнае наступленьне капіталу сустракаецца з рэвалюцыйным контрнаступленьнем пралетарыяту, якое разьвязвае сілы рэвалюцыйнага сялянскага і нацыянальна-вызваленчага руху і ўцягвае ў барацьбу хістаючыяся элементы гарадзкой дробнай буржуазіі. Менавіта гэта **ўсеагульнасьць рэвалюцыйнага ўздыму**—пры яго значнай яшчэ няроўнамернасьці—характарызуе пералом, які адбыўся ў шырокіх масах пралетарыяту і эксплёатаванага сялянства. 1-е мая, Яворжна (стачка гарнякоў, якая перайшла ў барыкадныя баі), забастоўкі ў Дамброўскім раёне, стачка трамвайшчыкаў у Варшаве, стачка маракоў у Гдыні, усеагульная забастоўка ў Горадні—вось асобныя зьвеньні гэтага пералому.

Ужо выключна баявы характар майскіх дэманстрацый, у якіх актыўны ўдзел прымала таксама сялянская маса, упартая барацьба за вуліцу сьведчылі аб высокім ўзроўні рэвалюцыйнай актыўнасьці мас, якія ідуць пад камуністычнымі сьцягамі.

Барыкадныя баі ў Яворжні сыгналізавалі аб глыбокім бушаваньні ў масах, якія пераходзяць да вышэйшых формаў барацьбы. Частковая забастоўка дамброўскіх гарнякоў на чале з камуністамі, напракі сацыял-фашыстам, якія хацелі разрадзіць атмасфэру пры дапамозе аднадзённай забастоўкі, гаварыла аб наступіўшым зрушшы ў забастовачным руху. Забастоўка трамвайшчыкаў у самым цэнтры фашыстоўскай дыктатуры ўзьняла на барацьбу адставаўшыя дагэтуль атрады пралетарыяту ў стратэгічна важных для фашызму пунктах (дзяржаўныя і муніцыпальныя служачыя, маракі, чыгуначнікі).

Такім чынам, значна пашырыўся фронт забастовачнай барацьбы; цэнтр цяжару перасунуўся да буйных прадпрыемстваў. Ярка выявілася тэндэнцыя да пашырэньня забастовачнай барацьбы на цэлыя галіны вытворчасьці. Перарастаньне абаронных стачак у наступальныя, высокі ўзровень баявой салідарнасьці бастуючых, растучы ўдзел беспрацоўных, аб'яднаньне забастовак з барацьбой за вуліцу, спалучэньне эканамічнай і палітычнай барацьбы — прымусілі буржуазію і ўрад пайсьці на ўступкі. Адсюль пераважная большасьць пераможных забастовак, якія выклікаюць у рабочай клясе ўпэўненасьць у сваіх сілах. **У гэтым заключаецца іх міжнароднае значэньне.**

Калі забастоўка рурскіх гарнякоў і берлінскіх мэталістых давялі масам, што кампартыя і рэвалюцыйныя прафарганізацыі зьяўляюцца адзінай сілай, якая змагаецца супроць перакладваньня цяжараў крызысу на плечы працоўных, дык апошнія забастоўкі ў Польшчы даказалі магчымасьць пераможнай барацьбы пад кіраўніцтвам камуністаў. **Кіруючая роля Кампартыі значна ўзмацнілася.**

Праз перагароды фашыстоўскага тэрару ўсё шырэй прарываецца рух беспрацоўных, хваля якога залівае Польшчу, Заходнюю Ўкраіну і Заходнюю Беларусь. Выключная актыўнасьць дэманстрацый беспрацоўных прымушае фашызм пускаць у ход, акрамя патронаў, дэмагагічныя абяцанкі і жабрачыя падаткі пры адначасовым урэзваньні фонду дапамогі беспрацоўным. За апошні час фашыстоўскі ўрад высунуў праэкт, каб даць работу беспрацоўным за кошт скарачэньня дзён і гадзін працуючых рабочых, пры скарачэньні заработнай платы.

Даведзеная да роспачы падаткамі і ліхвярскімі даўгамі вёска прадстаўляе — па словах буржуазных публіцыстаў — «кацёл, які кіпіць і які пазбаўлен кляпанаў бясьпечнасьці». «У сувязі з усеагульнай галечай,—піша Сьвентахоўскі,—зразумела баязьнь якога-та выбуху роспачы, якая павялічваецца элемэнтамі, якія ў гэтым становішчы знаходзяць магчымасьць сеяць буру нішчэньня». Антыпадатковы рух ахапіў шырокія масы сялянства ня толькі на Заходняй Украіне і Беларусі, але і ў самой Польшчы. Ужо пачаўся прыліў новай хвалі нацыянальна-вызваленчага руху народных мас. У той жа час украінская і беларуская буржуазія прадаецца польскаму імпэрыялізму; вядуцца закулісныя перагаворы польскіх фашыстаў і ўкраінскіх нацыянал-фашыстаў. Крывавая «пацыфікацыя» яшчэ больш абвострыла нацыянальна-вызваленчую барацьбу заходня - ўкраінскіх мас супроць польскай акупацыі. Часьцей сталі сутычкі з паліцыяй і акупантамі. Зноў пачаліся падпалы. Узмацнілася барацьба нізоў супроць згодніцкіх вярхоў у культурна нацыянальных арганізацыях, у кааператывах і г. д.

Нарэшце, зьявіўся новы фактар—глыбокае **бушаваньне сярод дзяржаўных служачых,** што будзе садзейнічаць разлажэньню дзяржаўнага апарату. Спагада да пралетарскай рэвалюцыі пачынае ўзьнікаць і сярод руйнаваных крызысам колаў дробнай гарадзкой буржуазіі. Гэтая спагада асабліва праявілася ў час забастоўкі варшаўскіх трамвайшчыкаў. «Варшаўская газэта» з абурэньнем і непакоем пісала тады аб «паводзінах шырокай публікі, якая не прабавала нават зламаць забастоўку, як гэта яна рабіла ў папярэднія гады».

Найбольш характэрнай рысай пералому, які адбываецца ў настроях і сьвядомасьці мас, зьяўляецца **паскоранае**

**зжываньне ілюзій, якія распаўсюджваюцца сацыял-фашыстамі і народніка-фашыстамі аб мірным «дэмакратычным» выхадзе з крызысу.** Паказваемы камуністамі шлях рэвалюцыйнага вырашэньня крызысу знаходзіць водгук у шырокіх масах. У ходзе штодзённай барацьбы звужваецца разьмер хістаньняў мас, расьце іх бояздольнасьць. Таму ўсё больш слабеюць прывадныя пасы фашыстоўскай дыктатуры да масаў.

У асобных—**праўда, яшчэ рэдкіх выпадках**—гэты працэс адбываецца бурным тэмпам. Яскравы прыклад дала забастоўка трамвайшчыкаў у Варшаве, выклікаўшая нябывалы дагэтуль разрыў паміж нізамі і вярхамі сацыял-фашыстоўскіх і фашыстоўскіх прафсаюзаў. Але гэты працэс ня прыняў яшчэ бурных разьмераў па ўсім фронце. Побач з развалам фашыстоўскай «рабочай партыі»—ББС, існуе яшчэ масавы базіс ППС, якая ўзмоцненым манэўраваньнем часткова кампэнсуе спадак свайго ўплыву і прабуе станавіцца на чале мас, каб скіраваць іх з рэвалюцыйнага шляху. Тактыка падмены працяжнай забастовачнай барацьбы аднадзённымі дэманстратыўнымі забастоўкамі часам з некаторым посьпехам праводзіцца сацыял-фашыстамі. Сацыял-фашызм праявіў значную здольнасьць прыстасоўваць сваю фразэалёгію і тактыку да цяжкіх для яго варункаў рэвалюцыйнага ўздыму.

Чым мацней няўпэўненасьць у лягеры фашызму, тым прыкметней нарастае крызыс вярхоў пад уплывам эканамічнага развалу ў абвастраючайся клясавай барацьбе, тым больш яскрава выступае роля сацыял-фашызму, як апошняга рэзэрву і галоўнай сацыяльнай апоры буржуазіі.

III Пленум ЦК КПП правільна падкрэсьліў, што «па меры росту рэвалюцыйнай хвалі магчымы яшчэ шэраг «дэмакратычных» манэўраў для ратаваньня дыктатуры буржуазіі, магчыма пранікненьне розных новых вонкавых форм фашыстоўскага рэжыму, розных дэкларацый ашуканства мас». Таму — згодна паказаньню XI пленуму ВККІ — пленум ЦК КПП завастрыў увагу партыі на барацьбе за апанаваньне масавых апорных пунктаў сацыял - фашызму, народніцка - фашызму, які спрабуе паралізаваць барацьбу сялянскіх мас у карэннай Польшчы, і нацыянал-фашызму, які імкнецца адцягнуць ад рэвалюцыйнай барацьбы працоўныя масы Зах. Украіны і Зах. Беларусі. Гэта задача стаіць зараз перад Партыяй па-новаму. Камуністы павінны паскорыць працэс разлажэньня сацыял-фашызму. Намаганьні Партыі павінны адпавядаць узрослым магчымасьцям ажыцьцяўленьня гэтай задачы. Гэта тым больш патрэбна, што на грунце галавакружэньня ад посьпехаў у некаторых зьвеньнях партыі можа ўзьнікнуць недаацэнка існуючай небясьпекі сацыял-фашызму (падобныя сімптомы маюцца напрыклад, у дамброўскай арганізацыі).

Сучасную стадыю рэвалюцыйнага ўздыму характарызуе таксама ўсё мацней выступаючая ў ім гегемонія пралетарыяту пры хуткім выроўніваньні дыспрапорцыі паміж сялянскім рухам у Польшчы, на Заходняй Украіне і ў Беларусі. Гэта—адна з асноўных прадпасылак перамогі рэвалюцыі ў рашаючых цэнтрах панаваньня польскай буржуазіі.

Аднак слабым бокам рэвалюцыйнага руху, які ўсё шырэй прарываецца праз перагароды фашыстоўскага тэрару, зьяўляецца далёка яшчэ не пераможаная разьяднанасьць выступленьняў пралетарыяту і сялянства, а таксама асобных частак рабочае клясы, перш за ўсё беспрацоўных і працуючых рабочых. Рух беспрацоўных распылены. Удзел працуючых у дэманстрацыях беспрацоўных — мінімальны. Нарэшце, сельска-гаспадарчы пралетарыят усё яшчэ надта адстае ад агульнага рэвалюцыйнага руху рабочых і сялянскіх мас. **Пашырэньне масавага базісу руху і каардынаваньне яго важнейшых зьвеньняў** становіцца неабходным варункам разгорнутага пераможнага наступленьня супроць фашыстоўскай дыктатуры, супроць усяе капіталістычнай сыстэмы.

«Шпарка расьце,—гаворыць рэзалюцыя III пленуму, — баявы настрой у масах. Насьпяваюць стыхійныя выбухі, узьнікаюць новыя формы барацьбы, паказваюца магчымасьці прарыву фашыстоўскага фронту ў найбольш слабых мясцох. На ўласным досьледзе працоўныя масы ўсё хутчэй падыходзяць да рашаючых баёў за ўладу, за дыктатуру пралетарыяту».

Нарастаючы рэвалюцыйны крызыс, крызыс клясавага панаваньня буржуазіі, не адасоблен кітайскім мурам ад сучаснага рэвалюцыйнага ўздыму. Насьпяваньне яго прадпасылак адбываецца паскораным тэмпам. «Гэты крызыс,—падкрэсьлівае пленум ЦК КПП, — паставіць перад Партыяй ва ўсёй шырыні задачу **падрыхтоўкі і арганізацыі ўзбройнага паўстаньня рабочых, сялян і салдат.** Ужо зараз партыя павінна рыхтавацца да гэтых задач павышэньнем бояздольнасьці сваіх шэрагаў і ўзмацненьнем барацьбы за большасьць пралетарыяту».

* * *

Характар і напрамак дзейнасьці партыі ў сучасны пэрыяд пленум вызначыў лёзунгам: **«Праз штодзённую барацьбу да рашаючых баёў за ўладу».** Гэта значыць, што ў сучасных варунках асноўным фактарам насьпяваньня рэвалюцыйнага крызысу зьяўляецца адпор, які ставяць масы атакам капіталу, паступовы пераход шырокіх мас пралетарыяту і эксплёатаванага сялянства ў рэвалюцыйнае контрнаступленьне. Сталая арганізацыя штодзённай барацьбы вакол непасрэдных патрэб пралетарыяту, сялянства і гарадзкой беднаты, пашырэньне фронту гэтай барацьбы, каардынаваньне руху працуючых і беспрацоўных, вывядзеньне вялікіх мас на вуліцу, арганізацыя масавага адпору ўзброеным сілам фашызму, спыканьне ў ходзе барацьбы нізоў з верхамі сацыял-фашыстоўскіх, народніцка-фашыстоўскіх і нацыянал-фашыстоўскіх партый, пераход шырокім мільёным фронтам да вышэйшых форм рэвалюцыйнай барацьбы—вось асноўныя задачы, вызначаныя III пленумам.

Для ўзьняцьця актыўнасьці партыі ў нацыянальна-вызваленчым руху пленум рашыў стварыць паварот ад агульнай прапаганды да мабілізацыі шырачэзных народных мас супроць усякіх праяў нацыянальнага ўціску, супроць польскай акупацыі, за самавызначэньне аж да аддзяленьня, як праграму барацьбы за нацыянальнае вызваленьне. На гэтай падставе камуністы Заходняй Украіны і Беларусі павінны ўцягнуць у адзіны фронт барацьбы супроць польскага імпэрыялізму масы, якія ідуць яшчэ за нацыянал-фашыстоўскімі партыямі, адрываючы гэтыя масы ад правадыроў пад лёзунгам самавызначэньня нацыянальнасьцяў аж да аддзяленьня. Толькі такім чынам кампартыя зможа заваяваць шырокія масы прыгнечаных народаў.

У ходзе штодзённай барацьбы за хлеб, працу і волю неабходна максымальна ўзмацніць арганізацыйны склад партыі і яе прывадныя пасы да масаў, асабліва на буйных прадпрыемствах. Павінна быць цалкам і поўнасьцю выканана дырэктыва аб падваеньні колькаснага складу партыі. У самы кароткі тэрмін павінна быць дасягнута значнае ўзмацненьне рэвалюцыйных прафсаюзаў, апазыцыі ў сацыял-фашыстоўскіх і фашыстоўскіх саюзах, рэвалюцыйнага прафруху.

«Кожная арганізацыя, кожная ячэйка, кожны член партыі,—напамінае пленум, —павінны цьвёрда усьвядоміць сабе, што наша актыўнасьць, наша арганізацыйнае пранікненьне ў масы будуць вызначаць тэмп перарастаньня штодзённай барацьбы ў рашаючыя бітвы за ўладу». Таму партыя абавязана ўзмацніць барацьбу супроць усялякіх праяваў хвасьцізму, супроць правага апартунізму, як галоўнай небясьпекі, і супроць «левага» апартунізму, супроць недаацэнкі сытуацыі і «левых» авантурысцкіх пераскокваньняў праз сучасны этап разгорнутай барацьбы за масы.

Каб паскорыць рэвалюцыйны выхад з крызысу, партыя ў сваіх выступленьнях высоўвае лёзунгі, якія каардынуюць рух мас, разьвязваюць іх баявую энэргію, сутыкаюць іх непасрэдна з фашыстоўскім дзяржаўным апаратам, ставяць перад імі рубам пытаньне аб уладзе і палягчаюць пераход да вышэйшых форм барацьбы. Такі характар мае зараз лёзунг: **«Ні граша падаткаў ураду голаду, беспрацоўя, тэрару і вайны».** Зьвязаная з ім антыпадатковая барацьба мабілізуе шырокія масы пралетарыяту, сялянства і гарадзкой дробнай буржуазіі на барацьбу супроць фашыстоўскай дыктатуры. Падобную ролю можа адыграць і лёзунг канфіскацыі сродкаў харчаваньня ў вялікіх магазынах і абшарніцкіх маёнтках. У вёсцы шырокая кампанія пад гэтым лёзунгам будзе разьвязваць барацьбу сялянскіх мас за канфіскацыю зямлі бяз выкупу. Такое-ж узьдзейнічаньне на масы можа аказаць лёзунг выкарыстаньня сялянамі абшарніцкіх па-

шаў і лясоў. Імкненьню мас да больш вострых форм барацьбы супроць фашызму адпавядаюць лёзунгі, якія клічуць вызваляць сілай арыштаваных і разбройваць фашыстоўскіх дружыньнікаў. Па меры насьпяваньня рэвалюцыйнага крызысу, партыя павінна будзе завастраць свае лёзунгі і праводзімую пад гэтымі лёзунгамі барацьбу.

У галіне забастовачнага руху пленум зьвярнуў асаблівую ўвагу на разгортваньне масавых забастовак, зьвязаных з вулічнымі дэманстрацыямі, якія ахопліваюць групы фабрык, цэлыя раёны і галіны прамысловасьці, забастовак, якія—пры актыўнай ролі партыі—будуць перарастаць ва ўсеагульную забастоўку.

Пленум падкрэсьліў таксама аграмаднае значэньне масавых палітычных забастовак, як зброі **барацьбы супроць ваеннай падрыхтоўкі польскага імпэрыялізму, у абарону СССР,** барацьбы, якая павінна стаяць у цэнтры ўсей дзейнасьці партыі. Чым больш паглыбляецца крызыс капіталізму, тым настойлівей буржуазія шукае выхаду на шляху контррэвалюцыйнай вайны супроць СССР. Палітычная рэзалюцыя пленуму, на падставе поўнага аналізу міжнароднага і ўнутранага становішча Польшчы, правільна сыгналізуе далейшы рост небясьпекі антысавецкай інтэрвэнцыі і неабходнасьці ўзмацненьня барацьбы з ёю. Паказваючы на вялізарныя дасягненьні сацыялістычнага будаўніцтва ў супроцьлегласьць развалу капіталістычнай гаспадаркі, пленум цесна ўвязаў лёзунг абароны СССР з прапагандай рэвалюцыйнага выхаду з крызысу.

Нарастаючы рэвалюцыйны крызыс ў Нямеччыне ставіць перад партыяй задачу яшчэ больш шчыльнага, чым дагэтуль, супрацоўніцтва з Кампартыяй Нямеччыны.

Міжнародная буржуазія спрабуе ратаваць капіталістычную Нямеччыну ад пралетарскай рэвалюцыі. Гэтае «ратаваньне» азначае яшчэ большае паняволеньне нямецкага народу, закаванага ў ланцугі версальскага дагавору. Нямецкая буржуазія ідзе на капітуляцыю перад французкім імпэрыялізмам, каб узмацніць свой клясавы фронт у барацьбе з рэвалюцыяй. **Гэта непарыўна зьвязана з арганізацыяй антысавецкага блёку** і будзе штурхаць нямецкую буржуазію на гнілы кампраміс з польскім імпэрыялізмам.

Жах перад нямецкай рэвалюцыяй штурхае ў гэтым напрамку і польскую буржуазію, якая патрабуе адначасова гарантый недатыкальнасьці заходніх межаў Польшчы. «Памылковы погляд, які распаўсюджаны асабліва за-межамі,—піша ворган пілсудчыкаў «Кур'ер Цодзенны»,—быццам Польшча жадала нацягнутых адносін паміж Францыяй і Нямеччынай. Мы ўсе жадаем стабілізацыі ў Эўропе. Мы ўсе разумеем, што нямецка-француская згода азначае вал перад усялякімі грознымі ўскладненьнямі. У гэтым выпадку ўсе мы аднае думкі». Гэтую пазыцыю занялі ў сойме прадстаўнікі ўсіх партый, пачынаючы з прадстаўніка нацыянал-дэмакратыі — Стронскага, праз прадстаўніка ўрадовага лягеру—Мацкевіча, канчаючы сацыялістам Недзялкоўскім.

У гэтых варунках абавязкам Кампартыі Польшчы зьяўляецца ўзмацненьне адзінага **фронту рэвалюцыйнай барацьбы Польшчы і Нямеччыны.** Барацьба за зьнішчэньне ланцугоў версальскай сыстэмы становіцца ўдарнай задачай нашай партыі. Яна азначае перш за ўсё завзятую барацьбу супроць польскай імпэрыялістычнай дзяржавы, як жандарма гэтай сыстэмы ва ўсходняй частцы капіталістычнай Эўропы. У сувязі з гэтым, буйнейшае значэньне набывае барацьба за вызваленьне прыгнечаных польскім імпэрыялізмам народаў, за зьнішчэньне польскай акупацыі, за вывядзеньне польскіх войск і акупацыйных уладаў, за поўнае права гэтых народаў на самавызначэньне аж да аддзяленьня ад польскай дзяржавы. Гэта датычыць ня толькі Заходняй Украіны і Беларусі, але і Горнай Сілезіі, Данцыгскага калідору і тэрыторыі, якая населена літоўцамі. Мы павінны ўжо зараз растлумачыць працоўным масам, што пралетарская рэвалюцыя ў Польшчы і Нямеччыне азначае зьнішчэньне ўсей вэрсальскай сыстэмы і заснаванага на ёй будынку ўціску і эксплёатацыі. **Баявы саюз пралетарыяту Польшчы і Нямеччыны павінен стаць сілай, якая ў цэнтры Эўропы нанясе сьмяротны ўдар прагніўшаму капіталізму.**

**Ю. Ленскі.**

Пружанскі.

## Ліквідацыя адставаньня — цэнтральнае зьвяно.

Падлік вынікаў першамайскай кампаніі і тых **абставін,** у якіх яна праходзіла і якія стварыліся ў краі ўжо пасьля першага маю, улік таго, як КПЗБ справілася з задачамі па арганізацыі і кіраўніцтву гэтай кампаніяй мае першараднае значэньне.

Што паказвае 1-е мая як у Польшчы, так і на Зах. Беларусі?

**Ва ўсім краі шпарка нарастае рэвалюцыйны ўздым.** Пашыраецца баявая і палітычная актыўнасьць працоўных мас. Першамайскія дэманстрацыі і першамайская палітычная забастоўка, якія ахапілі дзясяткі тысяч пралетараў Польшчы, з посьпехам прарывалі ў шэрагу месц паліцэйска-фашыстоўскі фронт белага тэрару і сацыял-фашыстоўскай дэмагогіі. Рабочыя Варшавы, Дамброўскага басэйну і дзясяткаў іншых гарадоў Польшчы больш актыўна чым у мінулым годзе змагаліся за вуліцу, па баявому даючы адпор паліцыі і фашыстоўскім дружыньнікам. У той час як першамайскія дэманстрацыі рабочых пад сьцягамі КПП адзначаліся ўдзелам шматтысячных рабочых мас і ўпартасьцю у барацьбе супроць паліцыі, нялічныя мітынгі і выступленьні, арганізаваныя ППС і Бундам, паказваюць на далейшае падзеньне ўплываў гэтых партый у асяродзьдзі прамысловага пралетарыяту.

Надзвычайна паказальным момантам для характарыстыкі 1-га маю гэтага году зьяўляюцца бурныя і масавыя дэманстрацыі сялян ужо ня толькі як раней на Зах. Украіне і Зах. Беларусі, **але і ў карэннай Польшчы.** Падзеі ў Любартаве маюць тое вялізарнае палітычнае значэньне, што яны кідаюць яркі сьвет на рост рэвалюцыйных настрояў і актыўнасьці ў асяродзьдзі польскага сялянства, значныя масы якога пачынаюць станавіцца на шлях барацьбы за зямлю, супроць фашыстоўскай дыктатуры—**пад кіраўніцтвам КПП, у саюзе з рабочай клясай.** Любартаў гэта ўжо не адзінкавае, ізаляванае зьявішча. Гэта прадвесьнік магутнай хвалі новых сялянскіх выступленьняў, якія разьвіваюцца і растуць пад лёзунгамі нашай партыі.

Арганізаванасьць, масавасьць і баявы характар першамайскіх выступленьняў у Польшчы можа служыць таксама паказальнікам растучай сілы партыйных арганізацый КПП і палепшаньня іх сувязяй з масамі. Бязумоўна, што такія арганізацыі як Варшаўская, Дамброўская і шэраг іншых, з посьпехам перамагаюць недахопы і прабелы ў рабоце, зьвязваючыся ўсё мацней і ўсё глыбей з пралетарскімі масамі.

Першае мая гэтага году цалкам пацьвердзіла агульны аналіз сытуацыі і перспэктыў руху, які быў дадзены яшчэ на V зьезьдзе КПП, які адзначыў, што Польшча ўступіла ў пэрыяд шпаркага нарастаньня рэвалюцыйнага ўздыму і палітычнай актыўнасьці працоўных мас.

З аграмаднай сілай і поўнай яскравасьцю гэты аналіз сьцьвярджаецца ўсім ходам рэвалюцыйных выступленьняў рабочых і сялян Польшчы **ўжо пасьля першага маю.** Прайшло толькі два месяцы, а як багаты яны вялікім палітычным зьместам, як насычаны яны буйнейшымі выступленьнямі рабочых, па сваёй масавасьці і актыўнасьці пераважаючымі выступленьні першага маю! З усёй відавочнасьцю выступае той факт, што першае мая гэтага году быў **пераломным момантам** у разьвіцьці клясавай барацьбы, што ён даў **магутны штуршок да пашырэньня** рэвалюцыйнага фронту барацьбы, да падвышэньня баявой актыўнасьці мас. Усе падзеі апошняга часу гавораць аб тым, што ў Польшчы ў **прысьпешаным тэмпе** адбываецца нарастаньне прадпасылак рэвалюцыйнага крызысу і што XI Пленум ВККІ меў рацыю, калі ён высунуў Польшчу побач з Нямеччынай **на адно з самых перадавых месц у міжнародным рэвалюцыйным руху.**

Што зьяўляецца характэрным для пасьляпершамайскіх падзей?

Выступленьні рабочых і беспрацоўных носяць **паўсямесны** характар. Ужо ня толькі ў Варшаве, ня толькі ў Дамброўскім басэйне і ў Верхн. Сілезіі але літаральна ў дзесятках розных буйных і больш дробных рабочых цэнтрах адбываюцца бурныя выступленьні беспрацоўных і працуючых пралетараў. Выступаючы на вуліцу масы пад лёзунгамі барацьбы за хлеб і працу, супроць усё новых і новых атак фашыстоўскага ўраду ўжываюць цэлы шэраг вастрэйшых сродкаў барацьбы за вуліцу **аж да пабудовы барыкад,** як гэта было ў Жырардаве і Катовіцах, аж да руйнаваньня дзяржаўных устаноў, як гэта было ў Плоцку. Мы бачым, як масы высоўваюць у ходзе самой барацьбы **новыя формы і новыя мэтады** гэтай барацьбы. Мы бачым, як рабочыя, якія выходзяць на дэманстрацыю, усё больш упарта змагаюцца за вуліцу і аказваюць арганізаваны адпор паліцыі.

Побач з дэманстрацыямі пашыраецца забастовачная барацьба напракі і супроць сацыял-фашыстоўскіх правадыроў. У гэтых адносінах надзвычайна характэрным і паказальным быў працяг гарнякамі Дамброўскага Басэйну пратэстацыйнай забастоўкі, абвешчанай ППС дзеля таго, каб зламаць растучую волю рабочых да барацьбы. На гэты раз выпрабаваны манэўр сацыял-фашыстоўскіх здраднікаў не ўдался і быў сарваны рэвалюцыйнымі гарнякамі. Усё больш частымі становяцца факты ўвязваньня забастовак на грунце эканамічных патрабаваньняў з рэвалюцыйнымі дэманстрацыямі бастуючых. Падзеі ў Яворжна, скончыўшыяся вялікім кровапраліцьцем і забойствам некалькіх рабочых, паказалі, як увязваньне забастоўкі і дэманстрацыі, будуючай барыкады, ператвараецца ў магутнае рэвалюцыйнае выступленьне рабочых.

Нарэшце, у гэты-ж пэрыяд мы маем такі буйны палітычны факт, як **забастоўку варшаўскіх трамвайшчыкаў.** Гэта забастоўка зьяўляецца падзеяй выключнага парадку і значэньня. Забастоўка трамвайшчыкаў—забастоўка **пераломнага характару,** якая гаворыць аб тым, як рабочыя масы ўсё больш актыўна пераходзяць у рашучае і разгорнутае контрнаступленьне. Варшаўскія трамвайшчыкі ўзьнялі высока сьцяг **рэвалюцыйнай масавай стачкі,** прадэманстраваўшы той бясспрэчны факт, што рэвалюцыйны ўздым у Польшчы ўступае **ў новую стадыю, уздымаючысь на больш высокую ступень.** Такая забастоўка зьяўляецца гэтакім сродкам барацьбы, аб якім Ленін пісаў у 1914 годзе, г. зн. у пэрыяд бурнага рэвалюцыйнага ўздыму ў Расіі, як аб сродку найбольш верна і шырока ўцягваючым у рух шырокія народныя масы. Стачка варшаўскіх трамвайшчыкаў паказвае, што рабочая кляса Польшчы пачынае карыстацца гэтым сродкам рэвалюцыйнай забастоўкі, «якая ўздымае адсталых да новага жыцьця барацьбой за эканамічныя палепшаньні», «якая ганьбіць і кляйміць усякі выдатны акт гвалту і самаволі», «якая разгортвае чырвоны сьцяг на вуліцах сталіц, нясучы рэвалюцыйныя заклікі ў натоўп, у народную масу». Значэньне забастоўкі трамвайшчыкаў у Варшаве выходзіць далека за мяжы толькі Варшавы ці толькі рабочых мас Польшчы. Гэта забастоўка, таксама як і іншыя да яе падобныя, якія будуць нямінуча ўзьнікаць у розных мясцох, у розных галінах прамысловасьці — «узварушвае і прабуджае, палітычна выхоўвае і арганізуе народныя масы для рэвалюцый», прасякаючы сваім уплывам у вёску, у казармы, у сярэднія дробна-буржуазныя пласты. У гэтым сэнсе да-рэчы прывесьці думку Леніна. выказаную ім з поваду такіх стачак у пэрыяд рэвалюцыйнага ўздыму. Ленін пісаў:—«Рабочая кляса ўцягвае ў рэвалюцыйныя выступленьні масы працоўных і эксплёатаваных, пазбаўленых элемэнтарных правоў і даведзеных да роспачлівага становішча. Рабочая кляса вучыць іх рэвалюцыйнай барацьбе, выхоўвае іх для рэвалюцыйнага чыну, растлумачвае ім, дзе і ў чым выхад і ратунак. Рабочая кляса вучыць іх не словамі, а справамі, прыкладам, і пры гэтым прыкладам не авантур адзінкавых герояў, а прыкладам **масавага** рэвалюцыйнага выступленьня, якое злучае палітычныя і эканамічныя патрабаваньні». Такім выступленьнем, такім прыкладам зьяўляецца варшаўская рэвалюцыйная стачка трамвайшчыкаў. І менавіта ў гэтым яе вялізарнае значэньне, і менавіта ў гэтым

**тое новае,** што мы маем зараз у рабочым руху. А што рэвалюцыйная стачка ў Варшаве гэта ўжо не ізаляваны, не адасоблены факт, досыць паказаць на забастоўку трамвайшчыкаў у Катавіцах, узьнікшую напракі сацыял-фашыстам, на забастоўкі пратэсту сярод чыгуначнікаў у Варшаве, што сьведчаць аб вялікім нарастаньні забастовачных настрояў у краі і кажуць аб тым, што на шлях варшаўскіх трамвайшчыкаў становяцца і іншыя атрады рабочае клясы.

Якое-ж становішча ў Заходняй Беларусі? Як прайшоў у нас 1-шы май з пункту гледжаньня праверкі рэвалюцыйных настрояў мас і ступені іх актыўнасьці? Як разьвіваюцца ў нас на ЗБ падзеі пасьля 1-га мая?

Ёсьць паасобныя апартуністычныя галасы ў нашых арганізацыях, якія гатовы лічыць, што рэвалюцыйнага ўздыму ў Заходняй Беларусі няма, альбо, што на ЗБ тэмпы росту рэвалюцыйных настрояў разьвіваюцца чарапаш'ім крокам. Ці так гэта? Падзеі, якія адбываліся яшчэ да 1-га мая на ЗБ, паасобныя выступленьні ў дзень 1-га мая і, нарэшце, усё далейшае разьвіцьцё палітычных падзей гаворыць аб тым, што і тут на грунце ўсеагульнага зьбяднеьня працоўных мас, у варунках цяжкага нацыянальнага ўціску — **растуць рэвалюцыйнае нездавольства, бушаваньне і гатоўнасьць да барацьбы.** Агульныя працэсы, якія адбываюцца сярод працоўных карэннай Польшчы, цалкам адносяцца і да працоўных ЗБ. Больш таго, аб'ектыўная абстаноўка ў Зах. Беларусі такая, **што гэтыя працэсы разьвіваюцца тут з яшчэ большай вастратой і глыбінёй.**

Сапраўды, што здарылася ў нас 1-га мая? Там, дзе нашы партыйныя арганізацыі праявілі неабходную актыўнасьць і ўменьне арганізаваць выступленьні мас, там адбываліся выступленьні працоўных. У паасобных раёнах Бярэсьцейскай, Горадзенскай і Віленскай акруг мелі месца дзясяткі сялянскіх сходаў, а ў Дамачэўскім, Берастовіцкім, Волчынскім раёнах —сялянскія дэманстрацыі. У такіх гарадох, як Вільня і Беласток, некалькі сот рабочых вышлі на вуліцу і шукалі нашу арганізацыю. Амаль што адначасова адбываюцца забастовачныя выступленьні рабочых двух віленскіх гут, першамайская забастоўка ахапляе асобныя дзяржаўныя тартакі ў Гайнаўцы. Паўсюды сацыял-фашыстоўскія і фашыстоўскія спробы арганізаваць мірныя першамайскія выступленьні скончыліся няўдачай, за імі пайшоў нязначны лік працоўных.

Пасьля 1-га мая падзеі ідуць па лініі далейшага нарастаньня рэвалюцыйнага бушаваньня ў масах працоўных ЗБ. Пашыраецца і расьце рух падпалу маёнткаў і дзяржаўных устаноў. Для кожнага з нас мусіць быць яскравым **рэвалюцыйны характар** гэтага руху. Яго мы павінны ахапіць сваім кіраўніцтвам, накіроўваючы стыхійнае нездавольства мас **у рэчышча арганізаваных масавых выступленьняў сялянства супроць акупантаў.** У Вільні адбываюцца дэманстрацыі беспрацоўных. У асобных маёнтках Віленшчыны, Бярэсьцейскай акругі і Берастовіцкага раёну выбухнулі забастоўкі батракоў. Усё часьцей прыходзяць весткі аб вострых выступленьнях сялян на грунце камасацыі, падаткаў і ліквідацыі сэрвітутаў (узброены адпор паліцыі з боку сялян у вёсцы Лучыцы, выступленьні ў Валкавыскім павеце і г. д.).

Калі агульныя варункі ў Заходняй Беларусі такія, што тут маюцца ўсе неабходныя прадпасылкі для актыўных і шырокіх выступленьняў мас, дык у выніку слабасьці партыйных арганізацый тыя выступленьні да гэтага часу значна менш актыўны, чым у карэннай Польшчы. І мая выявіла наяўнасьць дыспрапорцыі паміж ступеньню масавасьці і арганізаванасьці выступленьняў на ЗБ і ва ўсей астатняй Польшчы*). Менавіта, улічваючы гэты стан рэчаў, улічваючы досьлед першамайск. кампаніі, апошні пленум ЦК нашай партыі прызнаў, што нашы арганізацыі **адстаюць** ад разьвіваючыхся палітычных падзеяў, што яны **адстаюць** ад палітычнай актыўнасьці мас. Гэта адставаньне, перш за ўсё, прыводзіць да таго, што мы не выкарыстоўваем наяўныя спрыяючыя абставіны для арганізацыі

*) **Рэд.** Гэты артыкул быў напісаны да таго, як на Заходняй Беларусі мелі мейсца масавыя выступленьні рабочае клясы ў Беластоку, Горадні, забастоўкі сельска-гаспадарчых рабочых у Берасьцянскім і Тэраспольскім раёнах і інш., якія сьведчаць аб новым вялікім уздыме забастовачнага руху рабочае клясы на Заходняй Беларусі.

магутных рэвалюцыйных выступленьняў мас.

У ходзе першамайскай кампаніі нашы арганізацыі не праявілі неабходнай ініцыятывы і актыўнасьці ў справе падрыхтоўкі і правядзеньня першамайскіх дэманстрацый і барацьбы мас за вуліцу. Асобныя таварышы, ячэйкі і райкомы паказалі, што яны заражаны апартуністычным няверрам у свае сілы і ў сілы ўплыву партыі на масы. Арганізацыі не змаглі перабудаваць сваей работы стасоўна да варункаў абвастрыўшагася тэрару. Партарганізацыі нядосыць актыўна на практыцы ўжывалі тактыку адзінага фронту зьнізу, слаба дэмаскоўваючы на канкрэтных фактах здрадніцкую сутнасьць сацыял-фашыстоўскіх правадыроў і асабліва іх «левага» крыла.

Адставаньне партыі ад рашучай актыўнасьці мас, што выявілася так сільна ў першамайскай кампаніі, пагражае нам тым, што мы ня зможам узначаліць рэвалюцыйны ўздым мас, ня зможам выкарыстаць рэвалюцыйнага нездавольства ў масах для таго, каб павесьці іх у бой з клясавым ворагам і пасьпяхова падрыхтаваць—палітычна і арганізацыйна—узброенае паўстаньне рабочых, сялян і салдат. Могуць быць самыя спрыяючыя настроі ў масах, самы спрыяючы грунт для нашай работы, але калі партыя не яднае і не арганізоўвае масы, калі яна не накіроўвае яе стыхійнага нездавольства ў рэчышча магутных выступленьняў, калі яна не разгортвае фронта рэвалюцыйнай барацьбы і замест кіраўніцтва барацьбой цягнецца ў хвасьце яе, тады самыя лепшыя настроі могуць распыліцца, а вораг пасьпяхова правесьці свае пляны.

Рэвалюцыя не ўзьнікае сама па сабе. **Яе арганізуе партыя, як кіруючы авангард пралетарыяту, як правадыр шырокіх народных мас.** А дзеля таго, каб быць гатовым для арганізацыі рэвалюцыі — узброенага ўсенароднага паўстаньня ў мэтах зваленьня фашыстоўскай улады, неабходна сёньня рыхтавацца да гэтага моманту шляхам арганізацыі, узначаленьня і кіраўніцтва штодзённымі баямі і выступленьнямі мас. **Не цягнуцца ў хвасьце, не адставаць, скончыць з няверрам у свае сілы**—гэта цэнтральная задача нашай заходня-беларускай арганізацыі, выкананьне якой зьвязана з усей супольнасьцю задач, якія стаяць перад КПП у справе падрыхтоўкі пераможнай рэвалюцыі ў Польшчы.

Кожны член партыі, выконваючы ўсякую партыйную работу, павінен уразумець, што на яго—у паасобку, на кожную ячэйку, на ўсю партыю — цалкам, ускладаюцца адказнейшыя задачы па выроўніваньню адстаючага заходня-беларускага вучастку агульна-рэвалюцыйнага фронту барацьбы па **найбольш перадавых і актыўных атрадах рабочае клясы і працоўных Польшчы.**

Неабходна па баявому ўзяцца за выкананьне ўсіх рашэньняў V Пленуму ЦК КПЗБ. Неабходна, каб сутнасьць партыйнай лініі была даведзена да ўсіх зьвеньняў нашай арганізацыі.

Для КПЗБ надзвычайна важнай становіцца задача, якая заключаецца ў тым, каб давесьці да самых шырокіх колаў працоўных гораду і вёскі весткі аб тэй упартай барацьбе, якую вядуць перадавыя атрады польскага пралетарыяту. Патрэбна, як паказваў неаднокраць Ленін, каб усё сялянства і ўсё войска, каб «...вёска, нават самая глухая, убачыла, што ў гарадох неспакойна, што «свае» узьняліся, што яны змагаюцца не на жыцьцё, а на сьмерць, што яны змагаюцца за лепшае жыцьцё, за зваленьне фашыцкай няволі і ўлады акупантаў. Мы павінны гэта рабіць дзеля таго, каб, выкарыстоўваючы рэвалюцыйны прыклад перадавых атрадаў, арганізаваць шырокія працоўныя масы, узначаліць іх нацыянальна вызваленчую барацьбу для арганізацыі супольных і адзіных выступленьняў разам з рабочымі і сялянамі ўсей Польшчы супроць агульнага ворага.

Калі справімся з гэтымі задачамі, здолеем ліквідаваць адставаньне КПЗБ, хутка выправім недахопы і памылкі, выявіўшыяся ў рабоце—тады пад агульным кіраўніцтвам КПП, як яе непарыўная частка, мы хутка пойдзем наперад да пераможнай барацьбы за ўладу. Калі-ж будзем адставаць, будзем спазьняцца да падзеяў—тады буржуазія будзе разьбіваць па частках рух і пробаваць яшчэ раз адтэрмінаваць час аканчальнай разьвязкі. Так стаіць пытаньне.

**Наша партыя мае досыць сіл, каб хутка і пасьпяхова зьліквідаваць адставаньне і выканаць задачы, якія стаяць перад ёй.**

К. Сакальніцкі.

# Аб выніках XI Пленуму Выканкому Камінтнрну.

Рашэньні XI пленуму Выканкому Камінтэрну маюць вялікае значэньне для разьвіцьця міжнароднага рэвалюцыйнага руху.

У апошнім годзе адбыўся гістарычны пералом. СССР уступіў у пэрыяд сацыялізму і з посьпехам канчае пабудову фундамэнту сацыялістычнай гаспадаркі. Капіталістычны сьвет перажывае нячувана цяжкі і глыбокі прамысловы і аграрны крызыс, які ахоплівае ўсе краі і ўсе галоўныя галіны вытворства. Сучасны гаспадарчы крызыс прамысловасьці і сельскай гаспадаркі, які разьвіваецца на падставе агульнага крызысу капіталізму, завастрыў і паглыбіў гэты агульны крызыс і завастрыў да вялізарных разьмераў усе супярэчнасьці капіталістычнай сыстэмы.

Надыходзіць канец капіталістычнай стабілізацыі.

З надзвычайнай яскравасьцю выступіла працілегласьць двух сыстэм: сыстэмы **будуючагася сацыялізму** і сыстэмы **гніючага капіталізму,** робячы уплыў на рост рэвалюцыйнага руху і ставячы працоўныя масы перад выбарам—**дыктатура буржуазіі альбо дыктатура пралетарыяту.**

Адбыўшыся ў гэтых варунках пленум Выканкому Камінтэрну заняўся галоўным чынам дзьвума асноўнымі пытаньнямі: пытаньнем ацэнкі міжнароднай сітуацыі і перш за ўсё перспэктыў росту і разьвіцьця хвалі рэвалюцыйнага руху мас і нарастаньня ў шэрагу краёў прадпасылак рэвалюцыйнага крызысу, а таксама пытаньнем перамаганьня адставаньня сэкцый К. І. у галіне мабілізацыі і арганізацыі мас ад росту рэвалюцыйных задач.

За падставу ацэнкі сітуацыі пленумам прыняты факт, што нарастае рэвалюцыйная хваля ў сувязі з гвалтоўным зьніжэньнем жыцьцёвага ўзроўню рабочае клясы, з жудасным ростам беспрацоўя, з руінаю гарадзкой дробнай буржуазіі і служачых, з масавай грабежай сялянства, з дашчэнтным руйнаваньнем калёній і з ростам рэвалюцыянізуючай ролі СССР. За падставу ацэнкі ўзяты таксама той факт, што рост рэвалюцыйнага руху ў шэрагу краёў, дзякуючы спэцыяльнай вастрыні эканамічнага крызысу, якая выцякае з асаблівых варункаў агульнага крызысу капіталізму ў гэтых краёх, вядзе да насьпяваньня прадпасылак рэвалюцыйнага крызысу.

Канстатуючы растучае завастрэньне ўсіх супярэчнасьцяў капіталізму, завастрэньне клясавых баёў на ўсім сьвеце і рост рэвалюцыйнага руху, які ня гледзячы на нераўнамернасьць разьвіцьця ў розных краёх, мае агульны характар, XI Пленум паказаў на тыя вузлавыя пункты міжнароднага рэвалюцыйнага руху, у якіх клясавая барацьба набрала найвастрэйшых форм і дзе ўжо зазначылася перспэктыва нарастаньня прадпасылак рэвалюцыйнага крызысу. Пленум мог пры гэтым падкрэсьліць тую вялікай вагі акалічнасьць, што рэвалюцыйны крызыс пагражае капіталістычнаму сьвету з двух бакоў. Расьце і паглыбляецца рэвалюцыйны крызыс у рашаючых калёнальных краінах Усходу (Кітай, Індыя, Індо-Кітай) і растуць прадпасылкі рэвалюцыйнага крызысу ў капіталістычных краях Эўропы (Нямеччына, Польшча, Гішпанія), што ўзятае разам стварае надзвычайна спрыяючыя перспэктывы для разьвіцьця ўзможанай рэвалюцыйнай барацьбы па меры росту сіл камуністычных партый.

Пленум канстатаваў, што рэвалюцыйны крызыс, паўстаючы перш за ўсё у найбольш слабых зьвеньнях імпэрыялістычных дзяржаў, вырастае з заблытанай сукупнасьці сучасных варункаў. Папершае ён вырастае з агульнага крызысу капіталізму, г. зн. факту таго, што існуе СССР, што версальская сытсэма ства-

рыла прадпасылкі гніцьця і раскладу шэрагу капіталістычных дзяржаў, што асяродкі сусьветнай экономікі перасунуліся да заакіянскіх краёў, што дамініёны імкнуцца аддзяліцца ад Англіі, што рушыў вялізарны каленіяльны сьвет. Па другое, элементы рэвалюцыйнага крызысу вырастаюць з сучаснага гаспадарчага крызысу, які цягне за сабой нязвычайнае завастрэньне клясавай барацьбы а таксама завастрэньне ўсіх супярэчнасьцяў паміж імпэрыялістычнымі дзяржавамі. Па трэцьцяе, рэвалюцыйны крызыс разьвіваецца на падставе ўздымаючайся хвалі рэвалюцыйнага руху мас і не зьяўляецца аддзялёным ніякім кітайскім мурам ад рэвалюцыйнай сітуацыі, але пераходзіць у яе «няпрыкметна», як у сваю вышэйшую стадыю. У чацьвертых, у існуючых прадпасылках рэвалюцыйнага крызысу хаваюцца ўсе асноўныя элементы рэвалюцыйнай сітуацыі, і наступленьне рэвалюцыйнай сітуацыі залежыць толькі ад ступені росту гэтых элементаў.

Такім аналізам прадпасылак рэвалюцыйнага крызысу Пленум даў адпор пэўным тэорыям і канцэпцыям, якія блукаліся ў некаторых партыях перад пленумам. Здаралася, што некаторыя таварышы імкнуліся супроцьпаставіць сабе рэвалюцыйны крызыс і палітычны крызыс, разглядаючы гэты апошні, як наступную ступень, калі мы маем ужо крызыс «вярхоў», калі пануючыя клясы ня могуць ужо жыць па старому і змушаны зьмяніць сыстэму, але калі «суб'ектыўны фактар» яшчэ не насьпеў, няма яшчэ «сітуацыі паўстаньня». Дапусканьне такой «тэорыі» азначала бы прызнаць тэорыю, якая апраўдвае адставаньне камуністычнай партыі, апартуністычную пасыўнасьць і бязьдзейнасьць. Дзеля гэтага Пленум адкінуў гэтую «тэорыю». Таксама здаралася, што некаторыя таварышы выступалі з «тэорыямі» аб бязвыхадным становішчы у якім апынуліся капіталісты, аб самазьнішчэньні капіталізму, паўтараючы ў гэтым выпадку «тэорыі» гора-марксыстаў, як Гэнрых Гросман і інш. Дапусьціць курсаваньне ў нашых шэрагах такіх «тэорый» азначала бы стварыць прытулак для гэтых гэрояў бязьдзейнасьці, бо капіталізм так ці інакш, раней ці пазьней, зьнікне. Камуністы павінны выходзіць з падставы, што ніякі лад ня зьнікне, калі ня будзе нізрынуты, што для пануючых клясаў ня бывае абсалютна бязвыхаднай сітуацыі—дзеля гэтага важнейшай і рашаючай задачай пралетарыяту зьяўляецца мабілізаваць і арганізаваць свае сілы пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі, адрэзаць капіталізму выхад з крызысу, каб скінуць капіталістычны лад і ўстанавіць дыктатуру пралетарыяту.

З дадзенай пленумам ацэнкі вынікае, што рэвалюцыйны крызыс зьвязваецца ня толькі з захістаньнем капіталізму ў якім небудзь паасобным краі, але зьвязваецца з захістаньнем усёй сыстэмы міжнароднага капіталізму, з вялізарным завастрэньнем унутры-імпэрыялістычных супярэчнасьцяў і супярэчнасьцяў паміж капіталістычным сьветам і СССР. Таксама дзеля гэтага перад насьпяваючымі рэвалюцыямі як у каленіях, так і ў капіталістычных краёх, стаяць цяжкасьці ня толькі ўнутранага характару, але і міжнароднага. Калі цяжкасьці на шляху разьвіцьця кітайскай рэвалюцыі ўжо бачым усе мы, дык трэба памятаць, што рэвалюцыя ў якой-кольвек з буйных эўрапейскіх краёў нячуваным чынам завастрыць усе супярэчнасьці ў Эўропе і прывядзе да вялікіх міжнародных баёў. Калі сацыял-дэмакраты кажуць аб міжнароднай небясьпечнасьці, каб давесьці немагчымасьць рэвалюцыі (Отто Бауэр) і апраўдаць сваю здраду, дык камуністы высьвятляюць складанае спляценьне міжнародных адносін, у якім адбудуцца пралетарскія рэвалюцыі, каб ужо зараз мабілізаваць працоўныя масы для падтрыманьня насьпяваючых рэвалюцый у Кітаі, Індыі, Нямеччыне, Польшчы, для падрыхтоўкі міжнароднага фронту рэвалюцыйнай барацьбы.

Мы—адзіная міжнародная партыя.

Справа польскай, нямецкай, кітайскай індыйскай рэвалюцый—справа ня толькі працоўных мас гэтых краёў, але справа пралетарыяту ўсяго сьвету. Таму краі, у якіх нарастаюць прадпасылкі рэвалюцыйнага крызысу, ужо цяпер гуртуюць увагу пралетарыяту ўсяго сьвету і ўсяго Камуністычнага Інтэрнацыяналу. Дзеля гэтага польскі рэвалюцыянер павінен уважліва сачыць за барацьбой кітайскіх і індускіх мас, таксама як павінен

сачыць за разьвіцьцём сацыялістычнага будаўніцтва ў СССР, за барацьбой працоўных мас Нямеччыны, Англіі, Францыі.

Але прадпасылкі рэвалюцыйнага крызысу растуць у цяжкай клясавай барацьбе на шляху перамаганьня рэвалюцыйнымі масамі, якія кіруюцца камуністычнай партыяй, зацятага адпору пануючых клясаў.

Завастрэньне клясавых баёў у выніку эканамічнага крызысу, завастрэньне ўсіх супярэчнасьцяў капіталізму, рост нездавальненьня шырокіх народных мас прыводзіць з аднаго боку да ўздыму рэвалюцыйнага руху і, у найслабейшых зьвеньнях капіталістычнай сыстэмы, да росту прадпасылак рэвалюцыйнага крызысу, з другога - ж боку вядзе да ўсё больш адкрытага ўжываньня з боку буржуазіі ўсяго апарату сваей дыктатуры. Пэўныя спробы супроцьстаўленьня фашызму буржуазнай дэмакратыі, ацэнкі фашызму як **новай** формы буржуазнай дзяржавы, змусілі пленум удасканаліць формулу аб фашызме, дзеля таго каб канчаткова зьнішчыць гэтыя канцэпцыі. На пытаньне, што такое фашызм, Пленум даў просты і яскравы адказ: фашызм—гэта **аголеная** форма дыктатуры буржуазіі, пры якой завостраны ўсе мэтады ўціску і зьняволеньня працоўных мас капіталістычнаму ладу, неадрыўныя ад усёй сыстэмы дыктатуры буржуазіі. Такім чынам сукупнасьць момантаў, зьвязаных з фашызацыяй буржуазных і сацыял-дэмакратычных партый і з наступленьнем фашызму наогул, робіцца ясным з пункту агульных падставаў усіх форм дыктатуры буржуазіі. Такім чынам становіцца ясным, што фашызму нельга супроцьпаставіць буржуазную дэмакратыю, што ён зьяўляецца яе працягам і разьвіцьцём у асаблівых гістарычных варунках. Істота яго заключаецца не ў асаблівых гістарычных варунках, але ў агаленьні істоты сучаснай буржуазнай дзяржавы—**дыктатуры буржуазіі.**

Фашызм — гэта форма наступленьня буржуазіі, але нельга бачыць у фашызме **толькі** наступленьне буржуазіі. Такая канцэпцыя прывяла бы да правых вывадаў. У рэчавістасьці гэтую канцэпцыю прысвоілі сабе элементы правыя і трацкісцкія, якія ў працэсе наступленьня фашызму бачаць **толькі наступленьне** капіталу. Таксама нельга ацэньваць фашызм **толькі** як праяву разлажэньня капіталізму, бо такая канцэпцыя прывяла бы да ультра-левых, путчысцкіх вывадаў. Характэрным для фашызму зьяўляецца тое, што будучы формаю буржуазнай рэакцыі ў пэрыядзе агульнага крызысу капіталізму, выступаючы ў найслабшых зьвеньнях капіталістычнай сыстэмы, ён імкнецца перамагчы элементы раскладу капіталізму шляхам тэрару і разгрому рэвалюцыйных арганізацый. Характэрна для фашызму як раз тое, што напярэдадні альбо ў варунках пачынаючагася распаду дзяржаўнага апарату гвалту, ён імкнецца ў масах даўней апалітычных, прабуджаных да палітычнага жыцьця праз крызыс, разгарнуць сілы для здушэньня рэвалюцыйнага руху і перамажэньня крызысу шляхам інсцэніроўкі падтрыманьня мас і што ён імкнецца выкарыстаць элементы раскладу капіталізму для перамажэньня таго - ж раскладу.

Гэтым тлумачыцца тое, што «фашызм і сацыял-дэмакратыя гэта не антыподы, а блізьняцы» (Сталін). Бо не фашызм і сацыял - дэмакратыя змагаюцца адзін з другім, а фашызм і сацыял-дэмакратыі імкнуцца да аднэй мэты—узмацненьня клясавага панаваньня буржуазіі і перамажэньня крызысу. Бо фашызм, будучы баявой арганізацыяй буржуазіі, ня можа дасягнуць рашаючых посьпехаў, як у барацьбе, гэтак і ў кіраваньні без рашаючага падтрыманьня сацыял-дэмакратыяй, якая зьяўляецца сацыяльнай апорай буржуазіі, таксама як сацыял-дэмакратыя ня можа дасягнуць рашаючага посьпеху ні ў барацьбе, ні ў кіраваньні краем без рашучай падтрымкі з боку фашызму.

Тактыка выбару «меншага зла», што ўжываецца сацыял - дэмакратыяй, гэта тактыка ўзмацненьня фашызму і дэмабілізацыі рабочых; гэтая тактыка імкнецца шляхам слоўнага супроцьстаўленьня фашызму буржуазнай дэмакратыі, замаскаваць блёк сацыял-дэмакратыі з фашызмам. Нельга пераможна змагацца супроць фашызму ні супроць сацыял - дэмакратыі—без разьбіваньня, без дэмаскоўваньня гэтага блёку, без

перамажэньня «тэорый», якія супроцьстаўляюць аголеную і замаскаваную формы дыктатуры буржуазіі, фашызм і буржуазную «дэмакратыю». Ясна, што галоўны вораг гэта буржуазная дыктатура. Да барацьбы з ёю павінны быць прызваны ўсе сілы пралетарыяту. Нельга разьбіць фашызм, не змагаючыся супроць буржуазнай дыктатуры цалкам. Толькі шляхам такой барацьбы можна змусіць буржуазію адмовіцца ад тэрарыстычнага наступленьня, уберагчы рабочыя арганізацыі ад разгрому. Адначасова ясна таксама, што буржуазія не магла бы ўтрымацца пры ўладзе без апоры ў сацыял-дэмакратыі. І таму, каб нізрынуць буржуазію і недапусьціць да запанаваньня фашызму, трэба зьнішчыць масавы уплыў сацыял-дэмакратыі, выкінуць з-пад ног буржуазіі яе сацыяльную апору. Разгром сацыял-дэмакратыі ў даных агульна-палітычных варунках, па крайняй меры, ва ўсіх прамысловых краінах, азначае крызыс клясавага панаваньня буржуазіі, азначае наступленьне рэвалюцыйнага крызысу. Цяпер насьпяваюць найбольш спрыяючыя варункі для такога разгрому сацыял-дэмакратыі, бо ў цэлым шэрагу краёў у сувязі з крызысам скарачаюцца магчымасьці подкупаньня з боку буржуазіі рабочай арыстакратыі, скарачаюцца магчымасьці забесьпячэньня для гэтай рабочай арыстакратыі, карыстаньня тою гарадзкою культураю і тым трывалым мяшчанскім дабрабытам, што зьяўляецца галоўнай масавай формаю падкупаньня рабочай арыстакратыі з боку буржуазіі.

Але развал сацыял-дэмакратыі ня можа наступіць сам сабой; ён наступіць толькі пры ўмове няўхільнага дэмаскаваньня сацыял - дэмакратыі праз камуністаў.

* * *

Спрыяючыя варункі, якія вынікаюць з нарастаньня прадпасылак рэвалюцыйнага крызысу ў Нямеччыне і ў Польшчы і з паглыбленьня рэвалюцыйнага крызысу ў Кітаі, Індыі і Інда - Кітаі, могуць быць выкарыстаны пралетарыятам толькі пры варунках як мага энэргічнейшай працы і перамаганьня **адставаньня** камуністычных партый ад растучага рэвалюцыйнага руху мас. Дзеля гэтага XI Пленум ВККІ ставіць перад усімі сэкцыямі, як найважнейшую тактычна - арганізацыйную задачу, — **перамажэньне камуністычнымі партыямі адставаньня ад росту рэвалюцыйнага руху мас.** Праўда, шэраг партый на працягу апошніх месяцаў дасягнуў важных посьпехаў. Праўда, Камінтэрн можа ганарыцца з двух здабыч сусьветнага значэньня. Па - першае, з стварэньня саветаў і магутнай чырвонай арміі ў Кітаі, па-другое, з паважных здабычаў Камуністычнай Партыі Нямеччыны ў справе мабілізацыі мас для адпору фашыстоўскаму наступленьню буржуазіі. Праўда, мы можам адзначыць як плюс, далейшае завастрэньне забастовачнай барацьбы і руху бесправоўных, узмацненьне рэвалюцыйнага руху ў калёніях, разьвіцьцё сялянскага руху ў Польшчы, узмацненьне апазыцыйнага фэрменту супроць сацыял - фашыстоўскіх верхаводаў унутры сацыял-дэмакратыі, нарастаньне апазыцыі сярод гарадзкой дробнай буржуазіі, служачых і чыноўнікаў, а таксама рост палітычнага і арганізацыйнага ўплыву камуністычных партый Нямеччыны, Кітаю, Чэха-Славакіі і Польшчы. Але ні ў адным краі мы не заваявалі яшчэ рашаючай большасьці рабочае клясы, хаця ў Нямеччыне мы набліжаемся да здабыцьця колькаснай большасьці ў шэрагу раёнаў... У сувязі з нарастаньнем прадпасылак рэвалюцыйнага крызысу ў Польшчы, мы павінны асабліва падкрэсьліць значнае адставаньне КПП ад росту рэвалюцыйнага ўздыму руху мас, асабліва перад аблічам адказных і важных задач, якія стаяць перад гэтай партыяй у галіне падрыхтоўкі пралетарскай рэвалюцыі ў Польшчы. Галоўная задача, якая стаіць цяпер перад намі і перад іншымі камуністычнымі партыямі заключаецца ў **заваяваньні большасьці рабочае клясы і падрыхтоўкі яе да рашаючых баёў за дыктатуру пралетарыяту.** Каб выканаць гэтую задачу трэба ўзмацніць самастойны рэвалюцыйны прафсаюзны рух, успраўніць самастойнае кіраўніцтва клясавымі баямі, мабілізаваць масы на грунце абароны штодзённых патрэбаў рабочае клясы. Барацьба за большасьць рабочае клясы ня можа весьціся ў якой - кольвек спэцыяльнай форме. Яна ахоплівае ўсе формы і мэ-

тады партыйнай працы ва ўсіх галінах палітыкі партыі.

Але камуністычныя партыі ня могуць абмяжавацца пастаноўкаю праблемы заваяваньня большасьці рабочае клясы. Калі мы сур'ёзна абмяркоўваем справу набліжэньня рашаючых рэвалюцыйных баёў, дык тым больш важнай становіцца праблема саюзьнікаў пралетарыяту ў надыходзячай рэвалюцыі. Пераможная пралетарская рэвалюцыя немагчыма нават у такім прамысловым краі, як Нямечына, без прыцягненьня на бок пралетарыяту шырокіх пластоў працоўнага непралетарскага народу. Партыя, якая ідзе да ўлады, мусіць ведаць сваіх саюзьнікаў, мусіць здолець іх мабілізоўваць і прыцягваць на свой бок, адбіраць у буржуазіі яе рэзэрвы, сачыць за суадносінамі клясавых сіл у краі. Бяз гэтага нельга пачаць рашаючай барацьбы.

«Калі гутарка ідзе аб практычнай дзейнасьці мас, аб разьмяшчэньні—калі можна так сказаць—мільённых армій, аб расстаноўцы ўсіх клясавых сіл даннага грамадзтва для апошняга і рашаючага бою, дык трэба запытаць у сабе ня толькі, ці пераканалі мы авангард рэвалюцыйнае клясы, але яшчэ і ці гістарычна актыўныя сілы ўсіх клясаў, усіх без выключэньня клясаў даннага грамадзтва, разьмешчаны такім чынам, каб рашучая бойка была цалкам насьпеўшай» (Ленін—«Дзіцячая хвароба лявізны»).

Дзеля таго для КПП і для ўсіх іншых камуністычных партый вялізарнага значэньня набірае праблема працы на вёсцы і перацягваньня на свой бок шырокіх мас бядняцкага сялянства. Але пралетарыят ня можа зьнеimportant праблемы заваяваньня інш. пластоў прыгнечаных і руйнаваных у сувязі з крызысам (служачыя, дробная буржуазія), якія ў гэтых варунках могуць перайсьці на бок пралетарыяту, бачучы ў ім носьбіта свайго вызваленьня. У гэтых варунках чым ясьней пралетарыят здолее падкрэсьліць, што ў сваёй рэвалюцыйнай барацьбе ён высоўвае справу ня толькі свайго ўласнага вызваленьня, а што ён выступае як змагар за вызваленьне ўсіх прыгнечаных і эксплёатаваных, тым больш забясьпечана будзе яго перамога. Таму пленум ухваліў пастаноўку з боку КП Нямеччыны лёзунгу народнай рэвалюцыі, як сынонімy пралетарскай рэвалюцыі, лёзунгу, пад якім партыя павінна мабілізаваць шырокія масы да барацьбы супроць дыктатуры буржуазіі, за дыктатуру пралетарыяту.

Сацыял-дэмакраты, правыя рэнэгаты і трацкісты гавораць аб паслабленьні сіл пралетарыяту дзякуючы крызысу. Такім чынам яны абгрунтоўваюць сваю тактыку «генэральнага адступленьня» і здрады. Але ўвесь ход разьвіцьця паказвае не на аслабленьне, а на рост сіл пралетарыяту. Мы яшчэ зусім не знаходзімся на пазыцыях генэральнай атакі пралетарыяту. Шмат яшчэ з цяперашніх клясавых баёў мас мае характар абаронны. Але ў даных канкрэтных варунках з пункту гледжаньня нашай вялікай перспэктывы, гэтыя абаронныя баі прыймаюць значэньне складовай часткі вялікай гістарычнай атакі пралетарыяту.

Дыктатура буржуазіі альбо дыктатура пралетарыяту — вось цэнтральная рашаючая праблема нашай барацьбы. Дыктатура буржуазіі і дыктатура пралетарыяту—капіталістычны сьвет і СССР,—дзьве сусьветныя сыстэмы стаяць сёньня адна супроць другой. Кантраст паміж імі становіцца ўсё больш яскравым, супярэчнасьці завастраюцца. Нельга ўжо ніякімі сродкамі зьменшыць значэньне таго факту, што СССР уступіў у пэрыяд сацыялізму і канчае пабудову фундамэнту сацыялістычнай гаспадаркі. Нельга ўкрыць ніякімі сродкамі, што сусьветны гаспадарчы крызыс, які ахапіў увесь капіталістычны сьвет, затрымаўся нібы цудам у межах СССР. Нельга схаваць ад працоўных мас таго, што СССР перажывае магутнае разьвіцьцё ў той час, калі працоўныя масы ў капіталістычных краёх усё больш губляюць магчымасьць чалавечага існаваньня. Само жыцьцё разьбіла дашчэнту сацыял-дэмакратычныя тэорыі аб арганізаваным капіталізме. Яшчэ ня так даўно тэорэтыкі сацыял-дэмакратыі даводзілі, што «арганізаваны капіталізм азначае ў рэчавістасьці прынцыповую замену капіталістычнага прынцыпу свабоднай канкурэнцыі прынцыпам сацыялістычнай плянавай вытворчасьці» (Гільфердынг), што «прыходзячыя адно другому на зьмену ажыўленьне і крызыс, аб якіх пісалі Маркс і

Энгельс,належаць да пэрыяду даўнейшага капіталізму» (Нафталі), што «становіцца магчымым правядзеньне прынцыпу плянавасьці ў сусьветнай гаспадарцы (Лейхтэр), а зараз ці-ж ня гэтыя самыя «тэорэтыкі» ужо заяўляюць, што «рух і ў далейшым будзе ажыцьцяўляцца цыклічна» (Нафталі), што «капіталізм выявіў, што ён ня можа застацца нават у сваёй найбольш сучаснай форме... арганізаваны капіталізм таксама ня мог пазбавіцца ўласьцівых для капіталістычнага ладу крызысаў» (Арбейтэр Цэйтунг» 1931 г.). Яшчэ ня так даўно тэорэтыкі сацыял-дэмакратыі даводзілі, што яны праз «дэмакратыю» прывядуць сьвет без патрасеньняў, без ахвяр, без рэвалюцыі да сацыялізму, цяпер яны змушаны ўжо «прызнаць» існаваньне фашызму ў Польшчы, Аўстрыі, наступленьне рэакцыі... ва ўсёй Эўропе. Гэтае поўнае банкруцтва сацыял - дэмакратычных «тэорый» аб мірным урастаньні ў сацыялізм адчыняе вочы сотням тысячам рабочых на тое, што адзіны шлях выхаду з нэндзы і голаду,—гэта шлях бальшавікоў, шлях СССР.

Пленум, канцэнтруючы ўвагу працоўных мас на растучым кантрасьце двух сыстэм, паставіў перад усімі сэкцыямі Камінтэрну, як важнейшую задачу—**правядзеньне ў найшырэйшых масах прапаганды за рэвалюцыйны выхад з крызысу,** за дыктатуру пралетарыяту, за савецкую сыстэму, за сацыялізм. Адначасова пленум паставіў перад кожнай сваей сэкцыяй, перад кожным камуністам задачу дэмаскаваньня ваенных падрыхтовак супроць СССР **і абароны ўсякімі сіламі і сродкамі першай сацыялістычнай дзяржавы, СССР, бацькаўшчыны працоўных мас усяго сьвету, ад узброенай інтэрвэнцыі імпэрыялістых.**

Гэтыя задачы, якія вырастаюць з сучаснай аб'ектыўнай сытуацыі, вызначаюць адначасова прынцыповую пэрспэктыву далейшага сусьветнага разьвіцьця, якое прыводзіць да вялікіх і, для шэрагу краёў, відавочна ў недалёкай ужо будучыні, рашаючых баёў.

---

**Камуністычныя партыі не навучыліся яшче дастаткова ясна растлумачваць шырокім народным масам сувязь паміж ваеннымі падрыхтаваньнямі імпэрыялістаў і ростам эксплёатацыі і прыгнечаньня працоўных мас, яны не навучыліся яшчэ на конкрэтных прыкладах і сыстэматычна выкрываць сацыял-дэмакратыю як апору імпэрыялістычнай буржуазіі ў справе падрыхтоўкі контр-рэвалюцыйнай вайны супроць СССР.**

(З рэзалюцыі XI пленуму ВККІ).

---

Давыдовіч.

# Да вынікаў V Пленуму ЦК КПЗБ.

V пленум ЦК КПЗБ адбываўся ў момант пераломны ў разьвіцьці рэвалюцыйнага руху ў Польшчы. 1-ае мая, забастоўка гарнякоў ў Дамброўскім Басэйне, трамвайшчыкаў ў Варшаве, барыкадныя баі ў Любартаве, Маневічах, Яворжно, бурныя выступленьні беспрацоўных ва ўсей Польшчы, шырокі рэвалюцыйны рух сялянства,—уся гэта нарастаючая хваля рэвалюцыйнай барацьбы сьведчыць аб вялікай рэвалюцыйнай энэргіі мас, аб насьпяваньні ўсіх прадпасылак рэвалюцыйнага крызысу ў Польшчы.

На падставе гэтай агульнай ацэнкі сытуацыі ў Польшчы, V пленум даў вычарпальны аналіз становішча на Зах. Беларусі. Паказваючы на завастрэнне клясавай і нацыянальна-вызваленчай барацьбы працоўных мас ЗБ супроць фашыстоўскай дыктатуры акупантаў, пленум з усей вострасьцю падкрэсьліў небясьпеку, якая пагражае рэвалюцыйнаму руху на ЗБ, небясьпеку **адставаньня партыі ад актыўнасьці мас.** Пленум зусім правільна падкрэсьліў, што хаця ў гэты момант рэвалюцыйны рух на Зах. Беларусі адстае яшчэ ад ступені разьвіцьця рэвалюцыйнай барацьбы ва ўсей Польшчы, аднак мы ўступілі ў фазу больш высокага рэвалюцыйнага ўздыму.

Гэта рэвалюцыйная перспэктыва, якая вызначана пленумам, цалкам пацьвердзілася ў бліжэйшыя-ж дні. Пад уплывам пераможных буйных баёў пралетарыяту ў асноўных цэнтрах Польшчы, якія кіраваліся нашай партыяй, пралетарыят і на ЗБ пераходзіць да контрнаступленьня, пачынаючы выроўніваць наогул баявы фронт з пралетарыятам карэннай Польшчы. Пераможная забастоўка віленскіх гутнікаў пад самастойным кіраўніцтвам профлевіцы зьяўляецца баявым сыгналам да разгортваньня забастовачнай хвалі ва ўсей ЗБ. У Беластоку тэкстыльшчыкі даюць салідарны адпор наступу фабрыкантаў, абвяшчаючы ўсеагульную забастоўку тэкстыльшчыкаў і прымушаючы прадпрыемцаў адступаць. У Горадні камунальныя рабочыя (электрастанцыя, вадаправод і інш.) выступаюць у бой супроць фашыстоўскага магістрату, супроць зьніжэньня зарплаты і рацыяналізацыі; іх барацьба знаходзіць салідарную падтрымку сярод большасьці горадзенскага пралетарыяту, які абвяшчае ўсеагульную забастоўку, якая прымае характар **палітычнай забастоўкі.** Магістрат, ня гледзячы на выкарыстаньне войска для работы на электрастанцыі, прымушан пад напорам мас і магутнага росту рэвалюцыйных настрояў капітуляваць перад бастуючымі рабочымі. У Бярэсьці магістрацкія сэзонныя рабочыя абвяшчаюць пад кіраўніцтвам профлевіцы забастоўку супроць зьніжэньня зарплаты і здабываюць перамогу. Побач з гэтым адбываецца цэлы шэраг стыхійных і арганізаваных эканамічных забастовак ва ўсей ЗБ (забастоўка цагельнікаў і гарбароў у Вільні, тарфяных рабочых у Алекшыцкім раёне, шасэйных рабочых ў Бярэсьцейскай акрузе, чыгуначных і сэзонных рабочых ў Оранах і цэлы шэраг іншых забастовак). Адначасна партыі ўдаецца зрабіць крок наперад у справе кіраўніцтва барацьбой батракоў і сэзонных рабочых у вёсцы. Забастоўка сэзоньнікаў у Бераставіцкім і Тэраспольскім раёнах, цэлы шэраг іншых забастовак сельска-гаспадарчых рабочых сьведчыць аб моцным рэвалюцыйным бушаваньні сярод сельска-гаспадарчых рабочых. Гэтыя забастоўкі гавораць аб тым, што ад нашых арганізацый залежыць далейшае разгортваньне барацьбы вясковага пралетарыяту супроць абшарнікаў і аб'яднаньне гэтай барацьбы з барацьбой гарадзкога пралетарыяту.

Менавіта гэтыя апошнія баі з усей яскравасьцю паказалі нам, што небясьпека **адставаньня партыі ад актыўнасьці**

**мас—яшчэ застаецца галоўнай небясьпекай, і ў гэтай справе мы мала пасунуліся наперад.** Беласток і Горадня зьяўляюцца самымі алярмуючымі фактамі гэтага адставаньня. Наша палітычная пасыўнасьць і арганізацыйная слабасьць дала магчымасьць фашыстоўскім правадырам узяць ініцыятыву ў свае рукі, выкарыстаць бушаваньне мас дзеля сваіх мэт і стаць на чале барацьбы беластоцкіх тэкстыльшчыкаў і горадзенскіх камунальнікаў, каб адразу абезгаловіць гэтую барацьбу і здрадзіць рабочых. Нашы арганізацыі недаацэнілі небясьпекі, якая пагражае рэвалюцыйнаму руху на ЗБ з боку сацыял-фышыстаў, недаацэнілі іх манэўраздольнасьці. Нашыя беластоцкія таварышы ня верылі, што пепесоўцы і бундаўцы абвясьцяць забастоўку. У гэтай недаацэнцы хаваецца ўсё незразуменьне сутнасьці сацыял-фашызму і яго прадстаячай ролі, як палача рэвалюцыі, як апошняга рэзэрву капіталізму. Па меры росту рэвалюцыйнай хвалі і пад націскам мас, сацыял-фашыстоўскія правадыры вельмі часта будуць імкнуцца ўзначальваць нездавольства мас, узяць у свае рукі ініцыятыву, каб такім чынам ізаляваць нас ад мас і абезгаловіць рэвалюцыйны рух. У Беластоку і Горадні ім удалася на час узмацніць свой аўтарытэт і ўплыў, узмацніцца сярод рабочых.

Апошнія баі паказалі таксама, што перспэктывы, якія высунуты V пленумам ЦК КПЗБ і ІІІ пленумам ЦК КПП аб перарастаньні эканамічных забастовак у палітычныя, перарастаньні такіх форм забастовак **у агульную палітычную забастоўку** зусім рэальны і залежаць ад бояздольнасьці нашых арганізацый. **Рост рэвалюцыйнага руху, яго размах і пераход рабочых да вышэйшых формаў барацьбы супроць фашыстоўскай буржуазнай дыктатуры залежыць ад таго, наколькі наша партыя ўзначальвае і кіруе гэтымі баямі, залежыць ад таго, наколькі нашай партыі ўдасца ізаляваць ад мас сацыял-фашыстоўскіх правадыроў, ліквідуючы масавую базу сацыял-фашызму сярод пралетарыяту.** Рэзультат кожнага выступленьня залежыць ад таго, наколькі наша партыя, вядучы масы да бою, здолела растлумачыць ім значэньне і задачы гэтай барацьбы, здолела увязаць барацьбу за іх штодзённыя патрэбы з палітычнымі патрэбамі рэвалюцыйнага авангарду, высунуць перад масамі такія патрабаваньні і лёзунгі, якія-б адпавядалі сапраўдным патрэбам мас і былі-б ясны ўсім рабочым.

У чым-жа прычына нашага адставаньня? Чым-жа растлумачыць той факт, што ня гледзячы на бязумоўныя асобныя посьпехі ў справе кіраўніцтва эканамічнай барацьбой пралетарыяту і выроўніваньня фронту барацьбы паміж гарадзкім пралетарыятам і працоўнымі масамі вёскі, усё-ж такі партыя мала зрабіла дагэтуль, каб пераняць у свае рукі самастойнае кіраўніцтва барацьбой працоўных мас? На гэта V пленум ЦК КПЗБ даў яскравы адказ.

Асноўная прычына ляжыць у тым, што нашыя арганізацыі дагэтуль не праяўлялі дастатковай палітычнай ініцыятывы на мясцох, уменьня хутка рэагаваць на падзеі і неадкладна дзейнічаць, не чакаючы паказаньняў і дырэктыў ад вышэйстаячых органаў, маючы перад сабою агульную партыйную лінію. Шмат з нашых арганізацый вельмі часта ня здолелі прадугледзіць разгортваючыяся падзеі і займаліся толькі канстатаваньнем фактаў, губляючы пры гэтым тэмпы. Калі-б нашы беластоцкія і горадзенскія таварышы прадугледзілі магчымасьць гэтых вельмі важных забастовак, яны не засталіся-бы ў баку, але кіравалі-бы імі. Гэта паказвае нам, што **небясьпека ляжыць у тым, што шмат з нашых арганізацый яшчэ адарваны ад мас.**

Нашы парткамітэты слаба працавалі па лініі актывізацыі ячэяк, вылучэньня шырокага партыйнага актыву і выкарыстоўваньня кожнага таварыша на адпаведным месцы. Нашы арганізацыі хварэюць яшчэ на арганізацыйную замкнёнасьць і сэктанцтва, боязьнь сьмелага ўцягваньня ў партыю перадавых рэвалюцыйных рабочых, няўменьне вылучэньня і актывізацыі шырокага беспартыйнага актыву, шчыльна зьвязанага з масамі. Нашы арганізацыі ня ўмеюць яшчэ ўзначальваць і кіраваць штодзённай барацьбой працоўных мас, выкарыстоўваючы пры гэтым усе магчымыя арганізацыйныя формы, якія здольны ар-

ганізаваць рабочых і ўзьняць іх барацьбу на вышэйшую ступень.

Аднэй з прычын нашага адставаньня зьяўляецца **скарачэньне за апошні пэрыяд трансмісій партыі да масаў**, недаацэнка аграмаднага значэньня рэвалюцыйных масавых арганізацый, няправільнасьць кіраўніцтва імі і зьвядзеньне іх толькі да ролі легальнай шыльды партыі. Мала было зроблена дзеля таго, каб садзейнічаць стварэньню шырокага руху профлевіцы. Нашы таварышы зразумелі значэньне профлевіцы як чыста партыйнай пляцоўкі і мала зрабілі, дзеля таго каб праз камфракцыі ператварыць рух профлевіцы ў шырокі рабочы рух, уцягваючы ў яго, пры ўмелым правядзеньні ў жыцьцё тактыкі адзінага фронту зьнізу, большасьць рабочых беспартыйных і рабочых варожых нам арганізацый, якія гатовы разам з намі змагацца супроць наступу капіталу, супроць фашыстоўскай дыктатуры. Аднэй з асноўных прычын слабага руху профлевіцы на ЗБ зьяўляецца тое, што профлевіца не змагла яшчэ заваяваць аўтарытэт сярод рабочых, вельмі мала паказала сябе ў справе кіраўніцтва эканамічнымі баямі пралетарыяту, што кіруючыя органы профлевіцы, ня былі абраны на шырокіх рабочых канфэрэнцыях. Неабходна надаць профлевіцы максымум ініцыятывы ў справе кіраўніцтва ўсей эканамічнай барацьбой пралетарыяту, ажыцьцяўляючы нашае кіраўніцтва пры дапамозе камфракцыі ў профлевіцы. У гэтым напрамку Віленская арганізацыя за апошні час пасьля пленуму зрабіла значны крок уперад, ствараючы базу для шырокага руху профлевіцы.

Важнейшай задачай нашай партыі зьяўляецца **заваяваньне рашаючай большасьці пралетарыяту**, як асноўная ўмова перамогі над буржуазіяй.

**Неабходна пашырыць фронт эканамічнай забастовачнай барацьбы пралетарыяту, хутка рэагаваць на ўсякія факты зьніжэньня зарплаты, рэдукцыяў і лёкаутаў і арганізаваць шырокую дапамогу бастуючым рабочым.** Задача партыі — узьняць рэвалюцыйную барацьбу працоўных мас на вышэйшую ступень, уцягваць у яе найбольш шырокія масы і каардынаваць, зьвязваць рэвалюцыйную барацьбу на ЗБ з ходам разьвіцьця рэвалюцыйнага руху ва ўсей Польшчы.

Аднэй з асноўных нашых задач зьяўляецца **мабілізацыя саюзьнікаў пралетарскай рэвалюцыі.** «Пралетарыят павінен стаць на чале барацьбы сялян за зямлю без выкупу, барацьбы прыгнечаных і ўцісканых народаў за іх нацыянальнае вызваленьне, пацягнуць за сабой усё больш руйнуемую капіталам дробную буржуазію».

Каб выканаць гэтыя задачы, неабходна ўбаявіць нашу партыю, патрэбна **максымальная рэвалюцыйная вытрымка і дысцыпліна ў партыйных шэрагах** і шэрагах кіруемага ёю нацыянальна-вызваленчага руху.

**Чым мацней і хутчэй будзе разгортвацца барацьба пралетарыяту, расьці яго арганізаваная сіла і адпор фашызму, тым хутчэй удасца пралетарыяту заваяваць неабходных яму саюзьнікаў для пралетарскай рэвалюцыі і ажыцьцявіць яго гегемонію ў гэтай барацьбе.**

Шлях да выкананьня гэтых задач ляжыць праз **максымальнае ўзьняцьцё ініцыятывы ўсіх арганізацый і актывізацыю работы ячэяк, забясьпечваючы пры іх дапамозе шчыльную сувязь партыі з масамі. Неабходна сьмела ўцягваць перадавых рэвалюцыйных рабочых у шэрагі нашай партыі, павялічыць лік сяброў партыі,** сьмела ўцягваць ў кіраўніцтва рэвалюцыйнай барацьбой актыўных рэвалюцыйных беспартыйных рабочых. Неабходна ўзмацніць кантроль (зьнізу да верху) над правядзеньнем у жыцьцё пастаўленых перад арганізацыямі задач і дасканальны вучот вопыту на падставе разгортваньня бальшавіцкай самакрытыкі. Неабходна пашырыць, узмацніць і стварыць шырокую сетку масавых рэвалюцыйных арганізацый, выкарыстоўваючы ўсе магчымыя формы і высоўваючы шырокі рэвалюцыйны актыў, максымальна выкарыстоўваючы ўсе легальныя магчымасьці. Ажыцьцяўленьне кіраўніцтва легальнымі арганізацыямі не павінна ісьці па лініі камандваньня зьверху, але ўмелага кіраўніцтва імі, надаючы ім максымальную самаініцыятыву. Удасканальваючы і пашыраючы арганізацыйныя задачы партыі, пленум падкрэсьліў, што студзеньскія рашэньні ЦК КПЗБ па арганізацыйных пытаньнях застаюцца ў

далейшым ў моцы і павінны служыць выходным пунктам у справе палепшаньня арганізацыйнага становішча нашай партыі.

Абмяркоўваючы ўсе пытаньні, якія датычаць работы нашай партыі сярод рабочых, пленум асабліва падкрэсьліў слабасьць кіраўніцтва нашых арганізацый рухам беспрацоўных. За выключэньнем Вільні, дзе ў апошні час адбыўся цэлы шэраг бурных выступленьняў беспрацоўных, нідзе няпрыкметна якое-небудзь кіраўніцтва з боку нашых арганізацый беспрацоўнымі, аб'яднаньне барацьбы беспрацоўных з працуючымі. Гэта адставаньне пагражае пераходам ініцыятывы ў рукі сацыял-фашызму, які імкнецца ў апошні час узмацніцца сярод беспрацоўных і адарваць іх ад рэвалюцыйнай барацьбы. Неабходна неадкладна прыступіць да арганізацыі шырокага руху беспрацоўных, стварыць усюды шляхам выбараў (на ПУППах, біржах, на мясцох жыхарства) камітэты беспрацоўных, як асноўную форму арганізацыі беспрацоўных. Нароўні з камітэтамі, якія павінны стаяць на чале і аб'ядноць барацьбу ўсіх беспрацоўных, неабходна прыступіць да стварэньня масавых арганізацый беспрацоўных (з рэгістрацыяй членаў яе), якія-б садзейнічалі камітэтам беспрацоўных, трымалі самы шчыльны кантакт з усімі беспрацоўнымі і вялі штодзённую барацьбу за іх штодзённыя патрэбы.

Адным з асноўных пытаньняў, якія стаялі на пленуме, было пытаньне работы нашай партыі ў вёсцы. Бязумоўна, што мы за апошні час маем цэлы шэраг посьпехаў у справе ўзмацненьня ўплываў партыі сярод працоўнага сялянства, у справе кіраўніцтва барацьбой сялян супроць падаткаў, шарваркаў, камасацыі і т. п. Аднак выступленьні сялян носяць яшчэ часта разрозьнены характар, характар асобных выбухаў. Нам яшчэ не ўдалася аб'яднаць у шырокім маштабе гэтыя баявыя выступленьні. Прычына гэтага заключаецца ў тым, што мы недастаткова арганізацыйна ўзмацніліся на вёсцы, што дагэтуль нам яшчэ не ўдалася умацаваць сталую сувязь акругі з усімі раёнамі. Шмат якія выступленьні сялян праходзяць міма нас. Вельмі часта маюцца выпадкі, калі самыя бліжэйшыя вёскі не рэагуюць на рэвалюцыйныя выступленьні іх суседзяў, хаця маюцца ўсе варункі да агульнага арганізаванага выступленьня. Гэта адбываецца таму, што яны ня ведалі і ня былі паведамлены аб маючых быць падзеях. Нашыя акруговыя арганізацыі павінны арганізацыйна так прыстасавацца, каб здалець неадкладна рэагаваць на кожнае выступленьне сялянскіх мас. Кожнае баявое выступленьне сялян павінна стаць зараз-жа вядомым усім працоўным масам, у першую чаргу суседнім вёскам, павінна быць неадкладна арганізавана акцыя дапамогі і салідарнасьці і супольныя выступленьні. **Наша задача—зачапіцца за кожнае выступленьне працоўных сялян, якое здольна ўзьняць шырокія масы да барацьбы супроць фашыстоўскай дыктатуры.** Асноўным нашым лёзунгам для мабілізацыі працоўнага сялянства ў барацьбе супроць польскага акупанта, супроць фашыстоўскай дыктатуры зьяўляецца барацьба супроць падаткаў, зьяўляецца лёзунг—«ні воднага граша ўраду голаду, тэрару, акупацыі і вайны», вакол якога мы павінны **мабілізаваць масы для адмаўленьня ад плацяжу падаткаў і арганізацыі масавага баявога адпору экзэкутарам і паліцыі.** Барацьба працоўнага сялянства павінна быць аб'яднана вакол цэнтральнага лёзунгу нашай партыі «зямля сялянам без выкупа».

Мабілізуючы працоўныя масы да барацьбы супроць фашыстоўскай дыктатуры, імкнучыся ўзьняць гэту барацьбу на вышэйшую ступень, пленум адначасна засьцерагае партыю супроць індывідуальна-тэрарыстычных настрояў супроць перадчасных партызанскіх выступленьняў, што зьяўляецца вынікам адарванасьці і няверра ў арганізаваную масавую барацьбу.

Наша партыя адхіляе арганізацыю праз рэвалюцыйны авангард загаворшчыцкіх, путчысцкіх выступленьняў. Нашай задачай зьяўляецца кіраўніцтва барацьбой мас за іх штодзённыя патрабаваньні і разгортваньне гэтай барацьбы да рашаючых масавых баёў за ўладу, за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленьне. Партыя супроць падмены баявых выступленьняў мас адарванымі выступленьнямі рэвалюцыйнага авангарду. Такія перадчасныя выступленьні без падтрымкі

масавай барацьбы зьяўляюцца небясьпечнымі. Яны на час адрываюць рэвалюцыйны авангард ад мас і даюць магчымасьць фашыстоўскай дыктатуры правакаваць рэвалюцыйны рух і разьбіваць нас па частках, пазбаўляючы масы кіраўніка ў барацьбе.

Адначасова наша партыя павінна кіраваць, пашыраць і папулярызаваць усе формы стыхійных выступленьняў мас у іх нацыянальна-вызваленчай барацьбе супроць польскага акупанта. Масавыя падпалы і іншыя формы стыхійных выступленьняў (накшталт леташніх выступленьняў на ЗУ) зьяўляюцца сьведкам нарастаючай рэвалюцыйнай барацьбы ў вёсцы і наша партыя без агаворак прызнае гэтыя выступленьні **за сваю барацьбу.** Наша задача—увязаць гэтыя выступленьні з агульнай барацьбой рабоча-сялянскіх мас,—**узмацніць і паглыбіць саюз рэвалюцыйнага авангарду з масамі,** уздымаючы на вышэйшую ступень барацьбу мас супроць фашыстоўскай дыктатуры. У гэтых адносінах масавая ўпартая барацьба сялян Волчынскага раёну супроць паліцыі павінна быць папулярызавана ў партыі як прыклад масавага баявога выступленьня. Такія бурныя выступленьні павінны стаць неадкладна вядомымі ўсяму краю, бліжэйшыя вучасткі павінны быць неадкладна мабілізаваны на дапамогу змагаючымся.

Дзеля таго, каб пасьпяхова змагацца супроць путчысцкіх настрояў і ўцягнуць гэтыя бязумоўна рэвалюцыйныя элемэнты ў масавую барацьбу, неабходна **самая цесная ўвязка барацьбы пралетарыяту з барацьбой працоўных мас вёскі,** падтрымка з боку пралетарыяту кожнага рэвалюцыйнага выступленьня сялян.

Асаблівую ўвагу пленум надаў нацыянальнаму пытаньню на ЗБ. Адзначыўшы цэлы шэраг буйных памылак, зробленых з боку усей нашай партыі ў гэтай галіне, пленум у гэтым напрамку зрабіў рашучы **паварот,** вызначаючы ў далейшым яскравую лінію дзеяньняў, канкрэтызуючы нашыя лёзунгі, зьвяртаючы асаблівую ўвагу на штодзённую работу для заваяваньня большасьці працоўных мас гораду і вёскі. **Асноўным мабілізуючым лёзунгам зьяўляецца барацьба за права на самавызначэньне аж да дзяржаўнага аддзяленьня ад Польшчы прыгнечаных народаў.** Цэнтральнае месца ў нацыянальна-вызваленчай барацьбе павінна займаць пытаньне мабілізацыі ўсіх працоўных мас ЗБ на барацьбу супроць польскага імпэрыялізму. Партыя павінна высьвятліць масам, што пралетарская рэвалюцыя ў Польшчы дасьць поўную волю народам, якія насяляюць Польшчу, вырашаць свой лёс і што шлях да нацыянальнага вызваленьня прыгнечаных народаў ляжыць праз зваленьне фашыстоўскай дыктатуры. «Пленум з усей рашучасьцю падкрэсьлівае, што пасьпяховая мабілізацыя прыгнечаных беларускіх, украінскіх, літоўскіх і яўрэйскіх народных мас на барацьбу супроць акупацыі магчыма толькі **на падставе шырокага разгортваньня барацьбы мас супроць усялякай праявы нацыянальнага ўціску, за штодзённыя нацыянальныя патрабаваньні працоўных мас прыгнечаных народаў».** Неабходна ўсямерна завастрыць барацьбу з нацыянал-фашызмам, дэмаскоўваючы яго ролю як саюзьніка і агента фашыстоўскай акупацыі і здрадніка нацыянальна-вызваленчай барацьбы.

V пленум, выпрацоўваючы лінію партыі, яшчэ раз падкрэсьліў, што ўся дзейнасьць партыі па заваяваньню і мабілізацыі мас павінна адбывацца ў цеснай увязцы з **арганізаванай барацьбой супроць імпэрыялістычнай вайны і ваеннай інтэрвэнцыі, у абарону СССР.** Барацьба супроць навіслай пагрозы вайны павінна быць складовай часткай нашай штодзённай работы.

Барацьба супроць інтэрвенцыі павінна быць цесна ўвязана з барацьбой супроць сацыял-фашызму, супроць II Інтэрнацыяналу, як зачыншчыка і аднаго з непасрэдных удзельнікаў арганізацыі крыжовага паходу супроць СССР.

Барацьба супроць вайны павінна быць цесна ўвязана з нашай работай сярод салдат польскай арміі. Пленум падкрэсьліў, што гэта праца ідзе **нездавальняюча,** што ўся наша партыя дагэтуль не ўцягнута ў гэту работу, застаўляючы ўвесь цяжар яе выключна на спэцыяльных да гэтай мэты прызначаных людзей. Задача ўсіх нашых арганізацый—быць уцягнутымі ў работу па заваяваньню большасьці салдат для пралетарскай рэвалюцыі, раскладу фашыстоўскіх і сацыял-

фашыстоўскіх ваенных і поўваенных арганізацый.

Эканамічны крызыс, расклад фашыстоўскага лягеру, пачынаючыся развал дзяржаўнага фашыстоўскага апарату, бурны рост рэвалюцыйнай хвалі ва ўсей Польшчы завастрыў мэтады крывавага тэрару на Зах. Беларусі. Польскі акупант разгарнуў на ўсей ЗБ жорсткі крывавы паход супроць працоўных мас (масавыя расстрэлы, забойствы ў дэфэнзывах і турмах, карныя экспэдыцыі), імкнучыся пры дапамозе лютых зьверскіх рэпрэсій дэмаралізаваць рэвалюцыйны рух, напалохаць масы і пры дапамозе сацыял-фашызму і непасрэдна створаных ім трансмісій да мас (саюзы господарчэ) сарваць рэвалюцыйную барацьбу, контрнаступленьне працоўных мас супроць фашыстоўскай дыктатуры. Супроць гэтага крывавага тэрару неабходна мабілізаваць масы і даць арганізаваны адпор фашыстоўскім катам. Працоўныя масы ўжо пачынаюць ламаць перагароды фашыстоўскага тэрару, змагаючыся з паліцыяй, адбіваючы арыштаваных і г. д. Фашыстоўскаму тэрару **неабходна супроцьставіць арганізаваную масавую рабоча-сялянскую самаабарону** і пры яе дапамозе ўцягнуць у гэту барацьбу ўсіх працоўных.

Партыя павінна мабілізаваць масы на барацьбу супроць зьдзекаў над палітвязьнямі ў польскіх фашыстоўскіх турмах, супроць увядзеньня фашыстоўскага турэмнага закону, які прыроўнівае палітычных вязьняў да становішча крымінальных. Працоўныя масы павінны аказаць арганізаваную баявую падтрымку змагаючымся палітычным вязьням за іх чалавечыя правы. Партыя павінна заклікаць масы да арганізаванага супроцьстаўленьня масавым арыштам рэвалюцыйных рабочых і сялян, да **адбіваньня і вызваленьня арыштаваных.**

III пленум ЦК КПП, які адбыўся пасьля V пленуму ЦК КПЗБ, зацьвердзіў усе рашэньні V пленуму і яскрава накрэсьліў перспэктыву надыходзячых рэвалюцыйных баёў ва ўсёй Польшчы.

Расьце рэвалюцыйная напружанасьць мас. З кожным днём зараджаюцца новыя формы барацьбы. Усё часьцей прарываецца фашыстоўскі фронт у яго слабых мясцох. Працоўныя масы ўсё хутчэй набліжаюцца да рашаючых баёў за ўладу, за дыктатуру пралетарыяту. **У гэтых варунках рашаючае значэньне мае кіруючая роля партыі, якая стаіць на чале кожнага выступленьня мас супроць наступленьня капіталу, за хлеб, працу і волю, накіроўваючы масы на шлях рэвалюцыйнага выхаду з крызысу.** У варунках хуткага нарастаньня рэвалюцыйнага крызысу сацыял-фашызм адыгрывае ролю апошняга рэзэрву буржуазіі, імкнучыся пры дапамозе манэўраў адцягнуць масы ад пралетарскай рэвалюцыі. Па меры росту рэвалюцыйнай барацьбы магчымы яшчэ цэлы шэраг «дэмакратычных» манэўраў для выратаваньня буржуазнай дыктатуры; магчымы яшчэ розныя ўнутраныя формы фашыстоўскага панаваньня, розныя яго прыкрыцьці і дэкарацыі для ашуканства мас. Але ўся сучасная сытуацыя сьведчыць аб **вялікіх магчымасьцях зьнішчэньня масавай базы сацыял-фашызму, заваяваньня рашаючай большасьці пралетарыяту, асноўных мас сялянства і прыгнечаных народаў** для рэвалюцыі. Напружанасьць эканамічных баёў ставіць перад Партыяй задачу арганізацыі масавых палітычных стачак з **перспэктывай разгортваньня гэтых стачак у агульна-палітычную забастоўку.** Гэта задача стаіць перад усей Партыяй. Толькі кіруючы кожным выступленьнем мас, Партыя не апыніцца зьнянацку перад набліжаючымся рэвалюцыйным крызысам, які нельга аддзяліць ніякім кітайскім мурам ад сучаснага рэвалюцыйнага ўздыму. Гэты крызыс ставіць перад Партыяй ва ўсім аб'ёме **задачу падрыхтаваць і арганізаваць узброенае паўстаньне рабочых, сялян і салдат,** што ўжо зараз Партыя павінна падрыхтавацца да гэтых набліжаючыхся баёў. Каб выканаць гэтыя задачы неабходна чым хутчэй ліквідаваць адставаньне, ператварыць усю партыю ў баявую магутную ўдарную адзінку, гатовую ісьці наперад, падцягваючы за сабой большасьць рабочых і працоўных мас вёскі.

Наперад, таварышы! Уся энэргія павінна быць накіравана да выкананьня рашэньняў V пленуму ЦК КПЗБ і III пленуму ЦК КПП.

---

**Д. Б.**

# Забастоўка віленскіх гутнікаў.

## ЗА САМАСТОЙНАЕ КІРАЎНІЦТВА ЭКАНАМІЧНЫМІ БАЯМІ ПРАЛЕТАРЫЯТУ

Пераможна скончыўшаяся забастоўка гутнікаў у Вільні адбывалася ў варунках шырокага рэвалюцыйнага ўздыму мас і завастрэньня клясавай барацьбы ва ўсей Польшчы і на ЗБ. Гэта забастоўка мае вялізарнае значэньне для далейшага разгортваньня эканамічных баёў на ЗБ і на яе досьледзе нашы партарганізацыі павінны вучыцца, як самастойна рыхтаваць і кіраваць эканамічнымі баямі пралетарыяту.

Прадпрыемцы віленскіх гут спадзяваліся пры дапамозе голаду і тэрару прымусіць рабочых стаць перад імі на калені. З гэтай мэтай яны, пасьля зачыненьня гут на 9 месяцаў, аднавілі работу, дыктуючы рабочым цяжкія падняволь-ныя ўмовы працы (зьніжэньне заробкаў, ліквідацыю прэмій за выпрацоўку звыш нормы, выкідваньне рэвалюцыйных рабочых і т. п.), імкнучысь пры дапамозе паліцыі навязаць рабочым фашыстоўскі саюз гутнікаў. З гэтага моманту пачынаецца ўпартая барацьба паміж большасьці рабочых пад кіраўніцтвам профлявіцы і прадпрыемцамі разам з фашыстоўскім саюзам. Першымі ўступаюць у бой шапіраўцы. Падрыхтоўчая работа праходзіць з вялікім уздымам. На масоўкі, якія склікаюцца профлявіцай, прыходзяць усе рабочыя. У час масовак рабочыя ствараюць самаабарону, ахоўваючы рэвалюцыйных прамоўцаў. Побач з абгаварэньнем пытаньняў, якія датычаць надыходзячай акцыі, рабочыя актыўна рэагуюць на палітычныя падзеі ў краі (рэзалюцыі супроць фашыстоўскай дыктатуры, супроць ББ, бурныя прывітаньні палітзьняволеным і г. д.). Ня будучы яшчэ аканчальна падрыхтаванымі да забастоўкі, няўпэўненыя у падтрыманьні іх з боку вітрумцаў, у асяродзьдзі якіх фашыстоўскі саюз імкнуўся пры дапамозе хуліганаў і тэрару ўнесьці разлажэньне, шапіраўцы ўжывалі спачатку мэтады італьянскай забастоўкі, выпрацоўваючы палову вызначанай прадпрыемцам нормы.

Аднначасова з гэтым падрыхтоўчая работа да агульнай забастоўкі перакідваецца на гуту Вітрум. Дзякуючы добраму падыходу да масаў, профлявіцы ўдаецца дэмаскаваць бебехоўцаў і ўцягнуць у барацьбу рабочых Вітрум. Вялікую ініцыятыву і актыўнасьць выяўляе пры гэтым парт. ячэйка. ББ, бачучы баявы настрой мас, імкнецца не дапусьціць да забастоўкі; улічваючы пры гэтым настрої рабочых, бебехоўцы пераходзяць з наступальнай у абаронючую пазыцыю. Баючыся, каб рабочыя іх ня выкінулі з гут, яны прапануюць рабочым задаволіцца толькі італьянскай забастоўкай, а адначасова яны перадаюць ахранцы актыўных рэвалюцыйных рабочых. Усе гэтыя фашыстоўкія манэўры напатыкаюцца на рашучы адпор мас. Партыя і профлявіца, растлумачваючы на мітынгах і масоўках мэту прадпрыемцаў і фашыстоўскага саюзу, ламае іх супраціўленьне і арганізуе рабочых абодвух гут, якія абіраюць на агульным сходзе супольны забастовачны камітэт і прыступаюць да забастоўкі.

Пасьля чатырохдзённай забастоўкі рабочыя Шапіра, выйграўшы амаль усе свае патрабаваньні (18% падвышкі—патрабавалі 20%, за звыш нормы — 50%, 20 зл. у месяц за кватэру, падвышэньня зарплаты банькажам і т. п.), улічваючы стварыўшуюся канкрэтную абстаноўку, прыступаюць, пасьля рашэньня агульнага сходу і забастовачнага камітэту, пасьля ўзгадненьня з працягваючымі баставаць вітрумцамі, да работы. Шапіраўцы ў далейшым вядуць клясавую і

салідарную барацьбу разам з бастуючымі вітрумцамі, падкрэсьліваючы, што яны зварочваюцца да работы, каб садзейнічаць перамозе вітрумцаў і супраціўляцца штрэйкбрэхерскай дзейнасьці бебехоўцаў (бебехоўцы прапанавалі вітрумцам згадзіцца на 6% падвышкі). Застаючыся ў далейшым у агульна-забастовачным камітэце, шапіраўцы падтрымліваць усімі сіламі бастуючых вітрумцаў, адлічваючы ў іх карысьць цэлы дзённы свой заробак, зьвяртаючыся да іншых рабочых аб падтрыманьні і т.п.

У ходзе забастоўкі Віленская арганізацыя і профлявіца разгортваюць сярод віленскіх рабочых (хаця недастаткова) кампанію салідарнасьці з бастуючымі. Віленскі рабочы разумее, што гэта забастоўка зьяўляецца рашучай для далейшай барацьбы; гэта дасканала ўразумелі чыгуначнікі, якія паслалі да шапіраўцаў дэлегацыю і, перадаўшы ім сабраныя грошы для бастуючых, заявілі, што ўсе чыгуначнікі вітаюць іх гераічную барацьбу і **абяцаюць вучыцца ў іх, як патрэбна змагацца.**

Вытрыманасьць рабочых вітрумцаў, якія не пайшлі на ўгаворы бебехоўцаў, баявое падтрыманьне шапіраўцаў, іх пагроза зноў абвясьціць забастоўку, сільнае бушаваньне сярод іншых рабочых прымушае прадпрыемцаў Вітрума ісьці на ўступкі і згадзіцца на падвышэньне заробкаў на 8% і 5 злотых прэміяльных. Забастоўка на Вітрум заканчваецца пад кіраўніцтвам забастовачнага камітэту, пры поўнай ізоляцыі бебехоўцаў. Шмат садзейнічала ў горшы бок на вынікі забастоўкі вітрумцаў тое, што большасьць рабочых у часе забастоўкі пайшла назад на вёску ці на сэзонныя работы, так што баявая энергія рабочых была распылена.

Гэраічная упартая барацьба віленскіх гутнікаў зьяўляецца найлепшым доказам пераходу рабочых у контрнаступленьне супроць наступленьня прадпрыемцаў. Права-апартуністычная «тэорыя» аб немагчымасьці правядзеньня пераможных забастовак у час глыбокага эканамічнага крызысу пацярпела поўнае паражэньне. Бліскучая перамога шапіраўцаў стала магчымай, дзякуючы самастойнай і добрай падрыхтоўцы з боку профлявіцы да забастоўкі, дзякуючы правільнаму правядзеньню ў жыцьцё тактыкі адзінага фронту зьнізу і ўцягненьню ўсіх рабочых у актыўную барацьбу супроць прадпрыёмцаў, дзякуючы умеламу дэмаскаваньню сярод гутнікаў здрадніцкай ролі бебехоўцаў, дзякуючы актыўнасьці і ініцыятыве з боку нашых парт. ячэяк. Гэта забастоўка узьняла аўтарытэт профлявіцы сярод рабочых Вільні і садзейнічала выбуху забастоўкі на цагельні «Пурта» і пераходу кіраўніцтва забастоўкай у рукі профлявіцы (ізалюючы бебехоўцаў).

Але разам з вялізарнымі дасягненьнямі віленскай арганізацыі пры самастойнай арганізацыі і кіраўніцтве барацьбой гутнікаў неабходна падкрэсьліць шэраг памылак, утвораных ёю ў ходзе забастоўкі. Віленская арганізацыя недастаткова папулярызавала сярод рабочых аграмаднае значэньне для далейшай барацьбы рабочае клясы забастоўкі гутнікаў. Слаба быў падкрэслены контрнаступальны характар гэтай забастоўкі. Забастоўка гэта ня была выкарыстана для аб'яднаньня барацьбы працуючых з барацьбой беспрацоўных, для ўцягненьня і актывізацыі ў гэтай барацьбе ўсіх рабочых Вільна, для увязкі барацьбы гутнікаў з агульнай барацьбой віленскага пралетарыяту за вуліцу (супольныя мітынгі і дэманстрацыі). Некаторыя кіруючыя віленскія таварышы несваячасова зразумелі буйную перамогу, якая дасягнута шапіраўцамі, і тлумачылі зварот шапіраўцаў да работы, як «паражэньне». Гэта памылковая ацэнка парадзіла далейшую ў корані памылковую ўстаноўку гэтых т.т. на тое каб штурхнуць шапіраўцаў да аднаўленьня толькі што пераможна скончанай забастоўкі. У гэтай установцы хаваецца механічны падыход да кіраўніцтва барацьбой мас, жаданьне камандаваньня зьверху, а не лічыцца з канкрэтнымі абставінамі, з рэальнымі магчымасьцямі і настроямі мас. Цяжкасьці ў кіраўніцтве эканамічнымі баямі выражаюцца ня толькі ва уменьні узьняць рабочых да барацьбы, але і ва ўмелым кіраўніцтве забастоўкай, разгортваньні яе і ўменьні па ленінску, сваечасова, атрымліваючы перамогу, скончыць адну барацьбу і падрыхтаваць арганізацыйна масы да наступных выступлень

няў. Няправільная напоўпаражэнцкая ўстаноўка віленскіх кіруючых таварышоў магла садзейнічаць (партыя неадкладна выправіла гэту памылку) паслабленьню баявых настрояў шапіраўцаў, паслабленьню салідарнасьці паміж шапіраўцамі і вітрумаўцамі і садзейнічаць параджэньню элементаў антаганізма паміж імі. Менавіта гэтая памылка—жаданьне ускласьці ўвесь цяжар барацьбы выключна на шапіраўцаў—паслабіла актыўнасьць арганізацыі па разгортваньні акцыі салідарнасьці і падтрыманьня з боку ўсяго пралетарыяту Вільні.

Неабходна падкрэсьліць слабае рэагаваньне з боку іншых партарганізацый на забастоўку віленскіх гутнікаў, неразуменьне з іх боку ўсей важнасьці гэтай забастоўкі. Нашы арганізацыі амаль нічога не рабілі, каб папулярызаваць забастоўку віленскіх гутнікаў і зрабіць яе выходным пунктам для разгортваньня эканамічных баёў пралетарыяту на Заходняй Беларусі. **Задача нашай партыі, як перадавога авангарду свае клясы—выкарыстаць кожнае выступленьне мас, здольнае ўзьняць баявы настрой рабочае клясы, і кіраваць гэтымі баямі.** Мала было зроблена дзеля таго, каб уцягнуць гутнікаў іншых гарадоў у забастоўку, хаця варункі да гэтага бязумоўна былі і ёсьць. У гэтым яшчэ хаваецца небясьпечны настрой нашых партарганізацый прадаставіць Профаддзелу выключнае кіраўніцтва эканамічнымі акцыямі, замест таго, каб уцягнуць усю арганізацыю, у першую чаргу ячэйкі, у гэту работу (высілкі Профаддзелу ў гэтым напрамку ня далі вынікаў, з прычыны слабага падтрыманьня гэтай ініцыятывы з боку нашых партарганізацый).

У апошні час фашыстоўскі ўрад і прадпрыемцы на ЗБ, як і ва ўсей Польшчы, узмоцнілі свае атакі на рабочую клясу. Усюды наступленьне прадпрыемцаў ідзе па лініі скарачэньня і без таго жабрацкіх заробкаў рабочых і павялічэньня рабочага дню (у тэкстыльшчыкаў скарочаны заробкі больш чым на 25% і ўзмоцнена эксплёататарская рацыяналізацыя, у гутнікаў — звыш 30%, тое-ж самае зьявішча маем і ў іншых галінах прамысловасьці). Побач з пагоршаньнем варункаў працы прадпрыемцы пры дапамозе фашыстоўскага ўраду і бебехоўскіх саюзаў («звёнзек господарчы») вядуць наступленьне супроць рэвалюцыйнай профлявіцы, зачыняюць левыя прафсаюзы (Вільня) і прымушаюць рабочых пад пагрозай звальненьня запісваца ў бебехоўскія саюзы (Вітрум і цагэльня «Пурта» ў Вільні і іншыя).

Асабліва моцна адчуваецца пагоршаньне становішча рабочых і служачых на дзяржаўных прадпрыемствах (чыгуначнікі, камунальныя рабочыя, дзяржаўныя і камунальныя рабочыя і служачыя). Урад акупацыі і вайны скарачае пэнсію на 15%—35%, ліквідуе «крэсавыя додаткі», праводзіць масавую рэдукцыю, выкідваючы на вуліцу дзясяткі тысяч дзяржаўных служачых і рабочых. Ва ўсіх дзяржаўных прадпрыемствах пануе нячуваны фашыстоўскі ўціск і тэрар, накіраваныя перадусім супроць рэвалюцыйна настроеных рабочых (выкідваньне іх з прадпрыемстваў). Яшчэ больш пагоршылася становішча беспрацоўных з-за скарачэньня і так жабрацкіх дапамог з 17-ці на 13 тыдняў.

Сацыял - фашыстоўскія правадыры (ППС і Бунд) робяць усё, каб дапамагчы ўраду і прадпрыемцам у іх наступу супроць рабочых. Яны яўна прапагандуюць паражэньне, немагчымасьць вядзеньня эканамічных баёў у час крызысу. Іх профсаюзныя верхавіны робяць усё, каб недапусьціць да забастовак, каб дэмаралізаваць рабочых і рабіць немагчымымі салідарныя выступленьні. Профсаюзныя бонцы робяць усё, каб супроцьпаставіць адну частку рабочых другой (так напрыклад, бундаўскія профбонцы ў Беластоку садзейнічаюць тэкстыльным фабрыкантам супроцьпаставіць лёнбуднікаў другім рабочым, ствараючы «каапэратывы» лёнбуднікаў на фабрыках, дапамагаючы такім чынам фабрыкантам зьнізіць заробкі).

У апошні час фашызм робіць шалёныя спробы, каб стварыць уласныя непасрэдныя трансмісіі да рабочых, ствараючы бебехоўскія саюзы (зьвёнзкі господарчэ), каб такім чынам пры дапамозе тэрару і правакацый на прадпрыемствах супроцьставіцца росту рэвалюцыйнага ўплыву профапазыцыі і хвалі

эканамічных забастовак (Вільна — фашыстоўскі саюз гутнікаў і цагэльнікаў робіць усё, каб пранікнуць у асяродзьдзе гутнікаў у іншых гарадох і г. д.).

Але ўсе гэтыя фашыстоўскія і сацыял-фашыстоўскія мерапрыемствы ня могуць зламаць баявую энэргію мас і ўтрымаць бурнае разгортваньне эканамічных баёў. Рабочыя паўсюды прарываюць фашыстоўскія перагароды і пераходзяць да контрнаступленьня (стыхійныя і арганізаваныя забастоўкі на Зах. Беларусі: гутнікі, шаўцы, шасэйныя рабочыя, будаўнікі, торфянікі, батракі, цагэльнікі, баявыя выступленьні горадзенскіх рабочых фабрыкі дыкт, разгрузка вагонаў гатовых для адпраўкі, каб такім чынам прымусіць прадпрыемцаў выплаціць рабочым частку пэнсіі, шматлікія дэманстрацыі беспрацоўных у Вільні).

Пры гэтым характэрна падкрэсьліць, што менавіта там, дзе фашысты стварылі свае саюзы, рабочыя хутка перакаваліся ў іх здрадніцкай ролі і пачалі, наперакі іх волі, забастоўкі (забастоўка на Вітрум і цагэльні Пурта). Усюды прыкмечаецца моцнае хваляваньне сярод рабочых (асабліва сярод тэкстыльшчыкаў) і імкненьне да барацьбы. Але гэты рост актыўнасьці мас напатыкаецца на сур'ёзныя цяжкасьці. Усюды мы наглядаем тыя ж самыя зьявішчы разьяднанасьці і неарганізаванасьці рабочых, адсутнасьць, у большасьці выпадкаў, арганізаванай профлявіцы, якая-б самастойна кіравала гэтымі баямі, няўменьне з боку нашых таварышоў непасрэдна зьвязацца з рабочымі буйных прадпрыемстваў.

Нашы партарганізацыі, за выключэньнем Вільні, дагэтуль яшчэ недастаткова мабілізавалі рабочых да барацьбы супроць правадыроў сацыял-фашыстоўскіх і фашыстоўскіх саюзаў. Неабходна з усей вострасьцю падкрэсьліць слабую работу нашых арганізацый ў справе дэмаскаваньня і барацьбы з самым небясьпечным ворагам пралетарскай рэвалюцыі і кампартыі—з сацыял-фашызмам—ППС і Бундам. Нашы партарганізацыі недастаткова дэмаскуюць у масах здрадніцкую ролю сацыял-фашыстоўскіх правадыроў на падставе іх штодзённай практыкі. Цэлы шэраг зьявішч паказвае на тое, што уплыў сацыял - фашыстаў падае, што ў іх нізох адбываецца моцнае абурэньне, але няўменьне з нашага боку выкарыстаць гэта ў час і пранікнуць сярод іх—дае ім магчымасьць манэўраваньня і далейшага ўтрыманьня адыходу рабочых ад іх.

У гэтым напрамку забастоўка гутнікаў у Вільні зьяўляецца буйным крокам наперад. Віленская арганізацыя (ня гледзячы на цэлы шэраг памылак) у агульным дасканала правяла гэтую забастоўку, **робячы паварот у справе самастойнага кіраўніцтва эканамічнымі баямі рабочых.**

V Пленум ЦК КПЗБ паставіў, як асноўную задачу перад партыяй у справе разгортваньня эканамічных баёў, максымальнае разьвіцьцё ініцыятывы арганізацый на мясцох для мабілізацыі шырокіх мас да барацьбы супроць шалёных атак фашыстоўскага ўраду і прадпрыемцаў на рабочую клясу. **Самастойна кіраваць гэтымі баямі, уцягваючы ўсю партыю, у першую чаргу ячэйкі, у гэту барацьбу, высоўваючы і выхоўваючы шырокі рэвалюцыйны актыў, спалучаючы эканамічныя акцыі з палітычнымі баямі працоўных мас супроць фашыстоўскай дыктатуры, шырока і рашуча ўжываць тактыку адзінага фронту ў дачыненьні да беспартыйных рабочых і рабочых сяброў варожых нам партый**—вось тыя задачы, якія стаяць перад партыйнымі арганізацыямі.

Каб партыя здолела справіцца з задачамі, якія стаяць перад ёю, партарганізацыі павінны праз камфракцыі ўзмацніць і ўмасавіць рэвалюцыйныя прафсаюзы, пашырыць і садзейнічаць стварэньню шырокай сеткі профлявіцы на прадпрыемствах, майстэрнях, маёнтках і сярод беспартыйных, каардынуючы і цэнтралізуючы іх дзеяньні пры дапамозе непасрэдных выбараў (на масоўках і рабочых канфэрэнцыях) кіруючых органаў профлявіцы (гарадзкіх, акруговых, і краявога), узмацніць работу ў сацыял-фашыстоўскіх і фашыстоўскіх профсаюзах, ствараючы там шырокую сетку профлявіцы. Неабходна энэргічна прыступіць да пашырэньня арганізацыі і кіраўніцтва рэвалюцыйнай барацьбой беспрацоўных і да аб'яднаньня яе з барацьбой працуючых, ставячы гэту работу ў цэнтры ўвагі ўсёй партыі. Неабходна

ўсюды неадкладна прыступіць да стварэньня органаў барацьбы мас (фабзаўкомы, камітэты акцыі, стачачнныя камітэты, батрацкія камітэты і камітэты арганізацыі беспрацоўных).

Бліжэйшыя задачы, якія стаяць перад нашымі партарганізацыямі—гэта арганізацыі і разгортваньне забастовачнай барацьбы супроць рэдукцый і зьніжэньня заробкаў сярод чыгуначных рабочых, сярод дзяржаўных і камунальных служачых, асабліва сярод рабочых манапольных прадпрыемстваў (Горадня, Пінск, Гайнаўка), падрыхтоўка і правядзеньне шырокага забастовачнага руху сярод сельска - гаспадарчых рабочых у сувязі з уборкай. Беластоцкая арганізацыя павінна зьвярнуць максымум увагі кіраўніцтву барацьбой тэкстыльшчыкаў, супроцьстаўляючыся спробам сацыялфашызму (ППС і Бунд) узмацніць свой уплыў сярод тэкстыльшчыкаў. Стоючы на чале і кіруючы стачачнай барацьбой, неабходна адначасова выкарыстаць і узначаліць усякія іншыя формы барацьбы, накіраваныя супроць прадпрыемцаў і фашыстоўскай дыктатуры (італьянскія забастоўкі, адмаўленьне пакінуць фабрыкі, увязка забастовак з дэманстрантамі, ўцягненьне ў барацьбу жонак і дзяцей рабочых і г. д.).

Досьлед віленскай забастоўкі паказаў на растучую небясьпеку з боку фашыстоўскіх і сацыял - фашыстоўскіх дружын. Неабходна энэргічна прыступіць да арганізацыі і ўзмацненьня масавых дружын самаабароны, уцягваючы ў іх беспартыйных рабочых, выкарыстоўваючы ўсе магчымыя формы і спосабы для арганізацыі масавай самаабароны.

Пераможная забастоўка віленскіх гутнікаў павінна стаць стымулам для ўзьняцьця эканамічных баёў рабочае клясы на вышэйшую ступень, для ліквідацыі адставаньня партыі ад разьвіцьця актыўнасьці мас і ўзначаленьня з боку нашай партыі эканамічнай і палітычнай барацьбы пралетарыяту Заходняй Беларусі.

---

**Партыя павінна ўхапіцца за ўсялякую форму барацьбы мас, каб разьвіваць яе і ўздымаць на вышэйшую ўсходку. Шырокае стасаваньне тактыкі адзінага фронту зьнізу ў варунках абвостранай барацьбы за масы больш чым калі-кольвек павінна быць выкарыстана для пашырэньня фронту барацьбы, уцягваньня ў яе новых атрадаў, дэмаскаваньня фашыстоўскіх і сацыял-фашыстоўскіх партый і адрыву ад іх мас.**

**(З рэзалюцый V пленуму ЦК КПЗБ).**

---

**І. Сьпіс.**

# Кракаўскі кангрэс ППС.

## (Сацыял-фашызм на новых пазыцыях).

Калі ў Кракаве распачынаў свае працы XXII кангрэс ППС, у суседнім г. Яворжне аграмадныя натоўпы гарнякоў удзельнічалі ў пахаваньні таварышоў па працы, якія палеглі ў гераічнай барацьбе з фашыстоўскай дыктатурай. Шэраг капальняў у Дамброўскім басэйне працягваў забастовачную барацьбу наперакор здрады станчыкаўскай банды. Тэкстыльшчыкі ў Бельску, якім аб'яўлены лёкаут, у першы раз пачалі прыпіраць да муру ППС-аўскіх верхаводаў, якім да гэтага часу ўсе здрадніцкія манэўры праходзілі бяскарна. Наперакор прафсаюзным правадыром выбухла баявая забастоўка гарнякоў паташовых салей у Калушы. З вялікімі труднасьцямі ўдалося махерам з ППС апанаваць забастовачны рух у нафтавым басэйне. «Роботнік» у артыкуле пад назвай «Узбурэньне» сьцьверджаў:

«Хваля забастовак сёньня залівае Польшчу... Усе забастоўкі маюць стыхійны характар, ідуць «зьнізу», зьяўляюцца выразам волі мас, а роля прафсаюзаў абмяжоўваецца да **ўтрыманьня дысцыпліны і да пасярэдніцтва паміж старонамі».**

Хутка пасьля кангрэсу рэвалюцыйная забастоўка варшаўскіх трамвайшчыкаў паказала,як адзінадушна перадавыя атрады пралетарыяту адкідваюць ужо гэтую «дысцыпліну» і тое «пасярэдніцтва», як прафсаюзаў ППС, так і ББС і паўдзюжыны іншых гнёзд здрады.

Кангрэс ППС, які праходзіў у такой сытуацыі, з натуры рэчы, павінен быў быць больш чым нармальна прасеяным з погляду падбору дэлегатаў, павінен быў быць асабліва добра сыгранай кампаніяй паслоў, сэнатараў і бондзаў партыйнага і прафсаюзнага апарату. Адгэтуль зусім ня вынікае тое, каб на кангрэсе не існавала апазыцыі. Наадварот, сытуацыя вымагала параднага маршу апазыцыі з трыбуны кангрэсу так, як вымагала параднай дыскусіі перад кангрэсам.

Каб ня было чуваць галасоў апазыцыйна-настроеных рабочых, якія яшчэ знаходзяцца ў ППС, сам цэнтральны выканаўчы камітэт запэўніў манаполю апазыцыйных выступленьняў на кангрэсе Зарэмбам, Шчэркоўскім і Дробнэрам, якія толькі ў такіх выпадках прыпамінаюць сабе аб сваёй «левасьці». Маскарад пустых фразаў шматзначучых недагаворак ніколі ня быў патрэбны ў такоў ступені, як гэтым разам, каб укрыць **істотныя** праблемы, над якімі круцяць сабе галавы правадыры польскага сацыял-фашызму, і **істотны** напрамак вырашэньняў, якіх яны шукаюць.

### ГАЛОЎНЫ ВОРАГ І «МЕНШАЕ ЗЛО».

Рэзалюцыі і даклады кангрэсу кажуць аб ліквідацыі «санацыйнай сыстэмы» і «ліквідацыі» самога капіталізму. У дыскусіі гаварылася аб «зваленьні» дыктатуры. Шчэркоўскі абвяшчае, што набліжаецца «зваленьне дыктатуры рэвалюцыйным шляхам». Нэйбауэр кажа аб «банкрунцтве рэфармізму» і аб тым, што хутка «найбольшы рэвалюцыянэр — голад, пераможа страх перад карабінамі і штыхамі». Дубуа дамагаецца «стварэньня фізычнай сілы пралетарыяту» і «беспасрэднай акцыі», адначасна сьцьвярджаючы, што «ліквідацыя дыктатуры парлямэнтарным шляхам зьяўляецца выключанай» (немагчыма). Дробнэр гаварыў, здаецца, яшчэ больш «чырвона».

З гэтых фразаў вынікала, што галоўным ворагам для ППС зьяўляецца дыктатура Пілсудзкага, галоўным фронтам барацьбы—фронт супроць гэтай дыктатуры.

Бязумоўна, так разумеюць мэту партыі рабочыя і сяляне, якія яшчэ нале-

жаць да ППС, ці прызнаюць яе кіраўніцтва. Рэвалюцыйныя фразы, асабліва фразы «апазыцыі» маскуюць перад імі істотны контррэвалюцыйны характар дзейнасьці партыі. Але гэтыя апазыцыянэры, так чырвоныя на словах,—Шчэркоўскія, Станчыкі, Нэйбаўэры — зьяўляюцца тымі, якія як перадавыя прафсаюзныя бюракраты праводзяць пепэсаўскую тактыку душэньня і ламаньня барацьбы мас, тактыку ўтрымліваньня мас у маразьме і акамяненьні, **тактыку абароны капіталізму і фашыстоўскай дыктатуры** перад рэвалюцыйным напорам мас.

Гэты сапраўдны фронт барацьбы ППС, яе **контррэвалюцыйнае аблічча,** прабіваецца таксама, ня гледзячы на фарбу радыкальных фраз, у пастановах і дакладах кракаўскага кангрэсу.

Вось напрыклад, як галоўны «стратэг» ППС, Недзялкоўскі, ацэньвае магчымасьць разьвязаньня сытуацыі ў выпадку краху існуючай сыстэмы фашыстоўскай дыктатуры:

> «Ліквідацыя можа наступіць альбо на карысьць дэмакратыі, альбо на карысьць нацыянал-дэмакратыі, альбо на карысьць камунізму, як спосабу панаваньня».

ППС-аўскім выразьнэньнем, прызнаным за найлепшае з магчымых, зьяўляецца «дэмакратыя» ці ўрад Цэнтралеву. А з застаўшыхся магчымасьцяў — працягваньне санацыі, панаваньне эндэцыі, камунізму, як «спосабу панаваньня»—каго з іх ППС прызнае за **найбольшае зло?** Недзялкоўскі адказвае:

> «Гэтаму першаму (працягваньне санацыі—І. С.) мы хочам перашкодзіць; тое апошняе (перамога камунізму — І. С.) азначае разам з тым **«ліквідацыю» незалежнасьці Польшчы, ну і «ліквідацыю» усяго нашага сацыялістычнага сьветапогляду;** тое другое (панаваньня эндэцыі—І. С.) было-б перасоўкай «направа» польскага жыцьця, хаця-ж бы ў формах законных і канстытуцыйных».

Такім чынам, паказаньне Недзялкоўскага заключаецца ў наступным: як санацыя, так і эндэцыя прадстаўляюць з пункту погляду ППС, апрача мінусаў, акрэсьленыя плюсы. Санацыя, далейшаму існаваньню каторай ППС «хоча перашкодзіць», аказваецца — усё-ж яшчэ — больш «левай» ад эндэцыі. Эндэцыя, як кампэнсат за «перасоўку направа», дае «законныя канстытуцыйныя формы». **Адзіным сапраўдным злом,** ліквідацыяй «усяго сацыялістычнага сьветапогляду ППС»—зьяўляецца **камунізм.**

Жулаўскі ў сваім выступленьні на кангрэсе адкрывае сапраўдны зьмест разважаньняў Недзялкоўскага, выводзячы з гэтых прадпасылак неабходнасьць **ратаваньня капіталізму.** Бо ў праціўным выпадку — абвяшчае ён — «мы можам стаць перад катастрофаю, якая ўсё грамадзтва сьпіхне ў стан дзікасьці».

Гэтая «катастрофа» — гэта пралетарская рэвалюцыя. Гэты «стан дзікасьці»— гэта дыктатура пралетарыяту і будаўніцтва сацыялізму.

Але масы, якія прыслухоўваюцца яшчэ да ППС, і рабочыя нізы партыі сёньня ўжо маюць безпамылковае пачуцьцё **таго, дзе галоўны вораг.** Яны бачаць гэтага ворага ў фашыстоўскай дыктатуры; не таму, што яна кепска абараняе буржуазію перад рэвалюцыяй, але таму, што масы адчуваюць наёмніцкі бот гэтай дыктатуры на сваіх плячох, што адчуваюць у ёй клясавую дыктатуру буржуазіі, якую трэба зваліць. Гэтыя масы не адчуваюць разам з Жулаўскім жудасьці пры думцы аб «стане дзікасьці» пасьля пралетарскай рэвалюцыі, бо адчуваюць інакш чым Жулаўскі «стан дзікасьці», голаду і тэрару, у які іх кідае фашыстоўская дыктатура. Жах перад рэвалюцыйным шляхам барацьбы зьнікае ў гэтых масах па меры таго, як зьнікае ў іх надзея трывалай паправы быту пры капіталізьме. Менавіта дзеля гэтага ППС, замест таго каб, як даўней, страшыць масы цяжкасьцямі і ахвярамі рэвалюцыі, змушана што-раз больш апэраваць рэвалюцыйнымі фразамі, змушана падаваць масам сваю контррэвалюцыйную пазыцыю ў мастацкім апакунку з фраз аб «ліквідацыі капіталізму» і «рэвалюцыйных» паказах апазыцыі. Пепэсаўскія масы яшчэ вераць часткова сваім правадыром, што камуністы—гэта «дэмагогі і раскольнікі», але ў **сучаснай сытуацыі** гэтыя масы далі-б адразу рашучы адпор, калі-б кангрэс ППС ясна і выразна сказаў тое, што вынікае як з зацьверджанай кангрэсам ацэнкі сытуа-

цыі і перспэктыў, так і з штодзённай акцыі гэтай партыі: што галоўным ворагам зьяўляецца не санацыя і не эндэцыя, але камунізм, што місія ППС ёсьць — быць абаронным валам капіталістычнага грамадзтва перад пралетарскай рэвалюцыяй.

## СЁНЬНЯШНЕЕ МАЎЧАНЬНЕ І ЎЧОРАЙШАЯ ШМАТКРЫКЛІВАСЬЦЬ.

Вось чаму ні адзін з кангрэсаў ППС не маўчаў столькі аб камунізьме і аб СССР, як гэты кангрэс. Апрача вышэй адзначаных разважаньняў, у якіх для большай «яснасьці» апэравалі алегорыямі «стану дзікасьці», аб камунізьме на кангрэсе наогул ня было мовы.

Пытаньне адносін да СССР было закранута ў дыскусіі перад кангрэсам у спосаб досыць сэнсацыйны — як для ППС—праз нейкага Леліву. Гэты «левы» выразіў думку, што аб СССР трэба пачаць у ППС гаварыць інакш чым да гэтага часу. Трэба прызнаць, напрыклад, што тое, што робіцца ў СССР, зьяўляецца «высілкам вялізарным і творчым, які рэалізуе ўпарцыню па ўсёй лініі сацыялістычны лад», што «існуе ў Эўропе краіна, якая будуе ў пасьпяховым тэмпе новую арганізацыю ладу», што «Савецкая Расія зьяўляецца вялікім момантам для міжнароднага пралетарыяту... паказвае на жывучасьць сацыялістычнай ідэі і магчымасьць яе рэалізацыі», што «прыклад Савецкай Расіі вісіць, як дамоклаў меч над капіталістычным ладам».

Да гэтых нябывалых на старонках «Роботніка» прызнаньняў «левы» Леліва зразумела пасьпяшыў дадаць, што ўсюды, апрача Расіі, камунізм зьяўляецца згубай і што апрача таго ўсюды ён... збанкрутаваў. Адным словам, аўтар, як гэта ён сам укосна прызнае, спрабаваў стасаваць у Польшчы астатні «левы» манэўр Отто Бауэра. Але Леліва выклікаў на сябе вострую крытыку з боку Квапінскага і інш., пасьля чаго настала цішыня. На самым кангрэсе гэтая справа ня была ўзьнята **ані водным словам.** На кангрэсе панавала згоднае маўчаньне ў дачыненьні да сацыялістычнага будаўніцтва ў СССР. Антыбальшавіцкае цкаваньне і супрацоўніцтва ППС у падрыхтоўцы імпэрыялістычнай інтэрвэнцыі былі густа абмотаны пацыфістычнымі фразамі. Чапінскі, прафэсыйны дастаўшчык ілжы, хлусьні і падбухторваньня супроць СССР, які капаецца ў клазэтах белай эміграцыі і міжнароднай контррэвалюцыі ў шуканьні сьмярдзючага «матар'ялу», на кангрэсе адзеў авечую скуру натхнёнага пацыфіста, запэўняючы, што ППС кіне «усе свае высілкі» супроць інтэрвэнцыі «калі-б яна меркавалася». Але ў момант, калі фашыстоўская Фінляндыя выступала з правакацыйнымі выпадамі ў напрамку Савецкай Карэліі і Інгерманляндыі, кангрэс пасьпяшыў запэўніць каго трэба, што ППС будзе бараніць Фінляндыю, Эстонію, Латвію і Літву «перад усялякімі замахамі на іх сувэрэннасьць». А ці-ж не ясна, што менавіта пад гэтакім ці падобным хлусьлівым лёзунгам, аблічаным на ашуканства мас, распачнецца ўзброеная інтэрвэнцыя супроць СССР? Апрача ўсяго, кангрэс прыняў пад авацыі, як заўсёды, прывітаньне эсэраўскіх і меншавіцкіх эмігрантаў, якіх актыўная праца на інтэрвэнцыю была нядаўна выяўлена на вядомым маскоўскім працэсе.

Новая сытуацыя прымушае ППС гаварыць глуха, сьпяваць «pianissimo». Прыпомнім, якія тоны дабывае з сабе ППС, калі сьпявае поўным горлам.

Вось некалькі тых выняткаў з рэзалюцыі, прынятай на папярэднім (Саснавецкім) кангрэсе ППС у лістападзе 1928 г.:

«У гэтай сытуацыі, калі збанкрутавала галоўная ідэя Камінтэрну і калі бальшавіцкая Расія перажывае цяжкі крызыс (харчовы, фінансавы, гаспадарчы), а таксама бязустанна вядзе ўнутраныя змаганьні, нядаўна яшчэ з «трацкізмам», а цяпер з так званай «правай небясьпекай»,—што-раз больш як бальшавіцкая дзяржава, так і яго аружжа, Камінтэрн, зьвяртаюцца да **вайны** (падкрэсьлена ў арыгінале), як да адзінай дошцы ратунку».

«Такім парадкам уся палітыка Камінтэрну абапіраецца на **ваеннай авантуры** (падкрэсьлена ў арыгінале) і імкнецца да страшэннай эўрапейскай катастрофы.

... Увесь Камінтэрн па-просту зьяўляецца аружжам дзяржаўнай расійскай палітыкі і «чырвонага імпэрыялізму»; паасобныя-ж камуністычныя партыі сьвету маюць быць па-просту

сьляпым аружжам для дыплёматыі і бальшавіцкіх войск».

«Кангрэс прызывае, каб арганізацыі партыі, высьвятляючы ганебную ролю сучаснага камунізму ў зьвязку з пастановамі апошняга кангрэсу Камінтэрну—правялі з ім узмоцненую, няшчадную барацьбу. Кангрэс зьвяртае адначасна ўвагу таварышоў, якія працуюць на ўсходніх землях Рэчы Паспалітай, каб з націскам падкрэсьлівалі **поўнае банкрунцтва савецкай нацыянальнай палітыкі».**

Камунізм—унутры, СССР—звонку, — **вось вораг.** Так гаварыла ППС ясна і адкрыта ўвосені 1928 г.

Ясная рэч, што ППС у 1931 г. ня ў меншай ступені чым у 28 г., зьяўляецца «валам супроць камуністаў» што яна і далей бачыць сваю галоўную мэту ў абароне «хоць-бы гвалтам» дзяржавы фашыстоўскай дыктатуры буржуазіі перад камунізмам, і далей стаіць на варце заваяваньняў польскага імпэрыялізму на крывава «пацыфікаваных» украінскіх і беларускіх землях.

Але як-раз з тае прычыны, што ўплывы камунізму непамерна ўзраслі ад таго часу, тон, якім гаварыў папярэдні кангрэс ППС, стаў цяпер немагчымым.

Гэта паказвае аграмадную зьмену сытуацыі, аграмадны этап пройдзены ў апошнія гады працоўнымі масамі ў паходзе да пераможнай рэвалюцыі.

## МАГІЛЬШЧЫКІ ЦІ ЛЕКАРЫ КАПІТАЛУ.

Увосень 1928 г., калі Саснавецкі кангрэс так выразна праклямаваў місію ППС, як ланцуговага сабаку буржуазіі, у Польшчы множыліся ўжо праявы надыходзячага крызысу. Але капіталізм ва ўсім сьвеце стаяў яшчэ пад знакам амэрыканск. «просьпэрыты» і нябывалай ад часу вайны кан'юнктуры. Гэта напаўняла II Інтэрнацыянал адпаведна жыцьцерадасным аптымізмам. Яго тэарэтыкі на чале з Гільфэрдынгам агалашалі наступленьне эпохі арганізацыі і плянавасьці ў капіталізьме, апанаваньня анархічнай стыхіі рынку, перамажэньня крызысаў і ўрэгуляваньня супрацоўніцтва клясаў праз «гаспадарчую дэмакратыю». Рэзалюцыя VI кангрэсу Камінтэрну, якая сьцьвярджае ўваход пасьляваеннай стабілізацыі капіталізму «у трэці пэрыяд» —пэрыяд завастрэньня ўсіх супярэчнасьцяў капіталізму на пашыранай падставе — прынята была з кпікамі. Цяжкасьці забясьпячэньня гарадоў і прамысловасьці СССР спажывецкімі таварамі і сырцом праз дробную сялянскую гаспадарку і байкот дзяржаўных загатовак з боку кулацтва, тлумачыліся, як паказчыкі блізкай сялянскай контррэвалюцыі ў СССР.

Сёньня ня трэба даводзіць поўнага банкруцтва гэтых тэорый і абапертых на іх ілюзій «урастаньня» капіталістычнай гаспадаркі ў сацыялізм і ўзрастаючага ўдзелу рабочае клясы ва ўладзе праз «урастаньне» яе ў дзяржаўны апарат буржуазіі. Чым сёньня II Інтэрнацыянал латае гэтыя бескарысныя і кампрамэнтуючыя канцэпцыі сваіх вучоных спэцыялістых? Што мае ён сказаць масам, затаптаным крызысам, шукаючым выхаду і дамагаючымся больш чым калі-небудзь яснага адказу?

ППС не стараецца ў гэтай галіне арыгінальнічаць. Яна насьледуе, як па даўнейшай ППС гэтак і па «ППСД Галіцыі і Шлёнску» пагарду да тэорэтычнай думкі і выразную разумовую нэндзу.

Новае слова, замест тэорыі, якая разьвіцьцём падзей бязьлітасна здадзена на макулятуру, павінен быў даць зьезд сацыял-дэмакратыі Нямеччыны ў Ліпску, які праходзіў амаль адначасна з кракаўскім кангрэсам. Але гэты ліпскі зьезд паказаў, што II Інтэрнацыянал стаіць не перад правалам якой-небудзь паасобнай тэорыі, але перад банкруцтвам тэорэтычнай думкі наогул. Ліпскі зьезд задэманстраваў поўную абыякасьць, індыфэрэнтнасьць да тэорэтычнай дыскусіі. Нямецкая сацыял-дэмакратыя прызнае карыснымі і дапушчальнымі **ўсялякія** тэорыі, абы яны памагалі-б, з аднаго боку, актыўна супрацоўнічаць з буржуазіяй у яе «гаспадарчых патрэбах», у яе «дзяржаўных патрэбах» і «неабходных распараджэньнях» (Нотфэрорднунгэн), а — з другога боку—утрымаць рэвалюцыянізуючыяся масы пад сваім уплывам. Нямецкая сацыял-дэмакратыя ў сучасны момант мае выключна вузкае поле манэўраваньня, бо яна змушана штодзённа даваць буржуазіі новыя доказы, што пры яе дапамозе магчыма «сухая фашызацыя» буржуазнай дзяржавы, пэўней-

шая і менш рызыкоўная, чым фашыстоўскі пераварот пры апоры на гітлероўцаў.

«Тэорэтычныя» дасягненьні Ліпскага зьезду зьмяшчаюцца ў наступнай думцы галоўнага дакладчыка, Тарнова: «Сацыял-дэмакратыя ў адносінах да капіталізму павінна зьяўляцца адначасна тым лекарам, які дапамагае лячыць крызыс, і насьледнікам, які чакае таго, каб узяць грамадзтва ў спадчыну». Гэтая думка цалкам супроцьпастаўлена марксысцкай думцы аб пралетарыяце, як **магільшчыку** капіталізму.

Зьвернемся да Кракава. ППС знаходзіцца ў сучасны момант у сытуацыі лепшай, чым сацыял-фашызм Нямеччыны ў сэнсе жангляваньня «рэвалюцыйнымі» фразамі. Сёньня ППС можа рабіць «добрую міну», галасаваць «прынцыпова» супроць бюджэту і г. д. Адпаведна з гэтым кракаўскі кангрэс абвяшчае галасьней, чым ліпскі кангрэс, «крызыс самаго капіталістычнага ладу з прызнакамі канчатковага банкруцтва», крызыс, «які можа быць адхілены толькі разам з усёй сёньняшняй гаспадаркай», «апанаваньне сродкаў вытворства», як «беспасрэдная задача» рабочай клясы і г. д. Нарэшце аб упадку капіталізму сёньня гаворыць Дмоўскі, біскуп Кубіна і зьезд санацыйных прафсаюзаў (ЗЗЗ) Марачэўскага. Ня можна-ж заставацца ў хвасьце.

Аднак, тут-жа мы даведваемся, што мы ўвайшлі сапраўды «у пэрыяд інтэнсыўнай ліквідацыі капіталізму, але да пэрыяду ліквідацыі яшчэ далёка» (Барліцкі). Пэўная рэч, «пэрыяд ліквідацыі фэадальнага сьвету працягваўся 100 год». Недзялкоўскі высьвятляе, што крызыс капіталізму гэта «гістарычны пэрыяд», які «будзе мець хвалі грамадзка-рэвалюцыйныя і хвалі грамадзка-рэакцыйныя». Паколькі сёньня ў Польшчы мы маем «рух дыктатарскай хвалі», а калі гэтая хваля зьнікне, становіцца пагроза вядомага «стану дзікасьці», дык каб пазьбегчы гэтага трэба ўзяцца за «пробы аздараўленьня гаспадарчага жыцьця», але абвяшчаць, што гэта не зьяўляецца «латаньнем сучаснага ладу», і «адыходжаньнем ад сацыялізму», а «зусім наадварот —падрыхтоўкай яго гаспадаркі» (Жулаўскі).

Гэты вывад такі-жа, што і ў Ліпску: «мы будзем ратаваць капіталізм, але «паставім масам перад вачыма»... сацыялізм.

**ПАЗЫЦЫЯ Ў ЧАСЕ РАШУЧЫХ БАЁЎ.**

Фармальна галоўным прадметам дыскусіі на кракаўскім кангрэсе было пытаньне ці праводзіць далей ці пакінуць так званую палітыку Цэнтралеву. Апазыцыя даводзіла, што сялянскія партыі Цэнтралеву зьяўляюцца варожымі рабочым інтарэсам. Кіраўнікі ЦКВ указвалі, што сама рабочая кляса не «зьліквідуе» дыктатуры. Але ніхто ня высунуў яснага пытаньня,—**якім шляхам**—пасьля дасьледаў апошніх выбараў — Цэнтралеў «зьліквідуе» дыктатуру.

Згадзіліся без дыскусіі, што «парлямэнтарнай акцыяй» ня можна гэтай ліквідацыі правесьці. Палітычная рэзалюцыя мае пункт, што «ЗППС будзе трактаваць парлямэнцкую трыбуну, як трыбуну прапаганды сацыялістычных пазыцый». Гэтым самым згадзіліся, што **выбарчыя карткі,** як сродак гэтай ліквідацыі, ня можна сёньня ўжо падаваць масам. Апазыцыя без супраціву з боку большасьці набалбатала аб «рэвалюцыйнай барацьбе».

Такім чынам ППС адмаўляецца тым часам злоўжываць падарванай «верай мас у выбарчую картку», аб якой так дрыжэў Недзялкоўскі, калі пасьля берасьцейскіх арыштаў з пафасам засьцерагаў «палкоўнікаў»: «Ня зьнішчайце гэтай веры»! ППС мае надзею ажывіць гэтую веру ў момант «катастрофы» і яшчэ раз апутаць ёю стыхію рэвалюцыі.

Ламаючы разам з паліцыяй барацьбу рабочых, удзельнічаючы ў імпэрыялістычнай палітыцы буржуазіі, вядучы фактычна саюз ня толькі з Вітасам, але і з эндэцыяй, ППС усё больш высоўвае свае паслугі на «потым» — на момант, калі ў інтарэсах буржуазіі, у інтарэсах ратаваньня капіталізму будзе патрэбным замяніць санацыю новым урадам, які ў той ці іншы спосаб будзе працягваць фашыстоўскую дыктатуру буржуазіяй. Па гэтай лініі ідзе аргумэнтацыя Недзялкоўскага аб падтрыманьні палітыкі Цэнтралеву. Ён кажа, што ідзе пытаньне аб згуртаваньні **«усіх сіл** здольных да таго, каб **замяніць дыктатуру** ў кіраваньні дзяржавай».

Перад ППС у сучасны момант стаіць праблема, па сваей сутнасьці такая-ж як яе фармуляваў нямецкі «левы» Граф: што будзе, калі **масы рушаць? ХТО** ўтрымае ў гэты час над імі кіраўніцтва?

ППС такім чынам мае сьвядомасьць свайго хісткага аўтарытэту ў масах. Дзеля гэтага яна яшчэ больш гарліва, чым у 1926 г., будзе імкнуцца «унікнуць катастрофы». У той час яна з гэтай мэтай увайшла ў коаліцыйны ўрад з Эндэцыяй і Пястам. Цяпер шлях супрацоўніцтва ва ўрадзе пакуль замкнуты. Тым больш ППС будзе з усіх сіл, ня гледзячы на свае крыўды да «пасьлямайскай сыстэмы», **бараніць** цяперашнюю фашыстоўскую дыктатуру, будзе **ламаць** барацьбу мас, ці то старымі мэтадамі здрадніцкага кіраўніцтва, ці то ў ролі штрайкбрэхераў, абароненых праз паліцыю, як у забастоўцы варшаўскіх трамвайшчыкаў. Але адначасна ППС пры дапамозе асабліва сваіх «левых», будзе жанглёваць «рэвалюцыйнымі» фразамі. У момант, калі «катастрофа» будзе немінучай, ППС паспрабуе ў саюзе з кулацкімі партыямі праводзіць манэўры падобныя да «народнага ўраду» 1918 г. ці шэйдэманаўскай «рады народных камісараў» у Нямеччыне.

Вось лінія кракаўскага кангрэсу.

«Радыкальныя» лёзунгі, уведзеныя ў рэзалюцыі гэтага кангрэсу—«экспрапрыяцыя буйных маёнткаў», «дзяржаўны манаполь загранічнага гандлю», «беспасрэдная задача аўладаньня сродкамі прадукцыі»—зьяўляюцца толькі дэкарацыямі, ў якія ППС убіраецца загадзя на выпадак катастрофы фашыстоўскай дыктатуры. А «патрабаваньні» прадназначаныя паводле рэзалюцыі, да «безадкладнага правядзеньня», як «прымусовая арганізацыя паасобных галін прамысловасьці з удзелам... прадстаўнікоў рабочых»,—гэта проста фашыстоўская праграма, пракладваньне шляху да фашыстоўскіх «карпарацый». Гэтыя «патрабаваньні» нічым ня розьняцца ад падобных, высунутых праз афіцыйныя прафсаюзы санацыі («кангрэс» 333). Гэта ёсьць праграма імпэрыялістычнай разбудовы дзяржаўнага капіталізму.

Нарэшце «скарачэньне часу працы да 40 гадзін у тыдзень», з адпаведным **зьніжэньнем платы,** гэта ўжо распаўсюджаны ад доўгага часу сацыял-фашыстоўскі манэўр, які супроцьпастаўлены барацьбе прафсаюзнай лявіцы за 7-мі гадзінны рабочы дзень і зводзіцца да таго, каб **працоўныя ўзялі на сабе ўтрыманьне беспрацоўных** без ахвяраў для капіталу і дзяржавы.

На мінулым кангрэсе ППС раскол, зроблены Явароўскім, быў цэнтральным пытаньнем і здаваўся страсаючым крызысам і пачаткам ліквідацыі ППС (у нашай партыі зьявіліся тады таксама гэтага роду памылковыя погляды). На сучасным кангрэсе банкруцтва явароўшчыны ня было нават адзначана, як посьпех партыі. Нават апошнія выбары і Бярэсьце зусім **ня** былі цэнтральным пунктам кангрэсу. Правадыры ППС, як відаць, усьведамляюць сабе, што ў недалёкім будучым можа наступіць «дыспозыцыя» зусім іншая, чым тая, якая не так даўно замыкалася ў формуле «Бартэль ці не Бартэль», чым хатнія сваркі з Явароўскім, Марачэўскім і самым Пілсудзкім, чым апошняя выбарчая барацьба, чым Бярэсьце. Сацыял-фашызм перажывае крызыс, ён змушаны шукаць новых пазыцый і новых лёзунгаў дзеля атуманьваньня мас. Але значэньне яго ў сыстэме фашыстоўскай дыктатуры не зьмяншаецца, але **ўзрастае.** ППС ліхаманкава рыхтуецца да ролі **апошняй рэзэрвы буржуазіі** у момант рэвалюцыйнага крызысу.

Проба «адраджэньня» ППС праз так званую апазыцыю мае на мэце лепш прыстасаваць ППС да гэтай ролі. Масы якія ўжо адварочваюцца ад Недзялкоўскіх і Барліцкіх, яшчэ трымаюцца на поваdзе рэвалюцыйных фраз Зарэмбаў і Шчаркоўскіх. Дзеля гэтага, праводзячы далей з усёй энэргіяй барацьбу за вырываньне з-пад уплыву сацыял-фашызму рабочых і сялян, якія яшчэ знаходзяцца пад яго ўплывамі і кіраўніцтвам, за заваяваньне іх для адзінага фронту рэвалюцыйнай барацьбы, мы павінны класьці асаблівы націск на дэмаскаваньне аблуднай фразеолёгіі «левых», як ворага, які ў даных варунках найдалей пранікае ў працоўныя масы і найхітрэй дэзарыентуе іх.

**І. Сьпіс.**

# Патрэбны паварот.

**(Да пастаноў V пленуму ЦК КПЗБ і III пленуму ЦК КПП у нацыянальным пытаньні).**

Пастанова V пленуму ЦК КПЗБ аб «задачах партыі ў галіне вызваленчай барацьбы прыгнечаных народаў» і пастанова III пленуму ЦК КПП у тэй самай справе паказваюць на неабходнасьць правядзеньня павароту ў нашай працы ў галіне нацыянальна-вызваленчага руху.

Рэзалюцыя V пленуму ЦК КПЗБ, ацэньваючы сучасны стан нашай дзейнасьці ў гэтай галіне, паказвае перадусім на перавагу прапаганды над акцыяй мабілізацыі мас супроць канкрэтных праяўленьняў нацыянальнага ўціску ва ўвязцы з барацьбой мас за іх беспасрэдныя эканамічныя інтарэсы і найбольш пякучыя патрэбы. Пленум сьцьвярджае, што гэтыя апошнія задачы, выстаўленыя яшчэ IV пленумам і студзеньскімі пастановамі ЦК КПЗБ, да гэтага часу «не ўвайшлі ў штодзённую партыйную практыку». Гэта азначае, што партыйныя арганізацыі, якія выказваюць аграмадныя посьпехі ў здольнасьці мабілізаваць масы на падставе іх беспасрэдных эканамічных інтарэсаў і наогул **клясавых** інтарэсаў, ня ўмеюць у дастатковай ступені ахапіць абурэньні мас **уцісканага народу,** каб іх скіраваць у рэчышча рэвалюцыйнай барацьбы пралетарыяту. Партыя ня выступае стала і пасьлядоўна **ў практыцы,** у сваёй штодзённай дзейнасьці, як правадыр і арганізатар барацьбы супроць канкрэтных праяўленьняў нацыянальнага ўціску — прасьледваньняў беларускай мовы і іншых моў, «не дзяржаўных», н а в я з в а н ь н я польскай школы і зачыненьня школ у роднай мове насельніцтва, выключна польскай мовы ў школе, судзе і ва ўстановах, змушэньня дзяцей сьпяваць «Ешчэ Польска», «роту», ці «першую брыгаду», змушэньня дзяцей і моладзі паняволеных народаў сьвяткаваць і аддаваць почэсьці польскаму імпэрыялізму, прымусовага зьбіраньня розных складак на ЛОППы, морскую лігу, «стралец» і т. п.

Супроць палітыкі акупантаў, палітыкі прыгнечаньня і душэньня, асіміляцыі і палёнізацыі, супроць самой дзяржавы як чужой і варожай на Заходняй Беларусі ўзбураюцца найшырэйшыя народныя масы, значна шырэйшыя чым атрады рэвалюцыйных рабочых і сялян. Задачай партыі зьяўляецца ўхапіцца **таксама і за гэтае зьвяно,** каб пашырыць пад сваім кіраўніцтвам фронт барацьбы супроць фашыстоўскай дыктатуры.

Прайшоў год, як IV пленум указаў на гэтыя выразныя недахопы партыйнай практыкі ў галіне штодзённай барацьбы супроць штодзённых праяўленьняў нацыянальнага ўціску. Тое самае ўказаў V Зьезд КПП. Студзеньскія пастановы ЦК КПЗБ ужо больш як поўгода таксама зноў паставілі перад партыяй з усім націскам неабходнасьць энэргічнага правядзеньня гэтых задач. V пленум ЦК ня мог застанавіцца на адным сьцьвярджэньні, што справа гэтая ня рушылася наперад, і на паўтарэньні яшчэ раз тых самых указаньняў. V пленум прымушаны сьцьвердзіць, што ўпорлівае нерэагаваньне партыйных арганізацый на гэтыя ўказаньні азначаюць **разыходжаньне партыйнай практыкі з бальшавіцкімі прынцыпамі ў нацыянальным пытаньні.**

«Партыя, як цэлае — кажа рэзалюцыя пленуму,—не ўсьвядоміла да гэтага часу той устаноўкі, што масавая нацыянальна-вызваленчая барацьба разыгрываецца ня толькі вакол ТБШ і іншых гэтага роду пляцовак, але барацьба мас асабліва сялянскіх мас за хлеб, працу і зямлю, супроць капіталістычна-абшарніцкай экс-

плёатацыі і супроць палітычнага ўціску ва ўсіх яго постацях зьяўляецца аднача́сна барацьбой супроць акупацыі. Занядбаньне ў барацьбе мас гэтага боку нацыянальна-вызваленчай барацьбы, неразгортваньне ўсіх форм барацьбы мас у барацьбу супроць уціску і нацыянальнага прыгнечаньня, за штодзённыя, у тым ліку культурна-нацыянальныя патрабаваньні, зьяўляецца ў практыцы не бальшавіцкай, нігілістычнай пазыцыяй у нацыянальным пытаньні».

Тав. Куусінен, які ў апошні час паставіў перад усімі сэкцыямі Камінтэрну шэраг задач у галіне нацыянальнага пытаньня, зьвярнуў увагу на тое, што менавіта ў гэтай галіне «найчасьцей выяўляюцца ўхілы, якія выступаюць не адкрыта і яўна, але,—як кажа т. Сталін— ухілы **поўзаючыя,** якія закрадваюцца ў багаж нават і вельмі добрых рэвалюцыянэраў, якія самі доўга ня бачаць іх прысутнасьці» *). V пленум засьцерагае партыю перад « поўзаючым» **нігілістычным** ухілам у нашай партыйнай практыцы.

Пленум канстатуе бязьдзейнасьць большасьці партыйных арганізацый, большасьці раёных і акруговых камітэтаў у галіне нацыянальна-вызваленчага руху і ў нацыянальным пытаньні наогул. У практыцы дзейнасьць партыі ў нацыянальна-вызваленым руху зводзіцца амаль выключна да барацьбы за легальныя арганізацыйныя пляцоўкі, пры чым уцягнутым зьяўляецца тут толькі нязначны актыў, які працуе спэцыяльна ў гэтай галіне, і пэўная колькасьць вясковых ячэяк. Пленум адзначыў шэраг сур'ёзных здабычаў у барацьбе за гэтыя легальныя пляцоўкі, але і на тым адрэзку зроблены вельмі цяжкія памылкі, якія стаяць у цеснай сувязі з тым «поўзаючым» нігілістычным ухілам у нашай практыцы. Шмат фактаў паказвае на тое, што таксама ў саміх арганізацыях нацыянальна-вызваленчага руху мы неаднокраць **занядбываем нацыянальны момант.** Гэта скрыўляе характар арганізацый нацыянальна-вызваленчага руху і разыходзіцца з нашымі спэцыяльнымі задачамі ў гэтай галіне. Пралетарскі элемэнт павінен тут быць абавязкова і павінен сыстэматычна павялічвацца. У сваёй дзейнасьці гэтыя арганізацыі павінны даваць выраз клясавай салідарнасьці інтарэсаў пралетарыяту з інтарэсамі вызваленчай барацьбы паняволеных народаў. Але згодна характару нац.-вызваленчага руху, яго масавыя арганізацыі павінны ахапіць досыць рознастойныя пад клясавым поглядам элемэнты: апрача рабочых і бліжэйшых пралетарыяту мас беднага сялянства, таксама найшырэйшыя масы серадняцтва, працоўнай інтэлігэнцыі і іншых пластоў гарадзкой дробнай буржуазіі.

*) гл. «Камуністычны Інтэрнацыянал» № 6 (277)—20-III-31, стр. 17 і наступныя.

Таварышы, якія працуюць у арганізацыях нацыянальна-вызваленчага руху, бязумоўна ведаюць у сваёй практыцы шмат прыкладаў, пацьвярджаючых правідловасьць крытыкі, якую зрабіў V пленум. Яны ўбачаць, ідучы за ўказаньнямі пленуму, і будуць прымушаны прызнаць, што ў дзейнасьці партыі нацыянальнае пытаньне знаходзіць вельмі мала месца, што канкрэтныя акцыі, лёзунгі і патрабаваньні, якія-б сьведчылі аб **штодзённай барацьбе супроць палітыкі акупантаў, зьяўляюцца наогул рэдкасьцю.** А ў мове, лёзунгах, у спосабе падыходу да ўзьнятых спраў, часта прабіваецца тэндэнцыя трактаваньня **ўсялякага** нацыянальнага моманту, як супярэчнага з рэвалюцыйнымі прынцыпамі.

Вельмі характэрным зьяўляецца наступны факт: у адным з абежнікаў галоўнай управы ТБШ аказаўся заклік да барацьбы супроць канкрэтнага факту палёнізатарскай палітыкі акупантаў—супроць **прымусовага** выжываньня «гражданкі» і навязваньня ў існуючых яшчэ беларускіх школах і падручніках «лацінкі». Заклік да таго, каб даць адпор гэтаму гвалту быў правідловы і патрэбны. Гражданка ці лацінка — не зьяўляецца для нас прынцыповым пытаньнем. Мы самі ўжываем лацінку, каб пранікнуць да тэй часткі беларускіх мас, якая ўжывае гэты альфабэт. Але калі лацінка навязваецца гвалтам, як этап да палёнізацыі, трэба арганізаваць адпор гэтаму гвалту. Ініцыятыва гэтага роду з боку кіраўніцтва ТБШ павінна была знайсьці поўнае падтрыманьне партыі. Аднак сталася інакш: ініцыятыва гэтая была ацэнена адказнымі таварышамі, як .. «нацы-

яналістычныя контррэвалюцыйныя брэдні».

Вынікам такіх мэтадаў павінен быў стаць адыход ад нас часткі актыву нацыянальна-вызваленч. руху, якая ня прымае поўнасьцю і цалкам усе нашы лёзунгі і праграмныя палажэньні. Ленінізм ня ведае тэорыі, адарванай ад практыкі, і практыкі, адмяжаванай кітайскім мурам ад тэорыі. Партыйная практыка часта давала **памылковы** адказ на найважнейшыя тэорэтычныя пытаньні—якім зьяўляецца **сацыяльны характар** нацыянальна-вызваленчага руху—і на найважнейшую тактычную праблему: якія сацыяльныя элемэнты мы хочам у галіне нацыянальна-вызваленчага руху **здабыць** і якія мы хочам з гэтага руху **выкінуць.** Дзе хочам мы правесьці дэмаркацыйную лінію, якая адмяжоўвае ў галіне нацыянальна-вызваленчага руху **прыхільнікаў ад ворагаў?** Партыйная практыка наогул давала на гэтае пытаньне адказ, з якога вынікала, што гэтая лінія павінна адкінуць усё тое, што не зьяўляецца нам клясава настолькі блізкім, каб прыняць цалкам пазыцыі рэвалюцыйнага пралетарыяту. Гэта азначала-б, што разам з **буржуазнымі** элемэнтамі, разам з агентамі буржуазіі, якія ўносяць у нацыянальна-вызваленчыя арганізацыі не пераможаную намі варожую нацыяналістычную фразэолёгію, якая ў даных канкрэтных варунках зьяўляецца прыкрыцьцём для нацыянал-фашыстоўскай тактыкі супрацоўніцтва з польскім імпэрыялізмам—разам з тымі элемэнтамі мы адсякаем значныя масы сялянства, працоўнай інтэлігенцыі і гарадзкой дробнай буржуазіі, якія яшчэ не гатовы прыняць усе нашы лёзунгі і ўсе нашы ўстаноўкі.

Такі адказ на тактычныя пытаньні, якія стаяць перад намі ў нацыянальна-вызваленчым руху, раўняўся бы ня больш ня менш як незразуменьню і занядбаньню **важнейшай задачы,** якую мы павінны вырашаць. Гэтай важнейшай задачай ў нацыянальна-вызваленчым руху зьяўляецца барацьба за найшырэйшыя народныя масы, за дробна-буржуазныя элемэнты, за **сярэднія** пласты, якія хістаюцца паміж намі і буржуазіяй. Гэтыя элемэнты трэба сыстэматычна і няўстанна вырываць з-пад уплыву нацыянал-фашызму, бо яны хістаюцца і вагаюцца «сыстэматычна і няўстанна» з натуры сваей. Гэтыя элементы мы можам і павінны прыцягнуць і ўтрымаць за намі на пляцформе баявога саюзу супроць польскага імпэрыялізму, супроць акупацыі.

Дэмаркацыйная лінія, якая дзеліць прыхільнікаў ад ворагаў павінна адсячы ад народных масаў уцісканых нацыянальнасьцяў **толькі** буржуазна-кулацкую верхавіну, зьяўляючуюся саюзьнікам польскага імпэрыялізму ў імя сваіх клясавых інтарэсаў. Усё астатняе—аграмадную большасьць уцісканых народаў—мы можам павесьці да барацьбы супроць імпэрыялізму польскай буржуазіі, калі будзем ужываць бальшавіцкую, а не вузка сэктанцкую тактыку. Саюзьніку, якога мы шукаем ў нацыянальна-вызваленчым руху, мы ня ставім ніякіх іншых умоў, апрача аднаго: сапраўдная барацьба супроць польскага імпэрыялізму, рука ў руку з рэвалюцыйным пралетарыятам Заходняй Беларусі і ўсей Польшчы. Гегемонія пралетарыяту не заключаецца ва ўтожсаменьні нацыянальна-вызваленчага руху з пралетарскім рухам, а тым менш пралетарскага руху з нацыянальна-вызваленчым рухам. Пралетарскі рух павінен сьвядома і пільна сьцерагчы сваю клясавую і арганізацыйную адасобленасьць (камуністычныя фракцыі) унутры нацыянальна-вызваленчага руху. Баронячы ў кожнай канкрэтнай справе нашу пазыцыю, супроцьстаўляючы яе з усей вострасьцю іншым устаноўкам, перамагаючы рашуча ўсякія ўхілы нашага саюзьніка на шлях апартунізму ў адносінах да акупацыйных улад і нацыянал-фашызму, партыя павінна ў дачыненьні да пасобных апартуністычных памылак беспартыйнага актыву ў нацыянальна-вызваленчым руху стасаваць тактыку рашучай, але таварыскай крытыкі.

Небясьпека «поўзаючага» ўхілу ў нацыянальна-вызваленчым руху, як бачым, зьяўляецца вельмі вялікай. Зразумела чаму рэзалюцыя V пленуму канстатуе, што «у сучаснай практыцы партыйных арганізацый ў недастатковай ступені была выражана ўстаноўка партыі ў адносінах вызваленчай барацьбы паняволеных народаў і роля пралетарыяту ў нацыянальна-вызваленчым руху». Зразумела дзеля чаго V пленум ЦК КПЗБ і III пле-

нум ЦК КПП ня лічылі магчымым абмяжавацца гэтым разам ацэнкай і канкрэтнымі ўказаньнямі, але выясьняюць у сваіх рэзалюцыях самы характар нацыянальна-вызваленчага руху і ролю пралетарыяту ў гэтым руху.

Становіцца зразумелым такасама і тое, дзеля чаго і ў якой сувязі паўстала перад нашымі партыйнымі інстанцыямі цяпер пытаньне асноўнага лёзунгу нацыянальна-вызваленчага руху, дзеля чаго прызнана памылковым у сучаснай сытуацыі мэханічнае спалучэньне пытаньня аб'яднаньня Заходняй Украіны і Заходняй Беларусі з УССР і БССР з нашым асноўным лёзунгам—барацьбы за **права паняволеных нацый на самавызначэньне аж да аддзяленьня.**

Аб'яднаньне разарваных польскім імпэрыялізмам беларускіх і ўкраінскіх зямель у **савецкія рэспублікі** праз злучэньне ЗУ і ЗБ з УССР і БССР зьяўляецца і надалей нашым праграмным патрабаваньнем, зьяўляецца адзіным правільным **пралетарскім** прыстасаваньнем прынцыпу самавызначэньня аж да аддзяленьня ў адносінах да ЗУ і ЗБ. Мы далей будзем весьці прапаганду за такое вырашэньне, як адзіна поўнае вырашэньне нацыянальнага пытаньня, адзіна сапраўднае нацыянальнае вызваленьне. Мы будзем змагацца менавіта за такое, а не іншае самавызначэньне. Але прапагандыстычнае адарваньне і сэктанцкія тэндэнцыі нашай практыкі ў нацыянальна-вызваленчым руху паміж іншым выразіліся ў тым, што аб'яднаньне з БССР пачало вырастаць у **галоўны** наш лёзунг, пачало выпіхаць у цень лёзунг самавызначэньня аж да аддзяленьня, які зьяўляецца асноўным ленінскім лёзунгам пралетарскай рэвалюцыі ў нацыянальным пытаньні. Замена асноўнага лёзунгу самавызначэньня ўказаньнямі, якія датычаць канкрэтнага пралетарскага правядзеньня гэтага самавызначэньня пасьля пралетарскай рэвалюцыі, альбо поўнае ўтожсаменьне аднаго з другім спрыяюць тэндэнцыям сэктанцкага «упрашчэнства» нашых задач і мэтадам «адсяканьня» ад нацыянальна-вызваленчага руху ўсіх тых элемэнтаў, якія не пазбавіліся прадузятых поглядаў да камуністычнага вырашэньня справы, пакуль элемэнты гэтыя гатовы рашуча змагацца за зваленьне ярма польскага імпэрыялізму. Адзінай праверкай **на сёньня** павінна быць: хто супроць польскага імпэрыялізму, хто за барацьбу за самавызначэньне аж да аддзяленьня. Дзеля гэтага нашым лёзунгам для беспасрэднай мабілізацыі мас павінен сёньня быць лёзунг самавызначэньня аж да аддзяленьня, які азначае: а) рашучую барацьбу з польскім імпэрыялізмам супроць акупацыі, за нацыянальнае вызваленьне, б) свабоднае і непрымусовае выражэньне самым прыгнечаным народам сваёй волі аб сваім дзяржаўным існаваньні, в) правядзеньне гэтага лёзунгу ў жыцьцё ў сёньняшняй сытуацыі магчыма толькі шляхам супольнай барацьбы прыгнечаных народаў з пралетарыятам і працоўным сялянствам усей Польшчы пад гегемоніяй пралетарыяту, пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі, за зваленьне буржуазіі (рэзалюцыя III пленуму ЦК КПП).

Пры правядзеньні ў жыцьцё павароту ў нашай працы ў нацыянальна-вызваленчым руху паводле ўказаньняў абодвух пленумаў, трэба засьцерагчыся небясьпекі прыблізна такога роду механічнага зразуменьня гэтага павароту: небясьпека пагражае цяпер з «левага» боку, галоўны фронт супроць «левацкага» сэктанцтва і г. д. Такая пастаноўка справы няўхільна прывяла-б да зьмяншэньня чуйнасьці ў адносінах правай небясьпекі, якая застаецца **галоўнай** небясьпекай, асабліва пагражаючай пры мэханічным правядзеньні павароту. Сэктанцкія мэтады працы заключаюцца ў такой страхоўцы ад нацыянал-апартунізму, якая раўняецца адмежаваньню ад мас, якія трэба заваяваць, ад задач, якія перад намі стаяць. Мэтады, да якіх мы павінны цяпер зьвярнуцца, абавязваюць нас увайсьці **у гушчу хістаючыхся дробна-буржуазных элемэнтаў,** змагацца за іх, заключаць з імі неабходныя **кампрамісы,** калі гэта патрэбна для пашырэньня фронту барацьбы супроць галоўнага ворага—польскай буржуазіі, але пры гэтым захоўваючы няўхільна нашу прынцыповую пазыцыю, якую мы абвяшчаем і абараняем перад ворагамі і прыхільнікамі. Гэтая тактыка зьяўляецца больш труднай, чым тактыка сэктанцкага прапагандызму. Небясьпека нацыянал-апартуністычных ухілаў у некалькі раз узра-

стае. Барацьба супроць іх павінна быць асабліва рашучай.

Урэшце нятрудна паказаць, што «поўзаючы» сэктанцкі нігілістычны ўхіл мае пэўную сувязь з недавядзеньнем да канца нашай барацьбы з нацыянал-апартунізмам у папярэднім пэрыядзе.

Наша партыя стаяла на чале магутнага руху Грамады і руху Змаганьня, праводзіла шырокія нацыянальна-вызваленчыя акцыі, як вялікая школьная кампанія, барацьба супроць фашызацыі беларускіх гімназыяў, кампанія ў часе выбараў і інш. Чаму цяпер, у параўнаньні з тымі часамі, наступіла, як відаць, звужэньне актыўнасьці партыі ў нацыянальна-вызваленчым руху? Гэта наступіла на падставе вялікіх зьмен і перасовак палітычных сіл. Завастрылася клясавая барацьба ўнутры паняволеных народаў. Беларуская буржуазія палітычна выкрысталізавалася, выявіла сваё нацдэмаўскае аблічча ў БССР, нацфашыстоўскае аблічча ў ЗБ. У масе дробнай буржуазіі, а асабліва працоўнай інтэлігэнцыі натуральна ўзьніклі сільныя хістаньні. Партыя адчула націск варожай ідэолёгіі ва ўласных шэрагах у постаці нацыянал-апартуністычных ухілаў. Адгэтуль вынікала неабходнасьць рашучага выкарчоўваньня нацыянал-апартунізму. Гэта наогул было праведзена добра. Урэшце гэта было часткай агульнай расправы з правіцай у КПП. Але ў барацьбе з нацыянал-апартунізмам недастаткова яшчэ высьветлена **розьніца паміж камуністычным рухам, як клясавым пралетарскім рухам,** і рухам нацыянальна-вызваленчым, як шырокім народным рухам, розьніца, якая існуе таксама тады, калі нацыянальна-вызваленчы рух (як гэта ў канкрэтных варунках Заходняй Беларусі) праводзіць вострую барацьбу з уласнай буржуазіяй. У сувязі з недастатковым высьвятленьнем гэтага пытаньня мы не перамаглі досыць энэргічна і пасьлядоўна пагражаючага **апартунізму ў арганізацыйнай галіне**, які заключаецца ў занядбаньні арганізацыйнага ахопу ў **камуністычныя фракцыі** сяброў партыі ў нацыянальна-вызваленчым руху, ці ў слабым функцыянаваньні фракцый, існуючых фармальна. Адгэтуль калі перад партыяй стала неабходнасьць забесьпячэньня сваіх шэрагаў ад хісткіх элемэнтаў, носьбітаў нацыянал-апартунізму, мы пачалі—у выніку недахопу выразнага арганізацыйнага адасабленьня і няяснасьці характару нацыянальна-вызваленчага руху—стасаваць мэханічна да яго **тую самую мерку,** што і да ўласнага камуністычнага лягэру, тую самую амаль, што і да партыі. Упусканьне з віду гэтай розьніцы пацягнула за сабой няўхільна ўсе тыя рэзультаты, аб якіх вышэй шла гутарка. Сілай рэчаў адгэтуль вынікала такое вельмі ўпрошчанае разуменьне кіраўніцтва арганізацыямі нацыянальна-вызваленчага руху, што ўсё што ня ёсьць «наша» на сто процантаў, мы схільны трактаваць, як варожае. Ніякай бальшавіцкай палітыкі ня можна праводзіць такой сэктанцкай меркай, а тым больш бальшавіцкую палітыку ў нацыянальным пытаньні.

Дзеля гэтага першай арганізацыйнай умовай павароту (гэта трэба паўтараць аж да таго пакуль будуць добрыя вынікі і націскаць у гэтым кірунку з усёй рашучасьцю) павінен быць **ахоп усіх сяброў партыі ў арганізацыях нацыянальна-вызваленчага руху створанымі зьнізу да верху камуністычнымі фракцыямі.** Бяз гэтага паварот ня будзе паваротам, але зваротам у балота апартунізму. Нашыя задачы могуць быць выкананы толькі ў той час, калі, ў апоры на **моцна з'арганізаваны ў фракцыі партыйны актыў,** мы забясьпечым сабе супрацоўніцтва шырокага беспартыйнага і некамуністычнага актыву, калі пакінем гэтаму актыву шырокае поле дзейнасьці і сапраўды, а не фіктыўна ажыцьцявім супрацоўніцтва у кіраўніцтве, будзем праводзіць на яго праз нашыя фракцыі рашучы палітычны ўплыў, увяжам яго што-раз мацней з справай пралетарскай рэвалюцыі, пашырым праз яго нашыя ўплывы **глыбей у масах** гарадской і вясковай дробнай буржуазіі, зьдзейсьнім пры яго дапамозе саюз пралетарыяту з усімі элементамі, гатовымі актыўна змагацца супроць польскага імпэрыялізму. Толькі такая тактыка дазволіць нам разгарнуць зноў—як калісь—вялікія нацыянальна-рэвалюцыйныя акцыі, ізаляваць нацыянал-фашызм, здэмаскаваць яго не на словах, а на досьледах у вачох найшырэйшых мас.

Апошняе перагрупаваньне ў нацыянал-фашыстоўскім лягэры (раскол паміж

Акінчыцам, Астроўскім і т. п.) сьведчыць што ён шукае новых пазыцый, пры чым некаторыя яго групы, прыстасоўваючыся да настрояў мас, бязсумненьня хватаюцца за вастрэйшую апазыцыйную фразэолёгію. Гэта павялічвае пагражаючую з гэтага боку небясьпеку. Таму плэнум правільна ўказвае на недастатковасьць сучасных нашых мэтадаў барацьбы з нацыянал-фашызмам, якія зачастую заключаюцца ў «агульным ганьбеньні яго без разгорнутай крытыкі яго штодзённай дзейнасьці з пункту погляду беспасрэдных эканамічных і нацыянальных інтарэсаў шырокіх мас».

Другая ня менш важная ўмова павароту—гэта ўцяміць усю партыю, што нацыянальна-вызваленчы рух ні ў якім разе ня зводзіцца толькі да дзейнасьці яго легальных ці поўлегальных пляцовак, але зьяўляецца складовай часткай барацьбы мас за іх беспасрэдныя штодзённыя інтарэсы. Значыць ня толькі нашыя фракцыі ў масавых арганізацыях, але **ўся партыя,** кожная партыйная арганізацыя, кожная партыйная гарадзкая і вясковая ячэйка павінна прыняць удзел і стаць у сваёй мясьцовасьці на чале гэтай барацьбы.

«Ва ўсіх эканамічных акцыях пралетарыяту, сялянства і вясковай беднаты—кажа рэзалюцыя V пленуму—трэба ахапіць кожную справу і выказваць масам ня толькі з клясавага боку, але таксама і з боку **нацыянальнага ўціску і акупанцкай палітыкі.** І наадварот: барацьбу супроць канкрэтных праяў нацыянальнага ўціску трэба увязваць з эканамічнымі балячкамі і патрэбамі мас».

Важны момант павароту заключаецца ў тым, каб актывізаваць **пралетарыят у** нацыянальна-вызваленчым руху, каб ён актыўна рэагаваў на канкрэтныя факты нацыянальнага ўціску ў адносінах да **ўсіх** прыгнечаных і ўцісканых народаў. Асаблівы націск павінен быць зроблены на актыўнасьць **польскіх** рабочых і шырокіх польскіх працоўных мас на Заходняй Беларусі ў напрамку іх салідарных выступленьняў з працоўнымі масамі прыгнечаных народаў.

Паварот, які мы павінны зьдзейсьніць, найцясьнейшым чынам зьвязан з **унутранай сітуацыяй ва ўсёй Польшчы,** з насьпяваньнем рэвалюцыйнага крызысу і міжнароднай сітуацыяй — з узрастаючай небясьпекай ваеннай інтэрвенцыі супроць СССР. Мабілізацыя **ўсіх сіл** да барацьбы з імпэрыялістычнай і фашыстоўскай польскай буржуазіяй зьяўляецца **жалезным наказам моманту.** Ужываць у такіх акалічнасьцях мэтады сэктанцкай прапаганды замест сьмелай бальшавіцкай тактыкі — гэта значыць занядбаць тыя аграмадныя магчымасьці, якія заключаюцца ў аб'ектыўнай сітуацыі і якія нямінуча прынесьлі-б нам паражэньні замест рашаючых перамог. Справа **тэмпаў** ў правядзеньні павароту таксама мае рашаючае значэньне. Тэрміны у нас кароткія.

Наша партыя прайшла ў апошнія гады разам з усей КПП жалезную бальшавіцкую школу, а бальшавізацыя заключаецца паміж іншым ва ўменьні выпраўленьня памылак, ў выпраўленьні лініі, увядзеньні зьмен у тактыку партыі адпаведна да зьменаў у сітуацыі—правядзеньні ўсіх гэтых неабходных паваротаў хутка, без замешкаў, у часе барацьбы. Гэтую здольнасьць партыя павінна выказаць і ў данным выпадку. Партыйны актыў павінен неадкладна ўсьвядоміць дырэктывы, якія вынікаюць з пастаноў абодвух пленумаў і правесьці іх у жыцьцё без хістаньняў і памылак.

Ліпень 1931 г.

---

**Партыя павінна максымальна ўзмацніць сваю актыўнасьць па заваяваньню рашаючае большасьці рабочае клясы і падняцьцю яе баявой актыўнасьці, як перадавой рэвалюцыйнай клясы, па ўзмацненьню барацьбы за саюзьнікаў пралетарскай рэвалюцыі, канцэнтрацыі ўсіх сіл на адпор фашыстоўскаму тэрару, узмацненьню сувязі з масамі і пашырэньню сваіх трансмісій да масаў, стварэньню баявых рэвалюцыйных кадраў і павышэньню палітычнай ініцыятывы партыйных арганізацый.**

(З рэзалюцый V пленуму ЦК КПЗБ).

Ю. П—скі.

# Першы Зьезд КСМ ЗБ і бліжэйшыя задачы партыйнага кіраўніцтва Камсамолам.

У красавіку месяцы гэтага году адбыўся 1-шы Зьезд Камсамолу Заходняй Беларусі. Зьезд праходзіў ў варунках, калі агульнарэвалюцыйны ўздым ва ўсім краі захапляе сабой і шырокія масы працоўнай моладзі. Эканамічны крызыс з аграмаднай сілай б'е па маладых рабочых, батраках і сялянах. Беспрацоўе, атакі капіталістаў і абшарнікаў на заробкі яшчэ працуючых, вялізарны рост нэндзы і руйнаваньня ў вёсцы—усё гэта адбіваецца ня ў меньшай ступені і на моладзі. Палітыка нацыянальнага прыгнечаньня, прымусовай мілітарызацыі і фашызацыі вучнёўскай моладзі, сталыя пагромы левых арганізацый моладзі—б'юць па яе інтарэсах і палітычных правох.

Усё гэта стварае надзвычайна спрыяючую глебу для росту рэвалюцыйных настрояў і актыўнасьці сярод працоўнай моладзі. Апошнія падзеі ў Жырардове, Плоцку і Катовіцах, шматлікія дэманстрацыі ў Варшаве, забастовачныя выступленьні рабочых, растучая хваля сялянскіх выступленьняў—гаворыць аб актыўным удзеле ва ўсёй гэтай барацьбе працоўнай моладзі. Разам з гэтымі фактамі мы маем у нас на ЗБ рост выступленьняў моладзі ў сувязі з апошнім прызывам у армію моладзі нараджэньня 1909 г. У гарадох і мястэчках расьце нездавальненьне моладзі цэхавым законам, растуць забастовачныя настроі і гатоўнасьць да барацьбы.

Адначасова ліхаманкавая падрыхтоўка да вайны значна завастрае барацьбу фашызму, сацыял- і нацыянал-фашызму за ўплыў на моладзь. Цэлая сетка вайсковых і вайскова-спартыўных арганізацый—**ТУР, Стрэлец, Цукунфт** і беларускія нацыянал-фашыстоўскія арганізацыі, сетка розных культурных і сельска-гаспадарчых гурткоў і груп у вёсках—прабуюць ахапіць сваімі ўплывамі шырокія масы моладзі. Фашысты ў саюзе з беларускімі і яўрэйскімі нацыянал-фашыстамі імкнуцца ў нас на ЗБ скарыстаць лёзунгі «адзінага нацыянальнага фронту», шалёнага цкаваньня БССР дзеля таго, каб пад нацыянальнай фірмай арганізаваць беларускую і яўрэйскую працоўную і вучнёўскую моладзь. Напрыклад, акупанты і іх нацыянал-фашыстоўская агентура з усіх сіл імкнуцца, каб існуючыя беларускія гімназіі і яўрэйскія школы ператварыць у свае апорныя пункты сярод беларускай і яўрэйскай працоўнай моладзі.

У гэтых варунках, калі перад КСМ стаяць сапраўды вялізарныя задачы ў справе заваяваньня большасьці працоўнай моладзі і арганізацыі яе рэвалюцыйнай барацьбы, зусім недапушчальным зьяўляўся такі стан рэчаў, калі наш Камсамол **не спраўляўся з выкананьнем сваіх задач.** Першы Зьезд КСМ ЗБ з усей рашучасьцю канстатаваў, што КСМ ЗБ да часу зьезду **не ўтварыў яшчэ павароту да масавай работы,** ня выканаў рашэньняў 2-га зьезду Камсамолу Польшчы, не перамог у сваіх шэрагах настрояў сэктанцтва і замкнёнасьці. Разгортваючы шырокую самакрытыку, зьезд адзначыў, што асобныя дасягненьні, якія маюцца ў рабоце КСМ, ня могуць і не павінны ні на адну хвіліну скрыць такіх фактаў, як амаль поўная адсутнасьць фабрычных ячэяк Камсамолу, як паслабленьне работы ў вёсках, недастатковая актыўнасьць сярод салдат і навабранцаў, недапушчальна слабая работа ў варожых арганізацыях, слабасьць эканамічнай работы. Адзначыўшы гэтыя важнейшыя недахопы, зьезд усе пытаньні сваіх агульных і канкрэтных за-

дач распрацаваў пад пунктам погляду неабходнасьці **ў самы-жа бліжэйшы час утварыць на справе паварот да сапраўды масавай працы.**

Гэтай асноўнай ідэі была падпарадкавана ўся праца камсамольскага зьезду. Выходзячы з хутка нарастаючага рэвалюцыйнага ўздыму, набліжаючайся небясьпекі вайны, Камсамол павінен узяць баявыя тэмпы ва ўсёй сваей рабоце і ў справе ліквідацыі сваіх недахопаў.

Перад Камсамолам стаіць задача—арганізаваць барацьбу працоўнай моладзі **пад кіраўніцтвам Кампартыі** — супроць ваеннай небясьпекі, супроць нацыянальнага прыгнечаньня, супроць голаду, нэндзы, беспрацоўя і фашыстоўскага тэрару і на падставе штодзённых баёў падрыхтаваць моладзь да рашучай барацьбы за ўладу.

Асноўныя канкрэтныя задачы, якія пастаўлены перад КСМ яго 1-шым зьездам, зводзяцца да наступнага:

Заваяваньне большасьці рабочай моладзі пад сьцягам КСМ.

Неабходна разгарнуць арганізацыю барацьбы рабочай і батрацкай моладзі на падставе яе штодзённых патрэб, зьвяртаючы цэнтральную ўвагу на забастовачную барацьбу, у прыватнасьці барацьбу супроць цэхавага закону, і рух беспрацоўнай моладзі. Камсамольскія арганізацыі павінны праявіць больш ініцыятывы і актыўнасьці ў барацьбе за сэкцыі моладзі, за арганізацыю масавых груп Профлявіцы, за выкарыстаньне ўсіх легальных і напоўлегальных магчымасьцяў дзеля стварэньня шырокіх культурных, спартыўных і іншых арганізацый працоўнай моладзі.

У большай ступені чым дагэтуль належыць разгарнуць барацьбу супроць варожых нам арганізацый у горадзе і вёсцы—за тую моладзь, якая ідзе яшчэ за фашыстамі, сацыял- і нацыянал-фашыстамі, за клерам. Тут важна, каб камсамольскія арганізацыі навучыліся шырока ўжываць тактыку адзінага фронту зьнізу, каб яны навучыліся дэмаскаваць павадыроў варожых нам маладзежных арганізацый на канкрэтных фактах іх здрадніцкай дзейнасьці. Першы зьезд высунуў перад КСМ баявую задачу па ліквідацыі уплываў ТУРу, Цукунфту і Стральца ў масах працоўнай моладзі.

У бліжэйшы жа час КСМ павінен пабудаваць і ўзмацніць сэтку сваіх ячэяк на фабрыках, заводах, фальварках, усюды, дзе знаходзіцца рабочая і батрацкая моладзь.

Камсамол павінен зрабіць пералом у сваей вясковай працы. Неабходна аднавіць усе існаваўшыя вясковыя арганізацыі і адначасова адразу-ж заняцца пашырэньнем ужо існуючых арганізацый у вёсцы. Тут, таксама як і ў горадзе, камсамольскія ячэйкі павінны павярнуцца тварам да канкрэтных патрэб працоўнай моладзі, да яе штодзённых дамаганьняў.

Разам з партыяй і пад яе кіраўніцтвам неабходна актывізаваць усю сваю работу ў справе барацьбы супроць канкрэтных праяваў нацыянальнага прыгнечаньня на ЗБ, у справе ўцягваньня моладзі ў нацыянальна-вызваленчую барацьбу працоўных мас.

Важнейшай задачай усяго Камсамолу зьяўляецца самае актыўнае і хуткае разгортваньне сваей работы ў арміі, сярод навабранцаў і рэзэрвістаў. Камсамольскі зьезд высунуў задачу шырокай арганізацыі дапрызыўнай моладзі ў спэцыяльных гуртках і саюзах. Разам з гэтым зьезд высунуў лёзунг работы сярод салдат: «Кожны камсамолец павінен мець хаця-б аднаго знаёмага салдата для яго палітычнай апрацоўкі».

Камсамольскі зьезд высунуў перад арганізацыяй цэлы шэраг сур'ёзных задач у галіне арганізацыйнай палітыкі. Камсамольскія ячэйкі, гаркомы і АК павінны разгортваць сваю работу на падставе шырокай палітычнай ініцыятывы і самадзейнасьці, уцягненьня ў работу і вылучэньня новых колаў камсамольскага активу.

Выкананьне гэтых задач шчыльна зьвязана з рашучай барацьбой супроць сэктанцтва і замкнёнасьці, супроць апартунізму на практыцы, супроць адставаньня і пасыўнасьці.

Зусім відавочна, што задачы, якія пастаўлены зьездам перад усім Камсамолам, будуць выкананы пры ўмове, **калі ўся наша партыя прыдзе з шырокай і дзелавой дапамогай камсамольскім арганізацыям у гэтай справе.**

Як на самым зьезьдзе, гэтак і па ўсіх фактычных дадзеных з дзейнасьці партыйных камітэтаў, выявілася, што нашы партыйныя арганізацыі асабліва ў нізох, не надаюць неабходнай увагі камсамольскай працы і сур'ёзнай дапамогі камсамольскім арганізацыям. Дэлегаты зьезду правільна скардзіліся ў сваіх выступленьнях на факты недапушчальнай абыякасьці партыйных арганізацый да пытаньняў работы Камсамолу, факты неразуменьня ў асобных мясцох неабходнасьці вылучэньня камсамольцаў у арганізацыйна самастойныя ячэйкі, камітэты і г. д. Прыводзіліся факты, калі партыйныя арганізацыі дзелавую дапамогу і сур'ёзнае палітычнае кіраўніцтва падмяняюць камандваньнем і дробным апякунствам. Прыводзіліся факты, калі партарганізацыі на мясцох, не разумеючы задач, якія стаяць перад КСМ у галіне масавай работы, ператварылі іх у падсобныя сабе вузка тэхнічныя групы.

Усё гэта не магло не адбіцца на рабоце КСМ і з такімі адносінамі да КСМ неабходна рашуча скончыць. Неабходна, каб уся партыя ўразумела, якое вялізарнае значэньне набывае моладзь у варунках нарастаючага рэвалюцыйнага ўздыму і абвастраючайся ваеннай небясьпекі і як важна заваяваць гэту моладзь на бок камунізму. Толькі апартуністы могуць не зразумець і недаацэньваць значэньне работы сярод моладзі.

Справа павароту КСМ да масавай работы **гэта справа ня толькі самаго КСМ, але і ўсей партыі,**—так ставіў пытаньне яшчэ IV Пленум ЦК КПЗБ і так стаіць пытаньне і зараз пасьля першага зьезду Камсамолу. Партыйныя арганізацыі павінны прыйсьці з неадкладнай дапамогай Камсамолу ў справе правядзеньня ў жыцьцё рашэньняў зьезду.

У чым заключаюцца канкрэтныя задачы ў гэтай галіне, якія стаяць перад партыйнымі арганізацыямі?

Неабходна ўзмацніць штодзённае палітычнае кіраўніцтва КСМ. Прадстаўнікі партыі ў камсамольскіх арганізацыях, а іх дагэтуль яшчэ вельмі мала ў нізавых зьвеньнях арганізацыі, павінны **дапамагаць КСМ** у яго рабоце, павінны садзейнічаць таму, каб усе сілы партарганізацый дапамагалі КСМ у справе ажыцьцяўленьня яго задач. Неабходна, каб на парт. ячэйках, гаркомах і райкомах, у акруговых парткамітэтах рэгулярна стаялі пытаньні КСМ, справаздачы партпрадстаўнікоў у КСМ, каб **правяралася**, як у сапраўднасьці праводзяцца партыйцамі рашэньні парткіраўніцтва аб дапамозе КСМ.

Неабходна, каб у вясковых арганізацыях у баявым парадку было праведзена вылучэньне камсамольцаў у самастойныя арганізацыі. Там дзе ёсьць парт. ячэйкі, а няма яшчэ КСМ, неабходна, каб партыя вылучыла групу маладых партыйцаў для разгортваньня камсамольскай арганізацыі.

Неабходна значна ўзмацніць партыйнае ядро у КСМ. Гэта ўзмацненьне павінна ісьці па лініі прыняцьця ў партыю лепшых камсамольцаў з застаўленьнем іх на рабоце ў КСМ, а таксама па лініі пасылкі для работы ў камсамольскіх арганізацыях паасобных партыйцаў.

Партыйныя арганізацыі зьверху да нізу павінны заняцца вывучэньнем рашэньняў камсамольскага зьезду і **праверкай** таго, **як** гэтыя рашэньні **праводзяцца ў жыцьцё КСМ ЗБ.**

Ва ўсе кампаніі, якія праводзіць партыя, неабходна шырока ўцягваць камсамольскія арганізацыі і масы працоўнай моладзі. Адначасова ўсе спэцыяльна камсамольскія кампаніі павінны праходзіць пры самым актыўным удзеле у іх з боку ўсей партыі, ўсіх яе арганізацый.

**Паварот да масавай работы, правядзеньне ў жыцьцё рашэньняў камсамольскага зьезду павінна стаць абавязкам усіх партыйных арганізацый.** Гэта адна з першачарговых задач, на выкананьне якіх трэба кінуць неабходныя сілы партыі.

# МАТАР'ЯЛЫ І ДАКУМЭНТЫ.

## АСНОЎНЫЯ ЗАДАЧЫ ПАРТЫІ.

**(З рэзалюцыі III Пленуму ЦК КПП).**

Ня гледзячы на сур'ёзныя посьпехі, дасягнутыя партыяй у пэрыяд пасьля II пленума ЦК, актыўнасьць партыі **адстае** ад узможаных патрабаваньняў рэвалюцыйнага руху. У сітуацыі, якая набліжае пралетарыят да рашаючых баёў, адказнасьць партыі ўзрастае дзесяцікротна, і яе актыўнасьць павінна быць узмоцнена. Гэта датычыць, у першую чаргу, штодзенных баёў, якія павінны быць галоўным зьвяном у заваяваньні большасьці пралетарыяту, у заваяваньні для пралетарскай рэвалюцыі мільённых мас эксплёатаванага сялянства і шырокіх пластоў гарадзкой дробнай буржуазіі. Тэмп заваяваньня гэтых мас павінен быць паскораны. Усе больш пякучым становіцца **пытаньне пашырэньня масавай базы руху,** пераходзячага да вышэйшых формаў барацьбы. Наша партыя, ня гледзячы на спрыяючыя варункі, ня здолела вывесьці 1-га Мая на вуліцу значна большыя масы рабочых, чым у мінулым годзе. Вельмі слаба прайшлі майскія дэманстрацыі ў Заходняй Беларусі. Слабасьць партыі ў штодзённых баях перад Маем затрудніла ёй больш шырокую мабілізацыю мас на майскія дэманстрацыі. Таму партыя павінна яшчэ мацней, чым дагэтуль, ухапіцца за непасрэдныя патрэбы мас, павінна штодзённа арганізаваць іх барацьбу супроць наступленьня капіталу.

З гэтай мэтай патрэбна:

1. **Пашыраць фронт стачачнай барацьбы на групы фабрык і цэлыя галіны прамысловасьці;** хутка рэагаваць на ўсякія формы скарачэньня заробкаў, рэдукцый і лёкаўтаў, арганізаваць найбольш шырокае падтрыманьне бастуючых рабочых. Небясьпечнае зьявішча апошняга часу гэта—зьніжэньне актыўнасьці лодзінскай арганізацыі ў эканамічных баях. Дагэтуль таксама і варшаўская арганізацыя не змагла ўцягнуць мэталістаў у забастовачную барацьбу. Ня гледзячы на посьпехі рэвалюцыйнай апазыцыі ў саюзе чыгуначнікаў, партыя не зрабіла дастатковых высілкаў для таго, каб з'арганізаваць забастовачную барацьбу чыгуначнікаў хаця - бы Варшаўскай дырэкцыі. У часе забастоўкі варшаўскіх трамвайшчыкаў, якая мела шансы ператварыцца ва ўсеагульную забастоўку ў Варшаве, наша арганізацыя, якая праявіла вялікую актыўнасьць у правядзеньні забастовачнай барацьбы, не змагла аднак разгарнуць шырокай акцыі салідарнасьці і ўцягнуць у супольную барацьбу, у першую чаргу, камунальных рабочых. Прымаючы пад увагу высокі ўзровень рэвалюцыйных настрояў у масах, забастовачных настрояў сярод камунальных рабочых і чыгуначнікаў, варшаўская арганізацыя павінна была скансэнтраваць свае намаганьні на затрыманьні стратэгічных рашаючых цэнтраў (электростанцыя, газавыя заводы, чыгуначныя майстэрні, а таксама важнейшыя мэталевыя заводы, дзе пераважаюць нашы ўплывы) і адначасова з абвяшчэньнем забастоўкі камунальных рабочых заклікаць да ўсеагульнай забастоўкі ў Варшаве. Агульнае абвяшчэньне ўсеагульнай забастоўкі без такой канцэнтрацыі намаганьняў не змагло рушыць масы ў забастоўку.

У сучасны момант партыя павінна зьвярнуць асаблівую ўвагу на арганізацыю стачачнай барацьбы ў галоўных чыгуначных цэнтрах, сярод камунальных рабочых, сярод варшаўскіх мэталістаў, лодзінскіх тэкстыльшчыкаў, дзяржаўных служачых (у першую чаргу паштавікаў). Баявой задачай зьяўляецца каардынаваньне эканамічных баёў. Ужо сёньня насьпелі варункі для супольнага выступленьня рабочых у некалькіх важнейшых цэнтрах.

У сувязі з тым, што рабочыя масы стыхійна захопліваюць фабрыкі ў барацьбе супроць зачыненьня фабрык, скарачэньняў і лёкаўтаў нашыя арганізацыі, захопліваючы ў такіх выпадках у свае рукі кіраўніцтва ўнутры фабрыкі, адначасова вядуць звонку масавую кампанію падтрыманьня (матар'яльная дапамога бастуючым, дэманстрацыі салідарнасьці рабочых іншых заводаў, беспрацоўных і іх сем'яў, прaганяць паліцыю з бастуючай фабрыкі) і імкнуцца пашырыць барацьбу на бліжэйшыя заводы.

2. Пры сучасным напружаньні эканамічных баёў высілкі партыі павінны быць накіраваны на **арганізацыю масавых палітычных забастовак,** зьвязаных з вулічнымі дэманстрацыямі, забастовак салідарнасьці, забастовак пратэсту супроць глыбока узрушаючых масы бязчынстваў паліцыі, як, напрыклад, расстрэл у Яворжне, Любартове і г. д. Пленум канстатуе, што партыя ня здолела мабілізаваць, акрамя Дамброўскага басэйну, больш шырокіх мас да пратэсту супроць бойні ў Яворжні. Масавыя палітычныя забастоўкі, дэзарганізуючы дзяржаўны апарат, разьвязваюць сёньня рэвалюцыйныя сілы ва ўсім краі, а таксама каардынуюць рух рабочых на вытворстве з беспрацоўнымі, рух пралетарыяту і эксплёатаванага сялянства, рух рабочае клясы з нацыянальна-вызваленчым. З большым, чым дагэтуль, націскам, нам трэба папулярызаваць лёзунг усеагульнай забастоўкі, набліжаючы да яе масы шляхам стачачных баёў, распаўсюджаных на цэлыя галіны прамысловасьці. Сёньня ўсеагульная стачка ў такім цэнтры, як Варшава, Лодзь, Дамброўскі басэйн ці забастоўкі чыгуначнікаў можа—пры ўзмоцненай актыўнасьці партыі—ахапіць іншыя цэнтры і галіны прамысловасьці. Аграмаднае хваляваньне і шпаркі рост баявой гатоўнасьці мас, занятцьце фабрык паліцыяй і войскам, завастрэньне фашыстоўскага тэрару,—усё гэта ставіць перад партыяй як задачу сёньняшняга дню, арганізацыю ў паасобных цэнтрах усеагульных забастовак, каторыя пры актыўнай ролі партыі будуць перарастаць ва ўсеагульную забастоўку па ўсім краі.

3. **Стварыць сапраўдны пералом у арганізацыі стачачнай барацьбы сельска-гаспадарчых рабочых.** Барацьба гэта павінна быць прадмэтам высілкаў усей партыі. Ня гледзячы на рашэньні V Зьезду і II Пленуму, праца сярод сельска-гаспадарчых рабочых — за нязначнымі выключэньнямі—ня рушылася з месца. Сучасны пэрыяд патрэбна выкарыстаць для правядзеньня масавых забастовак супроць арбітражнага да-

гавору, за палепшаньне варункаў працы. Канцэнтруючы высілкі там, дзе арганізацыя мае найбольшы ўплыў (Варшава Падмейска, Любельская, Седлецкая акруга, сэзонныя рабочыя на З. У. і З. Б.), мы павінны адначасова пранікаць у раёны найбольшай канцэнтрацыі сельска-гаспадарчых рабочых (Пазнаншчына, Памор'е, Плоччына). Партыйныя арганізацыі павінны канкрэтызаваць выстаўленыя рамавыя патрабаваньні адпаведна з мясцовымі патрэбамі і прыступіць да стварэньня камітэтаў акцыі.

Для разгортваньня працы сярод сельска-гаспадарчых рабочых і для стварэньня актыву з-пасярод сельска-гаспадарчага пралетарыяту, неабходна вылучаць ўдарныя брыгады з асяродзьдзя батракоў, сэзоньнікаў і прамысловых рабочых, зьвязаных з вёскай.

4. **Узмацніць высілкі для каардынаваньня руху беспрацоўных і яго ўвязкі з барацьбой працуючых.** Справа датычыць узмацненьня кіраўніцтва партыі рухам беспрацоўных, больш частых выступленьняў беспрацоўных у акруговым і краёвым маштабах супроць зьніжэньня дапамог, за павялічэньне і распаўсюджваньне дапамог на ўсіх беспрацоўных. Кампанія гэта павінна знайсьці апору ў шырока разгалінаванай і па магчымасьці цэнтралізаванай сетцы камітэтаў беспрацоўных, колькасьць якіх нявыстарчальна, апрача Верхняй Сілезіі, Дамброўскага Басэйну і Варшавы Падмейскай, актыўнасьць іх слабая, а база вельмі вузкая. Слабы таксама ўдзел працуючых рабочых ў дэманстрацыях беспрацоўных, тады, як удзел беспрацоўных у стачачнай барацьбе працуючых (адпор штрайкбрэхерам, агульныя дэманстрацыі і г.д.) расьце.

5. **Пашырыць фронт сялянскай барацьбы супроць падаткаў, шарваркаў і падатковых экзэкуцый.** На чале задач партыі ў вёсцы высоўваецца **арганізацыя** масавага адмаўленьня ад уплаты падаткаў, узносаў, штрафаў, ліхвярскіх даўгоў. Большасьць анты-падатковых выступленьняў мае ўсё яшчэ распылены характар. Нашы арганізацыі, абмяжоўваючыся ў большасьці выпадкаў прапагандай лёзунгу: «Ні граша падаткаў», ня ўмеюць належным чынам мабілізаваць вакол кожнай экзэкуцыі ня толькі масы данай вёскі, але і масы ваколічных вёсак на дапамогу сялянам, якіх грабяць, а таксама рабочых бліжэйшых гарадоў для падтрыманьня змагаючыхся сялян. Нашы арганізацыі ня ўмеюць загадзя арганізаваць масавага адпору супроць перакладваньня на гміны ўсё новых падаткаў (дарожных, школьных, ваенных узносаў). Цэнтр цяжару нашай работы сярод эксплёатаванага сялянства павінен быць перасунуты з прапаганды на штодзённыя кампаніі, якія праводзяцца сялянскімі камітэтамі. Ударнай задачай партыі становіцца шырокая мабілізацыя сіл для барацьбы з карнымі экспэдыцыямі аж да розных форм узброенага адпору.

Прымаючы пад увагу вопыт сялянскіх выступленьняў на Заходняй Украіне, мы павінны надаваць **стыхійнай барацьбе рэвалюцыйнага сялянства** максымум арганізаванасьці і ўздымаць яе на вышэйшы ўзровень. Гэта датычыць у далейшым сялянскага руху падпалаў, што на З.У. і на З.Б., таксама як і ў Польшчы, належыць разьвіваць у масавую барацьбу супроць падаткаў, супроць падатковых экзэкуцый, супроць шарваркаў, супроць ліхвярскіх пазычак, у барацьбу за зямлю бяз выкупу, за рабоча-сялянскі ўрад.

На шляхах гэтай барацьбы, асабліва масавага адпору падатковым экзэкуцыям і карным экспэдыцыям, трэба накіраваць таксама сялянскія групы, якія хочуць ужо сёньня разгарнуць партызанскую барацьбу. Імкнучыся цяпер да максымальнай увязкі гэтых груп з агульнай клясавай барацьбой пралетарыяту і сялянскіх мас, **партыя пры больш высокім узроўні** рэвалюцыйнага ўздыму павінна быць гатова да разгортваньня стыхійных партызанскіх выступленьняў у арганізаваную партызанскую барацьбу.

6. **Узмацніць актыўнасьць партыі ў нацыянальна-вызваленчым руху** на Заходняй Украіне і Заходняй Беларусі шляхам арганізацыі барацьбы вакол частковых патрабаваньняў і разьвіцьця яе ў барацьбу супроць польскай акупацыі пад лёзунгам самавызначэньня аж да аддзяленьня. Змагаючыся ужо сёньня за самавызначэньне аж да аддзяленьня ад польскай дзяржавы, за зьнішчэньне польскай акупацыі, партыя супроцьстаўляе гэтую актуальную праграму вырашэньня нацыянальнага пытаньня фэдэралістычнай праграме, якая маскуе імкненьні польскага імпэрыялізму. Надаючы лёзунгу самавызначэньня аж да аддзяленьня характар **лёзунгу дзеяньня** за адзіны фронт найшырэйшых мас пралетарыяту, сялянства і гарадзкой дробнай буржуазіі, а значыцца, таксама нізоў нацыянал-фашыстоўскіх партый супроць польскага імпэрыялізму, наша партыя **прапагандуе** аб'яднаньне з Савецкімі Беларускай і Украінскай Рэспублікамі, як поўнае вырашэньне нацыянальнага пытаньня пасьля перамогі пралетарскай рэвалюцыі.

У Верхней Сілезіі наша арганізацыя ў нацыянальнай працы ня выйшла яшчэ з рамак прапаганды самавызначэньня аж да аддзяленьня. Нашы арганізацыі не вядуць штодзённай барацьбы супроць канкрэтных праяў нацыянальнага ўціску.

7. **Арганізаваць барацьбу гарадзкой беднаты** супроць падаткаў, падатковых экзэкуцый, супроць кватэрнага ліхвярства і высяленьня з кватэр (эксмісій), супроць дарагоўлі і шрубаваньня картэльных цэн. Нэндза, якая расьце сярод руйнаваных крызысам мас дробнай буржуазіі, стварае варункі для арганізацыі сярод іх больш сур'ёзнага руху супроць фашыстоўскай дыктатуры, за падтрыманьне барацьбы пралетарыяту.

8. Кожную кампанію **ўвязаць з барацьбой супроць імпэрыялістычнай вайны, у абарону СССР** што павінна заўсёды знаходзіцца ў цэнтры ўсіх імкненьняў партыі. Ударнай задачай партыі зьяўляецца сёньня мабілізацыя і вывядзеньне мас на вуліцу ў дзень 1-га Жніўня пад лёзунгамі паралізаваньня злачынных ваенных плянаў польскага імпэрыялізму. У кампаніі 1-га Жніўня ў гэтым годзе галоўны націск трэба зрабіць на папулярызацыі ў масах рэвалюцыйнага выхаду з крызысу, паказваючы на прыклад вялікай Кастрычнікавай рэвалюцыі і на заваёвы сацыялістычнага будаўніцтва ў СССР. Больш канкрэтна, чым дагэтуль, належыць выкрываць ролю II Інтэрнацыяналу, яго атрадаў у Польшчы— ППС і Бунду (кангрэс II Інтэрнацыяналу, кан-

грэс ППС),—як агэнтаў польскага імпэрыялізму пад шыльдай пацыфісцкай фразы.

9. **Паскорыць пры дапамозе тактыкі адзінага фронту зьнізу** працэс адыходу мас ад сацыял-фашыстоўскіх і народніцка-фашыстоўскіх партый. Супроцьстаўляць масы здрадніцкім павадырам у кожнай сутычцы. Укліняцца ў кожную шчыліну паміж нізамі і павадырамі гэтых партый, адрываць рабочую апазыцыю ад левых махераў у постаці Зарэмбы і т. п. і арганізацыйна ахопліваць элементы, якія парываюць з сацыял-фашызмам. У гэтым сэнсе трэба максымальна выкарыстаць зьезд ППС і факт аб'яднаньня сялянскіх партый на кулацкай плятформе. Забастоўка варшаўскіх трамвайшчыкаў павінна стаць узорам адзінага фронту мас праз галаву контррэвалюцыйных правадыроў.

Абавязковым варункам выкананьня партыяй гэтых задач зьяўляецца сталая, упартая і цьвёрдая барацьба з усімі праявамі апартунізму на практыцы — апартунізму правага, як і надалей галоўнай небясьпекі, і «левага» сэктанцтва, якое зьяўляецца базай для авантурыстычных тэндэнцый, тэндэнцый пераскакваць праз сучасны этап барацьбы за масы.

Найбольш небясьпечнымі зьяўляюцца зараз ілюзіі і памылкі ў дачыненьні да сацыял-фашызму, які як гаворыць XI пленум ВККІ, складае галоўную сацыяльную апору буржуазіі. Абавязкова глыбокае выкараненьне з партыі ўсіх рэшткаў варскізму-костшэвізму, якія вядуць да прынцыпіяльнага супроцьстаўленьня буржуазнай дэмакратыі фашыстоўскай дыктатуры, фашызму—сацыял-фашызму. Абавязкова, каб партыя ўсьвядоміла выразныя перспэктывы рэвалюцыі ў Польшчы, як пралетарскай сацыялістычнай рэвалюцыі з вялікім кругам дэмакратычна-буржуазных задач (самавызначэньне аж да аддзяленьня, нацыянальнае роўнапраўе, зямля сялянам бяз выкупу, аддзяленьне царквы ад дзяржавы). Круг гэтых задач больш за ўсё датычыць Зах. Украіну і Заходнюю Беларусь.

Згодна рэзалюцыям XI пленуму ВККІ, партыя павінна ўзмацніць барацьбу з небясьпечнымі сімптомамі хвасьцізму, праявамі недаацэнкі сітуацыі і адставаньня ад паскораных тэмпаў рэвалюцыйнага разьвіцьця. **Ініцыятыва партыі адстае ад настрояў мас, колькасьць сяброў партыі не адпавядае яе вярбовачным магчымасьцям. База нашых масавых трансмісій не адпавядае імкненьню мас да арганізацыі.**

Партыя павінна своечасова рэагаваць на кожны рух сярод мас, павінна ў самы кароткі тэрмін выканаць дырэктывы II пленуму ЦК аб падваеньні сваіх шэрагаў і ўзмацненьні кадраў. Партыя павінна весьці ўпартую барацьбу з правакацыяй. Партыя павінна ў тэрміновым парадку павялічваць партыйную арганізацыю, рэвалюцыйныя саюзы, апазыцыю ў сацыял-фашыстоўскіх і фашыстоўскіх саюзах, рэвалюцыйны прафсаюзны рух, асабліва на буйных фабрыках і ў стратэгічна-рашаючых цэнтрах працы. Пякучым пытаньнем застаецца надалей арганізацыя жаночых мас ў штодзённай барацьбе, сьмелае ўцягваньне работніц і сялянак у партыю.

Падобныя задачы стаяць сёньня перад партыяй у галіне юнацкага руху ў барацьбе за заваяваньне працоўнай моладзі для рэвалюцыі. Пленум падкрэсьлівае, што інтарэс, які праяўляюць дагэтуль партыйныя арганізацыі да барацьбы працоўнай моладзі, і палепшаньне адносін партыі да дзейнасьці КСМП недастатковы. Пленум канстатуе, што ня гледзячы на дасягнутыя КСМП посьпехі (рост актыўнасьці і ўдзелу КСМП у барацьбе рабочае клясы і сялянства, рост выдавецтваў, сур'ёзны лічбовы рост КСМП), асноўны пералом ў кіраўніцтве барацьбой моладзі, ва ўзмацненьні і пашырэньні ўплыву на буйных фабрыках яшчэ не дасягнуты.

Кожная арганізацыя, кожная партыйная ячэйка, кожны член партыі павінны яскрава ўцяміць сабе, што наша актыўнасьць, наша пранікненьне ў масы будзе рашаць тэмпы **перарастаньня штодзённых баёў у непасрэдныя баі за ўладу.**

**Масам галодных і пазбаўленых працы, дзякуючы раскладаючайся капіталістычнай гаспадаркі, выгінаючымся ў цiскох крызысу, партыя павінна паказваць шлях рэвалюцыі, шлях заваяваньня ўлады, павінна паказваць, што толькі пралетарская рэвалюцыя, пускаючы ў рух прамысловасьць для патрэб сацыялістычнага будаўніцтва, дасьць рабочым працу, дасьць хлеб мільённым масам.**

Вядучы масы на шлях рэвалюцыйнага вырашэньня крызысу, партыя ў сваіх акцыях высоўвае лёзунгі, якія каардынуюць рух мас, разьвязваюць іх баявую энэргію, сутыкаюць іх беспасрэдна з фашыстоўскім дзяржаўным апаратам, ставяць перад імі справу ўлады і палягчаюць ім пераход да вышэйшых форм барацьбы:

а) Ні граша падаткаў ўраду голаду, беспрацоўя, тэрару і вайны.

б) Не плаціць даўгоў, працэнтаў і рат.

в) Канфіскацыя сродкаў харчаваньня ў вялікіх складах, магазынах і абшарніцкіх маёнтках.

г) Карыстаньне сялянамі абшарніцкіх лясоў і пашаў.

д) Адбіваць і вызваляць арыштаваных.

е) Разбройваць фашыстоўскіх дружыньнікаў.

Паказваючы масам рэвалюцыйны выхад з крызысу шляхам **узброенага паўстаньня** рабочых, сялян і салдат, мы павінны сёньня прапаганду ўзброенага паўстаньня зьвязаць шчыльнейшым чынам з **заваяваньнем неабходных для яго перамогі пазыцый, з узьняцьцем бояздольнасьці партыі, падрыхтоўкай мас** да набліжаючайся ўзброенай барацьбы.

На першы плян тут выступае **ўзмацненьне працы ў арміі** для заваяваньня ўзброенных саюзьнікаў пралетарскай рэвалюцыі.

Барацьба за армію не стала яшчэ справай усяе партыі, усяго рэвалюцыйнага пралетарыяту. Без пашырэньня партыйнай арганізацыі ў арміі ня можа быць гутаркі аб сыстэматычным раскладаньні арміі, аб перанясеньні барацьбы пралетарыяту і сялянства ў казарму. Трэба таксама ўзмацніць работу ў «Стрэльцу» і іншых палуваенных арганізацыях, бяручы курс на вывядзеньне адтуль цэлых атрадаў і ўцягненьне іх у масавыя спартыўныя арганізацыі, арганізацыі самаабароны і г. д.

Далей — **пашырэньне самаабароны,** арганізацыйна-тэхнічнае палепшаньне яе кадраў у разьвіваючыхся баях.

Па трэцяе—**арганізацыйны ахоп цягі перадавых атрадаў пралетарыяту і сялянства да аружжа.**

Узброеным сілам фашызму мы супроцьставім усялякія формы адпору (барыкады, перарэзваньне тэлеграфных дротаў, разбраеньне паліцыі і фашыстоўскіх баявых атрадаў).

Пераход шырокім фронтам да вышэйшых форм рэвалюцыйнай барацьбы будзе вырашацца вывядзеньнем на вуліцу вялікіх мас, зьбліжэньнем мільёнаў рабочае клясы і эксплёатаванага сялянства, уцягненьнем ў барацьбу соцен тысяч батракоў, арганізацыйным ўзмацненьнем партыі, яе трансмісій да масаў.

Толькі на гэтым шляху мы зьнішчым усё яшчэ значную няроўнамернасьць росту рэвалюцыйнай хвалі і мабілізуем сілы для пераможнай атакі супроць фашыстоўскай дыктатуры, за дыктатуру пралетарыяту, за Польскую Савецкую Рэспубліку.

## АБ ПАЛЯПШЭНЬНІ РАБОТЫ ЯЧЭЯК І ВЫЛУЧЭНЬНІ МЯСЦОВАГА АКТЫВУ.

**(Пастанова ЦК КПЗБ).**

ЦК лічыць **рашучае вылучэньне, выхаваньне і праверку на працы мясцовага актыву ўдарнай чарговай задачай партыі ў галіне партыйнага будаўніцтва.** Варункі для вылучэньня мясцовага актыву павінны быць створаны зьнізу з **ячэйкі** шляхам палепшаньня і ажыўленьня работы ячэяк, а менавіта:

1. Правільнага разьмеркаваньня работы ўнутры ячэйкі, узмацненьня калектыўнай работы ячэйкі і пэрсанальнай адказнасьці кожнага сябра партыі за сваю работу.

2. Абкружэньня ячэйкі рознага роду непартыйнымі арганізацыямі поўлегальнымі і легальнымі.

3. Арганізацыі і актывізацыі партыйных фракцый ва ўсіх масавых арганізацыях, стварэньня апазыцый у арганізацыях, знаходзячыхся пад кіраўніцтвам варожых нам сіл.

Палепшаньне работы існуючых ячэяк у вышэйпаказаным напрамку зьяўляецца асновай для выкананьня тых складаных задач, якія стаяць перад раённымі і акруговымі арганізацыямі: далейшага арганізацыйнага пранікненьня на буйныя прадпрыемствы, узмацненьня і актывізацыі партыйных ячэяк на прадпрыемствах, перабудовы праф. ячэяк па прынцыпу «бліжэй да прадпрыемстваў», арганізацыі ячэяк сярод с.-г. рабочых, набліжэньня ячэяк да мас беспрацоўных, жонак рабочых і г. д. (вулічныя ячэйкі), афармленьня і ўпарадкаваньня вясковых ячэяк, стварэньня сеткі новых ячэяк у вёсцы, асабліва сярод каталіцка-беларускага і польскага сялянства, палепшаньня сацыяльнага складу вясковых ячэяк, г. зн. колькаснага ўзмацненьня ў іх пралетарскіх і поўпралетарскіх элемэнтаў.

ЦК лічыць, што паступовае, але сьмелае вылучэньне ў ходзе працы зьнізу да верху мясцовага актыву, сталы нагляд і праверка работы вылучэнцаў, усямерная ім дапамога шляхам дакладных паказаньняў, асабістых гутарак і тавары скай крытыкі, паскораная падрыхтоўка лепшых з іх з боку кіраўніцтва ЦК для самастойнай работы, уключаючы склад акр. камітэтаў і іх сакратароў, зьяўляецца асноўнай прадпасылкай выкананьня арганізацыйных задач, пастаўленых перад партыяй Зьездам КПП.

## АЦЭНКА ЗАБАСТОЎКІ ГУТНІКАЎ У ВІЛЬНІ.

1. Забастоўка на гутах Шапіро і Вітрум зьяўляецца пачаткам павароту партыі ў бок арганізацыі і кіраўніцтва эканамічнай барацьбой рабочае клясы. Рабочыя гутнікі, якія стойка стаялі ў барацьбе пад рэвалюцыйным кіраўніцтвам, паказалі ўсім рабочым Вільні і ўсёй ЗБ, што **рашучы адпор наступу фабрыкантаў і фашызму, што сапраўдная барацьба за палепшаньне свайго становішча магчымы толькі пад кіраўніцтвам прафлевіцы.**

Віленскія гутнікі, а галоўным чынам шапіроўцы, сталі аплотам рэвалюцыйнай барацьбы рабочых Вільні. Па прыкладу гутнікаў сталі да барацьбы цагельнікі, гарбары, рыхтуюцца да адпору капіталістычным атакам рабочыя станцыі помп, будаўнікі і іншыя. Па прыкладу гутнікаў у рашучую ўпартую барацьбу ўступілі беспрацоўныя, тартачнікі, цагельнікі.

2. Забастоўка на гутах была падрыхтавана і выклікана прафлявіцай. Увесь ход падрыхтоўчай барацьбы і забастоўкі сьведчыць аб узрослай рэвалюцыйнасьці і актыўнасьці рабочых гутнікаў.

Забастоўка прайшла пры папярэдняй шырокай масавай падрыхтоўцы (масоўкі з выбарамі агульнага, у большасьці рэвалюцыйнага, забастовачнага камітэту, нарады левых рабочых па абмяркаваньню патрабаваньняў і г. д.).

На працягу ўсей забастовачнай барацьбы рабочыя гутнікі напатыкаюцца на ўпартую работу ББ'хаў у бок здрады забастоўкі, зьвядзеньня яе на нішто. Спробы ББ зьвесьці забастоўку да фашыстоўскага арбітражу сустрэлі рашучы адпор з боку рабочых, галоўным чынам рабочых шапіраўцаў. Рабочыя ў ходзе забастоўкі на кожным павароце сваей барацьбы ўсё больш пераканаліся ў тым, што ББ цалкам стаіць на баку фабрыкантаў і фашыстоўскай дыктатуры. Моцна палі ўплывы ББ—рабочыя Шапіра прынялі рашэньне не дапускаць на гуту ніводнага ББ'хаўскага махера, з сьвістам іх спраўаджалі. Рабочыя Вітрум, якія да забастоўкі знаходзіліся пад уплывам ББ, зараз ад іх адварачваюцца.

Гутнікі рашуча супроцьставіліся спробам закулiснай прадажніцкай ліквідацыі забастоўкі. Рэвалюцыйны забастовачны камітэт на працягу ўсей забастовачнай барацьбы падтрымліваў **самы цесны кантакт з рабочымі, на вачох рабочых, разам з імі кантраляваў свае дзеяньні.**

Рабочыя Шапіра сваей загартаванасьцю ў барацьбе прымусілі фабрыканта здаволіць асноўныя патрабаваньні (18 проц. падвышкі) і пасьля 5-дзённай поўнай забастоўкі арганізавана прыступілі да працы. Партківраўніцтва жа недаацэніла дасягненьняў шапіраўцаў у гэтых умовах, **не зразумела сваечасовасьці звароту шапіраўцаў да працы і дала неправільную ўстаноўку на паўторную забастоўку да пераможнага канца.**

Ячэйкі партыі на гутах **у асноўным стаялі на вышыні свайго заданьня, — кіравалі барацьбой** і масавай працай. Ячэйкі на гутах далі прыклад усім парт. ячэйкам Вільні, **як фабрычная ячэйка павінна кіраваць штодзённай барацьбой.**

Ня гледзячы на тое, што парткіраўніцтвам было дадзена правільнае настаўленьне аб раз-

гортваньні акцыі салідарнасьці ва ўсім горадзе, партыя ў цэлым недастаткова зразумела важнасьць гэтай справы. Ня ўсе ячэйкі высунулі пытаньне гэта, як галоўнейшае. Прыкладам паўнейшага незразуменьня можа служыць ячэйка загатоўшчыкаў, якая сабраныя ў фонд бастуючых грошы не аднесла зараз-жа на гуту, а «пазычыла» на свае справы. Аднак трэба адзначыць шэраг дасягненьняў у гэтай галіне, як збор сродкаў на дапамогу бастуючым гутнікам сярод чыгуначнікаў і на інш. фабрыках, масоўкі салідарнасьці і г. д. Асаблівую самаадданасьць паказалі шапіраўцы, якія пасьля таго, як прыступілі да працы, вылучылі дзённы заработак у тыдзень на дапамогу вітрумоўцам.

У ходзе забастоўкі нашым ячэйкам на гутах таксама ўдалася ўцягнуць у дапамогу і астатнюю масу, выстаўляючы патрабаваньні для іх,— увядзеньне прадстаўнікоў моладзі ў забастовачны камітэт і г. д. Аднак трэба адзначыць, што моладзь у асноўным была мала актывізавана, што патрабаваньні для моладзі былі выстаўлены толькі ў ходзе забастоўкі, што патрабаваньне «палячы» (качагараў) аб ангельскай субоце ня было ўключана ў агульныя патрабаваньні.

Ня гледзячы на моцны ўпадак уплыву ББ сярод гутнікаў, на наяўную варожасьць рабочых да ББ нашы парт. ячэйкі і рэвалюцыйны актыў на гутах не накіравалі гэту ненавісьць у арганізацыйнае рэчышча.

Адсутнасьць масавай самаабароны адбілася і на тым, што ячэйкі недастаткова мабілізавалі масы супроць фашыстоўскага — ББ'хаўскага тэрару. У некаторых выпадках паддаліся тэрару: замест таго, каб напярэдадні 1-га мая пасьля арышту забастовачнага камітэту арганізаваць гутнікаў дзеля таго каб па рэвалюцыйнаму вызваліць сваіх таварышоў, праз дэманстрацыю пад арышт, вывядзеньнем рабочых гутнікаў на 1-майскую дэманстрацыю — парт. ячэйкі рашаюць на 1-майскую дэманстрацыю ня выводзіць рабочых (бо дэфэнзыва абяцала забастовачны камітэт выпусьціць у тым выпадку, калі гутнікі ў дзень 1-га мая будуць сядзець на гутах), не разумеючы, што выхад гутнікаў на рэвалюцыйную дэманстрацыю—гэта ўвязка эканамічнай барацьбы з палітычным выступленьнем— прымусла-б фабрыкантаў і ўладу пайсьці на задавальненьне патрабаваньняў гутнікаў.

Той факт, што група рабочых гутнікаў, якая ўвесь час стаяла ў барацьбе—усе-ж пад пагрозамі і націскам тэрару паддалася і пайшла на размовы з дэфэнзывай і падпісаньне дэкларацыі, сьведчыць аб тым, што 1) гэтыя рабочыя не зразумелі ўлоўкі дэфэнзывы і ББ, якія хацелі скампрамэтаваць рабочых прадстаўнікоў ў вачох усей масы гутнікаў дзеля таго, каб зламаць забастоўкі на Вітрум у раз у самы крытычны момант, унесьці раздор у асяродзьдзе рабочых і гэтым палегчыць фабрыканту сарваць заработную плату, 2) недаацэнілі рэвалюцыйнасьці гутнікаў і ўсіх рабочых Вільні, якія пайшлі-б грудзьдзю вызваляць прадстаўнікоў бастуючых гутнікаў толькі ў тым выпадку, калі яны даказалі-б прыклад стойкасьці рабочых прадстаўнікоў.

Адным з недахопаў трэба адзначаць нявыданьне газэткі альбо «бюлетэня барацьбы», які змог бы адыграць буйную арганізацыйную ролю, асьведамляў бы ўсіх гутнікаў (а таксама і ўсіх рабочых) штодзённа аб ходзе забастоўкі.

**(З ацэнкі Віленскага АК).**

## ХВАЛЯ ЗАБАСТОВАЧНАЙ БАРАЦЬБЫ НА ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ.

За апошні час на ЗБ мы маем хуткае нарастаньне забастовачнага руху. За забастоўкай гутнікаў у Вільні пасьледавала забастоўка тэкстыльшчыкаў Беластоку, камунальнікаў у Горадні, цагельнікаў і гарбароў у Вільні, сельскагаспадарчых рабочых у Бераставіцкім раёне, у Тэраспольскім раёне Бярэсьцейскай акругі і ў адным з раёнаў Віленшчыны, фанэрнікаў у Горадні, тарфяных рабочых у Алекшыцкім раёне, магістрацкіх рабочых у Бярэсьці. Акрамя таго шэраг забастовак рабочых у дробнай прамысловасьці ў шмат якіх гарадоў і мястэчак ЗБ.

Забастоўка гутнікаў была пачаткам шырокага забастовачнага руху. Амаль усе гэтыя забастоўкі былі накіраваны супроць рэдукцый рабочых і скарачэньня заработнай платы.

Самае характэрнае для важнейшых з іх—гэта іх салідарны характар—забастоўка выбухаючы ў тым ці іншым цэху, хутка пашыралася на ўсю галіну прамысловасьці.

Мы маем за апошні час бязумоўнае ўзмацненьне кіраўніцтва партыі эканамічнай барацьбой рабочае клясы. Перад многімі з гэтых забастовак праведзена папярэдняя масавая работа, праводзіліся масоўкі, на якіх выбіраліся камітэты акцый.

## ЗАБАСТОЎКА СЭЗОНЬНІКАЎ У БЕРАСТАВІЦКІМ РАЁНЕ.

Забастоўка сэзоньнікаў у Бераставіцкім раёне пачалася пры працах на сенажаці. Забастоўка ахапіла 180 чалавек. Было высунута патрабаваньне падвышкі зарплаты, 8-гадзінага дня працы і інш. Настроі забастоўшчыкаў насілі вельмі баявы характар. Забастоўка пачалася стыхійна, але нашы таварышы адразу сталі на чале яе і разгарнулі вялікую работу. Быў праведзены рад масовак, на якіх выбіраліся камітэты сэзоньнікаў з 3-х чалавек. Затым была склікана канфэрэнцыя ўсіх гэтых камітэтаў. Была вылучана самаабарона з 50 чалавек.

Вялікім недахопам зьяўляецца адсутнасьць масавай работы сярод сялян і сярод батракоў акаляючых маёнткаў. Гэтым тлумачыцца тое, што забастоўку не ўдалося перакінуць у маёнткі і распаўсюджыць яе па ўсяму раёну. Пры адпаведнай працы шмат чаго можна было-б зрабіць у гэтых адносінах. Аб гэтым сьведчаць хаця-б такія факты: калі да працуючых падыходзілі забастоўшчыкі і растлумачвалі ім, што тут адбываецца забастоўка, яны адразу-ж кідалі работу і салідарызаваліся з бастуючымі.

Гэта забастоўка паказала вялікую гатоўнасьць з боку сэзоньнікаў да барацьбы. Райком паставіў перад сабой задачу пашырыць гэту забастоўку, шырока папулярызаваць яе і правесьці далейшую масавую работу па падрыхтоўцы да забастовачнай барацьбы на час уборкі.

## У Савецкай Беларусі.

### ПЛЕНУМ ЦК КП(б) БЕЛАРУСІ.

У першых днях ліпеня адбыўся пленум ЦК КП(б) Беларусі. Пастановы пленуму сьведчаць аб вялізарных дасягненьнях БССР у галіне індустрыялізацыі і калектывізацыі сельскае гаспадаркі. Першае паўгодзьдзе трэцьцяга рашаючага году пяцігодкі прынесла новыя буйнейшыя посьпехі на ўсіх вучастках сацыялістычнага будаўніцтва.

Асаблівай увагі заслугоўвае пастанова пленуму ЦК КП(б) Беларусі аб тым, каб **закончыць у асноўным калектывізацыю ў БССР у 1932 г.** і ахапіць калгасамі да часу вясновага севу 1932 г. ня менш 75 проц. бедняцка-серадняцкіх гаспадарак.

Рэзалюцыя пленуму аб выніках вясновай пасеўнай кампаніі канстатуе, ...што «калгасны рух і ў БССР дасягнуў значных перамог: калгасамі на 1-е ліпеня 1931 году ахоплена 39,7 проц. бедняцка-серадняцкіх гаспадарак БССР.

Рад раёнаў БССР ўжо падышлі да завяршэньня ў асноўным суцэльнай калектывізацыі, а некаторыя раёны яе завяршылі (Койданоўскі —91,1 проц., Лепельскі—81,1 проц., Хоцімскі—75,8 проц. і г. д.)...

Плошча пасеваў з мінулага году пашырана на 7 проц.

Асноўная маса калгасаў і саўгасаў у асноўным з посьпехам справілася з сяўбой і дала ўзоры сапраўднай высока-прадукцыйнай працы, наглядна паказаўшай усе перавагі калектыўнай буйнай гаспадаркі перад гаспадаркамі аднаасобнымі. МТС з посьпехам скончылі сяўбу, выканаўшы пляны з перавышэньнем»...

Усё гэта сьведчыць аб факце буйнейшага гаспадарча-палітычнага значэньня, сьведчыць аб тым, што «калгаснае сялянства ўжо ператварылася ў цэнтральную фігуру земляробства, калгасы сталі **асноўным прадуктарам** не толькі ў галіне збожжа, але і важнейшага сельска-гаспадарчага сырцу (баваўна, буракі, сланэчнік і інш.)».

Адзначыўшы тыя вялізарныя дасягненьні, якія маюцца ў галіне перабудовы сельскай гаспадаркі, пленум з асаблівай сілай падкрэсьліў, што нельга абмяжавацца дасягнутымі посьпехамі і вызначыў рад канкрэтных задач, якія ўзьнікаюць у сувязі з набліжаючайся уборачнай кампаніяй, рад задач па лініі ўзмацненьня калгасаў і правільнай арганізацыі працы ў іх.

... «У саўгасах і калгасах арганізаваць работу такім чынам, каб абсалютна ўсе работы праводзіліся на аснове сапраўднай зьдзельшчыны.

... паставіць сыстэматычны ўлік работ ва ўсіх сэктарах сельскай гаспадаркі, асабліва ў калгасах і саўгасах, маючы на ўвазе тое, што зьдзельшчына ня можа быць ажыцьцяўлена без сваячасовага ўліку колькасьці выпрацаваных кожным калгаснікам працадзён. «Больш таго, бяз уліку немагчыма існаваньне калгасаў, як буйнай гаспадаркі» (чэрвеньскі пленум ЦК УсеКП(б).

... Пленум высоўвае перад усей КП(б)Б задачу неадкладнай перабудовы партработы вясковых партарганізацый у адпаведнасьці з патрабаваньнямі бягучага пэрыяду сацыялістычнай рэканструкцыі народнай гаспадаркі

Рэзалюцыя аб выкананьні прамфінпляну гаворыць аб далейшых дасягненьнях у справе сацыялістычнай індустрыялізацыі БССР.

«Аднак вынікі выкананьня прамфінпляну за 5 месяцаў трэцяга рашаючага году пяцігодкі (студзень—май 1931 г.) зьяўляюцца нездавальняючымі. Плянавае заданьне па выпуску прадукцыі прамысловасьці ВСНГ выканана на 85,1 проц.

Пленум ЦК лічыць асабліва недапушчальным і пагражаючым становішча ў выкананьні прамфінпляну па такіх галінах, як мэталяапрацоўчая і асабліва па сэзонных галінах прамысловасьці, якія грунтуюцца на мясцовым сырцу (торф, будаўнічыя матар'ялы, фасфарытныя распрацоўкі)».

«Прычынамі гэтага, — як адзначае пленум, — зьяўляюцца: слабае кіраўніцтва гаспадарчых арганізацый, недапушчальна павольная перабудова на новыя формы і мэтады кіраваньня прамысловасьцю, фармальнае правядзеньне гаспадарчага разрахунку на большасьці прадпрыемстваў і галін прамысловасьці, неперабудаваньне партыйна-масавай і прафсаюзнай работы на прадпрыемствах, неналаджанасьць унутрызаводзкага пляннаваньня, а таксама недапушчальная недаацэнка з боку большасьці гарадзкіх і раённых камітэтаў партыі, гарадзкіх саветаў і РВК значэньня выкананьня прамфінпляну. У выніку ўсяго гэтага стварылася дрэннае забесьпячэньне рабочай сілай, слабая арганізацыя рабочай сілы і слабае яе выкарыстаньне».

Пленум мабілізуе ўвагу ўсей партыі на гэтыя недахопы, дае рад найканкрэтнейшых дырэктыў, як у самы кароткі тэрмін ліквідаваць адставаньне на асобных вучастках, перабудаваць формы і мэтады кіраўніцтва прамысловымі прадпрыемствамі, узмацніць тэмпы работы, узмацніць прыток рабочай сілы, палепшыць культурна-бытавое абслугоўваньне рабочае клясы.

«Пленум ЦК прапануе гаспадарчым органам грунтоўным чынам перабудаваць сыстэму вярбоўкі кадраў, шырока скарыстоўваючы на дагаворных падставах рабочую сілу калгасаў, і прыняць рашучыя захады да палепшаньня культурна-бытавога абслугоўваньня рабочых.

З мэтаю стымуляваньня лепшага замацаваньня рабочых за прадпрыемствамі, неабходна наладзіць работу па перакваліфікацыі рабочых...

... Пленум адзначае зусім дрэнную пастаноўку тарыфнай работы на прадпрыемствах, што ў асноўным пацьвярджаецца ўжываньнем значнай колькасьці розных сыстэм аплаты на адным і тым-жа прадпрыемстве, асабліва прыстасаваньне сыстэмы аплаты з часу (павременной), замест простай зьдзельшчыны, правядзеньнем практыкі ўраўнілаўкі па паасобных прадпрыемствах, дрэннай пастаноўкай работы тарыфнанормировачных бюро на прадпрыемствах. Нярэдкі выпадкі, калі кваліфікаваныя рабочыя аплачваюцца ніжэй за чорнарабочых, што зьніжае ўсялякую зацікаўленасьць рабочых да павялічэньня прадукцыйнасьці працы і павышэньня сваёй кваліфікацыі.

Пленум ЦК абавязвае ўсе партыйныя і гаспадарчыя органы павесьці рашучую барацьбу з «абезьлічкай» у вытворчай працы, а таксама палепшыць і наблізіць да рабочага неабходныя інструмэнты, прылады і г. д.

... Улічваючы цесную сувязь пытаньня выканањня прамфінпляну з пытаньнямі рабочага забясьпечаньня, жыльлёвага будаўніцтва, культурна-бытавога абслугоўваньня рабочых, пленум ЦК лічыць патрэбным прысьпяшыць перабудову працы спажывецкай кааперацыі, у першую чаргу далейшую арганізацыю і гаспадарчае замацаваньне існуючых зачыненых рабочых каапэратываў, разгортваньне дзейнасьці і наладжваньне грамадзкага харчаваньня. Пленум ЦК даручае ўсім раённым партарганізацыям безадкладна праверыць перабудову сыстэмы спажывецкай каапэрацыі на мясцох, дабіўшыся пералому ў гэтай справе»...

Рэзалюцыі пленуму зьмяшчаюць яшчэ рад указаньняў як перабудаваць работу партыйных, гаспадарчых і прафсаюзных арганізацый, каб лягчэй было арганізаваць самыя шырокія масы на барацьбу за прамфінплян.

З новымі сіламі, з бальшавіцкай настойлівасьцю партыя ідзе наперад, узброенная рашэньнямі свайго кіруючага штабу ЦК КП(б)Б,—вядучы за сабой масы да выкананьня прамфінпляну 2-га паўгодзьдзя, да завяршэньня трэцяга рашаючага году пяцгодкі.

## Міжнародная хроніка.

### КАНФЭРЭНЦЫЯ 5-ці БРАЦКІХ СЭКЦЫЙ КАМІНТЭРНУ.

У Лёндану адбылася канфэрэнцыя камуністычных партый Нямеччыны, Англіі, Францыі, Польшчы і Чэха-Славакіі. Канфэрэнцыя абмеркаваала становішча, якое стварылася ў сувязі з абвастрэньнем імпэрыялістычных супярэчнасьцяў у Эўропе. Пасьля дакладаў прадстаўнікоў паасобных партый разгарнуліся спрэчкі, якія выявілі поўнае аднадушша ў ацэнцы сёньняшняга становішча, цалкам пацьвердзіўшага правільнасьць палітычнай лініі ўстаноўленай XI пленумам ВККІ.

Канфэрэнцыя падкрэсьліла, што папулярызацыя пастаноў **XI пленуму ВККІ** ў шырокх масах зьяўляецца аднэй з важнейшых задач кампартый. Яна ўказала на неабходнасьць пільна сачыць за разгортваючыміся падзеямі, у прыватнасьці ў Нямеччыне, дзе агульнае абвастрэньне капіталістычных супярэчнасьцяў прывяло да хуткага нарастаньня прадпасылак рэвалюцыйнага крызысу. Канфэрэнцыя горача вітала змагаючыхся пад кіраўніцтвам Нямецкай Камуністычнай партыі **масы нямецкага пралетарыяту,** а таксама пастановы **ЦК Нямецкай Камуністычнай Партыі** аб усеагульным галасаваньні супроць сацыял-фашыстоўскага прускага ўраду.

Канфэрэнцыя прыняла шэраг канкрэтных мерапрыемстваў у напрамку ўзгодненага выступленьня важнейшых камуністычных партый Эўропы супроць імпэрыялістычных плянаў, узмацненьня прыгнечаньня нямецкага народу і душэньня рэвалюцыйнага руху.

### АДОЗВА КАМПАРТЫЙ НЯМЕЧЧЫНЫ, ФРАНЦЫІ, ЧЭХА-СЛАВАКІІ, ПОЛЬШЧЫ

Лёнданская канфэрэнцыя зьвярнулася да пралетарыяту Эўропы з наступнай адозвай:

«Абвясьціўшыя 17 год таму назад сусьветную вайну імпэрыялістычныя ўрады—гаворыцца ў адозве—узмоцненым тэмпам узбройваюцца для новых войнаў, зьбіраюцца ў Чэкерсе, Парыжу і Лёндану для таго, каб абгаварыць пытаньне аб выхадзе з тупіку, у які папала іх імпэрыялістычная сыстэма. Сусьветны эканамічны крызыс вырас у Нямеччыне ў выніку версальскай сыстэмы ў пагрозу эканамічнай катастрофы. Ён вядзе да самых цяжкіх устрасеньняў капіталістычнай сыстэмы ў цэлым.

Вы, рабочыя капіталістычных краін, якія мяжуюць з Нямеччынай не забывайце таго, што сыстэма прыгнечаньня і эксплёатацыі, якая сёньня душыць працоўных Нямеччыны, **ня спыняецца ў пагранічных слупоў.** Драпежная буржуазія ўсіх капіталістычных краін выкарыстоўвае ў сваіх інтарэсах наступленьне нямецкай буржуазіі. У Францыі, Англіі і г. д. ужо пачалося зьніжэньне заработнай платы. Калі-б удаўся плян фашыстоўскага зьняволеньня нямецкага пралетарыяту, то гэта было-б накіравана таксама і супроць вас. **Супраціўленьне і барацьба нямецкага пралетарыяту—ваша барацьба. Праяўляйце братэрскую салідарнасьць з нямецкай рабочай клясай!**

Рабочыя і сялянскія масы ўсіх краёў павінны разумець, што шлях да вызваленьня ад капіталістычнага прыгнечаньня і імпэрыялістычнай няволі ідзе праз зьнішчэньне II Інтэрнацыяналу. Неабходнейшай задачай рэвалюцыйнага руху ў Эўропе ў сучасны момант зьяўляецца заваяваньне большасьці рабочае клясы на бок рэвалюцыйнага клясавага фронту, пад кіраўніцтвам камуністычных партый, заваяваньне тых, хто сёньня яшчэ ідзе за здрадніцкай сацыял-дэмакратыяй.

Камуністычныя партыі Францыі і Англіі ад імя рэвалюцыйнага пралетарыяту ўрачыста заяўляюць усяму сьвету і сваёй буржуазіі: **рэвалюцыйны пралетарыят гэтых краёў нічога агульнага ня мае з агробленьнем працоўных Нямеччыны буржуазіяй.** Мы, камуністычныя партыі Францыі і Англіі, заяўляем пратэст супроць грабяжы, якая праводзіцца на падставе версальскай сыстэмы Мы прызнаем права і абавязак працоўных Нямеччыны апуляваць і парваць пасьля зваленьня сыстэмы эксплёатацыі ў іх краіне пявольніцкія дагавары, якія падпісаны ў Вэрсалі, Сэн-Жэрмэне, Сэўры і г. д.

Мы заяўляем, што гэта зьяўляецца адзіным выхадам з галоднай катастрофы, якая захоплівае Нямеччыну і ўсю Эўропу. Мы, камуністычныя партыі Францыі, Англіі, Польшчы і Чэха-Славакіі заяўляем, што барацьба нямецкага пралетарыяту ёсьць наша барацьба. Мы заклікаем працоўных Францыі, Англіі, Польшчы і Чэха-Славакіі, а таксама увесь міжнародны пралетарыят падтрымаць вызваленчую барацьбу нямецкага пралетарыяту.

Будзьце на стражы перад разбойніцкімі інтэрвенісцкімі плянамі імпэрыялістычных уладароў Францыі, Англіі і Польшчы, якія хочуць удушыць надыходзячую пралетарскую рэвалюцыю ў Нямеччыне і якія ліхаманкава рыхтуюць вайну супроць Савецкага Саюзу. Будучая свабодная сацыялістычная савецкая Нямеччына—бацькаўшчына рабочых усіх краін, бацькаўшчына французкага, ангельскага, польскага і чэха-славацкага пралетарыяту ў такой-жа ступені як і нямецкага пралетарыяту»

З Ь М Е С Т:

